Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991.

Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

Восьмы год выданьня

№12 (109), 1998

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# СЬВЯТЛО, ЗАШЫФРАВАНАЕ Ў СМУЗЕ

**Сяргей Паўлоўскі**

У цэнтральнай частцы Вашынгтона на скрыжаваньні P-street і 22-й вуліцы стаіць помнік Тарасу Шаўчэнку, на якім я прачытаў словы ўкраінскага песьняра:

*... коли*
*ми діждемося Вашингтона*
*з новим і праведним законом?*
*А діждемось таки колись!*

У сквэрыку на лаўцы дзень і ноч ляжыць бяздомны чорны чалавек. Ён не чакае Вашынгтона са спра-вядлівым законам. Яму, мабыць, і так добра. Бяздомнасьць — ягонае крэда, яна ня кара, а выбар. А вось Украіна, якая клікала амэрыканца вуснамі свайго кабзара ажно ў 1857 годзе, усё яшчэ чакае. І перад новымі прэзыдэнцкімі выбарамі, якія адбудуцца праз год, тусуе ўсё тую ж зацёртую калоду яшчэ савецкай намэнклятуры, у якой Вашынгтона — няма. Але што да мяне, то прачытваю я ў словах Тараса Шаўчэнкі пра сваё, пра Беларусь. «Калі *мы* дажджэмася Вашынгтона»?

***

Вашынгтон надзвычай, без усялякай меры зялёны горад, дзе паўсюль шум аўто мяшаецца з птушынымі галасамі. Вуліцы тут нагадваюць пра Лёндан, а дзікія паркі, лагчыны й яры прымушаюць ня верыць, што ты — на зваротным баку Зямлі, а ня дзе-небудзь у Віленскім нагорным парку ці ў ваколіцах Мазыра. Асабліва калі сярод гэтай зеляніны цябе засьпее навальніца зь перунамі і зусім ліпеньская, як па-нашаму, зьліва.

Якраз пад такой навальніцай мы з калегамі выйшлі з лагчыны да праваслаўнай царквы. Вашынгтонская руская царква — ляпідарнае збудаваньне, у якім вісяць ляпідарныя абразы, няма ані каліва пазалоты або звыклых у нас карункаў, і служба вядзецца па-ангельску, дакладней, па-амэрыканску, бо ўсе сьпяваюць, ледзьве не прытанцоўваючы, як у большасьці пратэстанцкіх сьвятыняў ЗША. Калега-журналістка, расейка з Джамбула, які цяпер называецца Тараз, нават паставіла сьвечку, чым выклікала ў астатніх лёгкую пашану. Увечары за агульным сталом яна прызналася, што паставіла сьвечку за Лукашэнку, якога вельмі любіць. Я стаў драматычна распавядаць пра тое, што ў нас стагнацыя, ёсьць палітычныя вязьні, і вельмі цяжка выжываць незалежным газэтам. А Лукашэнка — гэта такі дракон, якому, як у вядомым фільме, рана ці позна зьнясуць галаву. На гэта расейка, не зьміргнуўшы вокам, сказала: падарыце мне здымак вашага дракончыка!.. Напэўна, гэта сапраўды была любоў. Але я ня стаў ёй патакаць і заўважыў: толькі наўзамен на здымак вашага Назарбаева. Журналістка скрывілася.

Гэтак міжволі ў Вашынгтоне мне давялося патрапіць у эпіцэнтар страсьцей і парадоксаў так званай СНГ. Казахі распавядалі пра валюнтарыста Назарбаева, малдаваны — пра тыраспальскага стагнатара Сьмірнова. Сытуацыя з Прыднястроўем замарожаная гэтаксама, як і з далучэньнем да Румыніі. На прыднястроўскім купоне ў 500 рублёў — палкаводзец Сувораў. Малдаўскую мову ў Тыраспалі на лацінку не перавялі. У астатняй Малдове ўжо 10 гадоў, як перавялі, і называюць румынскай.

Алкат у савецкія часы з рознай хуткасьцю адбываецца ва ўсіх краінах СНГ. Толькі нідзе, акрамя нас,

Працяг на старонцы 9



Мэмарыял Томаса Джэфэрсона ў Вашынгтоне

# Зваротны адлік

**Віталь Тарас**

У гэтым сэзоне на кінаэкраны адзін за адным выходзяць фільмы-хіты ў жанры «катастрофы»: «Судны дзень», «Армагедон», «Гадзіла». У першых двух эксплюатуецца біблейская ідэя скону сьвету, падмацаваная, нібыта, ведамі сучаснае астраноміі ды астрафізыкі. Камэта Хэйла-Бопа, прыгожы хвост якой можна было назіраць летась няўзброеным вокам на начным небасхіле, падштурхнула фантазію аўтараў «Суднага дня», паводле якой маленькі кавалак падобнай камэты ўразаецца ў нашую плянэту, і агромністая акіянская хваля зьлізвае з твару Зямлі ўсходняе ўзьбярэжжа Злучаных Штатаў разам з Капіталійскім пагоркам і статуяй Свабоды. У «Армагедоне» зямляне (у тым ліку — найперш — Брус Уіліс) спрабуюць ўратавацца ад астэроіду велічынёй са штат Тэхас.

Зразумела, што з заканчэньнем другога тысячагодзьдзя ад нараджэньня Хрыста падобных фільмаў і кніг на тэму канца сьвету будзе ўсё больш. І справа тут ня толькі ў звычайнай кан'юнктуры — з гісторыі вядома, што напрыканцы стагодзьдзяў у краінах эўрапейскае цывілізацыі звычайна ўзмацняюцца апакаліптычныя настроі. Пярэдадзень XX ст., праўда, выглядае нейкім выключэньнем. Многім тагачасным філёзафам, навукоўцам і літаратарам (і ня толькі Жуль Вэрну, альбо Чэхаву)

Працяг на старонцы 2

# Курапаты. Дзесяць гадоў пасьля

**Калі я зьвярнуўся да Зянона Пазьняка з прапановай успомніць і напісаць, як былі адкрытыя Курапаты, узгадаць гісторыю публікацыі, я меў на ўвазе ўзнаўленьне кантэксту — той нядаўні час ужо стаў завершанай асобнай эпохай. Мы праскочылі яе на надзвычайнай хуткасьці. Мы не пасьпявалі тады азірнуцца — так з самалёту зямля ўнізе выглядае роўнай і гладкай; пры пасадцы любая купіна ператвараецца ў Манблян.**

**Наўрад ці хто памятае, што артыкулу «Курапаты. Дарога сьмерці» ў ЛіМе у 1998-м, апроч прадмовы Васіля Быкава, папярэднічаў эпіграф з пастановы XIX Усесаюзнай партканфэрэнцыі. У праграмных дакумэнтах антыкамуністычных арганізацыяў можна знайсьці спасылкі на Леніна і пастановы партзьездаў. Рэчаіснасьць двайлася і траілася. Нас і дагэтуль трасе і кідае ў бакі — мы ня можам узьляцець.**

**Курапаты сталі вядомыя сьвету дзесяць гадоў таму. З таго часу толькі два парлямэнты заканадаўча асудзілі камуністычны таталітарызм: у ліпені 1993-га гэта зрабілі ў Празе, у чэрвені сёлета — у Варшаве.**

**Курапаты былі першай тэрыторыяй нашай свабоды. За мінулыя дзесяць гадоў яна павялічвалася і памяншалася; зараз яна сьціснулася амаль да межаў самых Курапатаў. Камунізму няма куды адступаць, бо за ім Курапаты...**

АЛЯКСАНДАР ЛУКАШУК

**Зянон Пазьняк**

Калі я цяпер азіраюся на дзесяць гадоў назад, дык не магу па-збавіцца вострага адчуваньня спрэсаванага часу. Якраз у гэтае дзесяцігодзьдзе адбыліся ў нас падзеі, якія фармуюць будучыню, выклікаюць перамены асноваў. Адной з такіх падзеяў, я лічу, было адкрыцьцё праўды пра Курапаты.

У гісторыі кожнай нацыі ёсьць свой лёс, свая ўдача, сваё наканаваньне, якія абумоўленыя і вынікаюць з характару людзей. Тут ня трэба нічога шукаць звыш. Звыш дадзена толькі жыцьцё. І тым ня менш у гэтым фізычным, сацыяльным, духоўным жыцьці ёсьць падзеі, зьявы і нават прадметы, якія набываюць знакавае, вызначальнае, сымбалічнае значэньне для цэлых эпохаў. Такім вызначальным сымбалем і знакам зьяўляюцца для беларусаў Курапаты.

Лёгіка падказвае, што, каб пераміяніць грамадзтва, дастаткова зьмяніць яго знак. І я пагаджаюся з гэтым.

Дык ідземце ж у Курапаты і пабудуем там Беларускі Храм, дзе будзе гучаць вечны рэквіем тым, якіх забілі, тым, што маўчалі й вечна маўчаць.

Калі мы гэта зробім, і калі гэта станецца, то мы заўважым ужо іншае грамадзтва, іншыя дачыненьні і іншы народ.

* * *

Пра знакавае значэньне Курапатаў падсьвядома я здагадваўся даўно, яшчэ ў 70-х гадох. Я разумеў, што трэба берагчы таямніцу. Інакш камуністы зьнішчылі б гэтае месца. Такі досьвед я меў пазьней у гісторыі з Лошыцай пад Менскам – месцам, такім жа, як Курапаты. Сьляды Лошыцкіх расстрэлаў энкавэдысты зьнішчылі ў 1988-м, прасачыўшы, я думаю, накірунак маіх дасьледаваньняў.

Забыцьцё гісторыі прыводзіць да зьнікненьня культуры. Страта памяці пра генацыд – да бездухоўнасьці і паўтарэньня забойстваў.

На шчасьце, былі беларусы, якія рупіліся пра памяць. Першай працай, якая расказала свету пра ленінска-сталінскі Гулаг, стала кніжка ўспамінаў салавецкага вязьня Францішка Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ», выдадзеная ў сярэдзіне 30-х гадоў і адразу перакладзеная на шмат якія эўрапейскія мовы. Я прачытаў яе ў бібліятэчным спэцфондзе ў Вільні ў пачатку 70-х гадоў, калі ўжо ведаў пра Курапаты. Кніга ўразіла мяне мастацкім узроўнем і інтэлігентнасьцю мовы, уменьнем пра турэмную рэчаіснасьць расказаць спакойна, з вышыні культурнага чалавека.

Кніга Аляхновіча, размовы зь незабыўнай Ларысай Геніюш і іншымі вязьнямі мяне найбольш умацавалі ў думцы, што трэба абавязкова давесьці сьвету праўду пра Курапаты. Але як? Як гэта зрабіць у краі, дзе бязьмежна пануюць КПСС і КГБ?

* * *

З усёй гісторыі пасьлясталінскай савецчыны 70-я гады мне падаюцца найбольш задушлівымі. Гэтая духата, здавалася, вісела ў паветры, гайдалася й гусьцела пад п'яныя песьні здэнацыяналізаваных людзей. Залаты час намэнклятуры. Ён асацыюецца ў мяне чамусьці з вернападданскай фізіяноміяй першага сакратара ЦК КПБ Машэрава, зь яго тандэтным акторствам і выступамі пра «камуністычную цывілізацыю». Гэты манкурт і «друг пісацелей» імкнуўся першым прывесьці Беларусь да камунізму: пазачыняў амаль усе беларускія школы, паўсюдна ўвёў расейскі «язык» і вывеў беларускую мову з афіцыйнага ўжытку; ён асабіста ініцыяваў зьнішчэньне гістарычных цэнтраў беларускіх гарадоў і старажытнай вуліцы Няміга ў цэнтры Менску.

4.10.1980, едучы зь недазволенай хуткасьцю ў партыйным картэжы, машына Машэрава ўрэзалася ў прычэп з бульбаю. Зьявіўся іншы царок, потым – іншы, потым яшчэ іншы. Усе яны аднолькава любілі ўладу. Усе яны аднолькава не любілі Беларусь.

* * *

У пачатку 70-х я жыў у мікраараёне Менску ля Лагойскай шашы па вуліцы Кальцова. Адсюль адкрываўся від на палі й далёкі лес. Побач, справа ад жытнёвага поля – вёска Зялёны Луг.

Неяк, гаворачы зь зялёналускімі дзядамі, я й наштурхнуўся на тое, што хавалася ў тым недалёкім лесе – месца расстрэлаў НКВД. Потым пра тое ж мне расказваў мой добры знаёмы інжынэр Яўген Шмыгалёў, які даўно ўжо чуў апавяданьні вяскоўцаў. Калі мы першы раз прыйшлі ў гэты лес восеньню, пад нагамі шапацела апалае лісьце, што зьдзімалася ветрам у западзіны ямаў. Ямаў было безьліч. І гэта мяне ўразіла, як маланка.

Памятаю, як доўга тады ў Курапатах хадзілі мы па гары, спаласаванай магіламі расстраляных. Пік камунізму.

Зрэшты, кожны генсек рабіў свой Пік камунізму. Не пашанцавала толькі Гарбачову. Гэты, наслухаўшыся пра эўракамунізм, пачаў сумяшчаць несумяшчальнае: камунізм і дэмакратыю, рынак і сацыялізм, галоснасьць і партыйнасьць, сувэрэнітэт і імпэрыю.

Стала зразумела, што расказаць людзям пра Курапаты можна паспрабаваць якраз цяпер, перад XIX-ай парткан-

Працяг на старонцы 6

*Газэтны варыянт

# Лісты ў рэдакцыю

*Добры дзень, шаноўная «Наша Ніва»!*

*Сучасны антыдэмакратычны рэжым робіць усё, каб пазбавіць беларусаў усяго беларускага. Зачыняюцца беларускія школы, душацца газэты, забараняюцца мастацкія выставы, не выдаюцца беларускія кнігі. Улады цалкам ігнаруюць беларускую культуру. Нават дзецям вядома, што ў сфэры культуры адна з самых малых заробтная плата. На беларускім тэлебачаньні большасьць перадачаў – расейскамоўныя, цалкам адсутнічаюць беларускамоўныя мастацкія фільмы. Беларус, які плоціць усе падаткі, ня мае магчымасьці ў сваёй дзяржаве набыць ня толькі беларускамоўную відэакасэту ці музычны кампак-дыск, а нават беларускую паштоўку. У мяне такое ўражаньне, што Міністэрства культуры існуе толькі як дэкарацыя для адпаведных асобаў і ня толькі не разьвівае беларускую культуру, а нават зусім не абараняе. Усё беларускае зьнікае проста на вачах. Калі так будзе працягвацца, то беларуская культура зьнікне, як зьнікалі культуры інкаў ці мая. Адзіным сьвежым подыхам у гэтым царстве цьмы ёсьць рэдкае зьяўленьне вашай газэты, якую я прачытваю за адзін вечар і чакаю наступны нумар аж два тыдні. Таму я зь вялікай занепакоенасьцю сустрэў гэтую, вядома, замоўленую валтузьню тандэма Падгайнага і Жураўскага з чарговым папярэджаньнем аб надуманым парушэньні Закона аб друку газэтай «Наша Ніва». Мне незразумела, чаму Падгайны павінен вырашаць, на якой мове мне, беларусу, чытаць газэты? Я ж не забараняю яму чытаць «Советскую Белоруссию», хаця ўжо даўно няма, дзякуючы стараньням ягонага шэфа, ня толькі мясцовых саветаў, а нават разагнаны і Вярхоўны Савет. Пры тым ён чытае сваю газэту, выпісаную за дзяржаўныя грошы (я ў гэтым упэўнены), а я «Нашу Ніву» – за свае, зароблены цяжкай працай у ліцейным цэху.*

*Таму хочацца падзякаваць рэдакцыі «Нашай Нівы» за яе самаахвярную працу ў гэтых цяжкіх, неспрыяльных для ўсяго беларускага ўмовах і пажадаць так трымацца і далей. Мы, чытачы «Нашай Нівы», падтрымліваем вас. Хай жыве Беларусь і «Наша Ніва»!*

**Міхась Сазон,**
рабочы-ліцейшчык, Менск

*Дзень добры, «Наша Ніва»!*

*Паважаны спадар рэдактар, а таксама ўсе супрацоўнікі ўлюбёнай газэты, жадаю выказаць вам сваю шчырую падтрымку ў сытуацыі, у якой вы апынуліся. Спадзяюся, што разам мы неяк вытрымаем гэты зьдзек з нашае Айчыны і павернемся да нармалёвага эўрапейскага разьвіцьця. Было б вельмі цяжка згубіць тую падтрымку, якую я атрымліваю, чытаючы НАШУ газэту. На жаль, «Наша Ніва» – адзіная сапраўды беларуская газэта ў краіне. Некалі я з такім самым імпэтам чакаў прыходу «Свабоды», але шок, атрыманы пры пераходзе яе на бальшавіцкі правапіс, прымусіў на пэўны час адмовіцца ад падпіскі. Толькі «дзякуючы» дэфіцыту інфармацыі нашая сям'я вярнулася да гэтай газэты. Спадзяюся, гэтага не адбудзецца з «Нашай Нівай». Тарашкевіца, гэтаксама, як і герб са сьцягам, ледзь не адзінае, што ў нас засталося. Гэта той падмурак, зь якога паўстане (я ў гэтым упэўнены) сапраўдная Беларуская дзяржава. Дык трымайцеся разам гэтага падмурку і захавайма яго ў чысьціні. Бо разьбіць чыстую пароду заўсёды цяжэй, чым усю гэтую бальшавіцкую і імпэрскую мешаніну, дарэчы, яна й сама не вытрымлівае выпрабаваньня часам. Шкада, што ўся астатняя апазыцыйная прэса не разумее патрэбы вяртаньня да нармалёвага правапісу. Але, дзякуй Богу, ёсьць «Наша Ніва», вакол якой могуць гуртавацца нармальныя людзі. Праз пэўны час, я лічу, менавіта ваша газэта будзе ўзорам, на які прыйдзецца раўняцца (каб набыць выкшталцонасьць) іншай прэсе. На вашу просьбу і каб не згубіць сувязі, дасылаю вам свой падпісны квіток.*

*Яшчэ прашу залічыць мяне ў лік падпісантаў Хартыі-97, можа і са спазьненьнем, але гэта лепей, чым ніколі.*

*Мне прыйшлася даспадобы ідэя аднаўленьня БНР. Гэта, відаць, нязбыўная мара, якая зьбірае вакол сябе ідэалістаў, але толькі ідэалісты і рухаюць наперад жыцьцё, а пазьней зьяўляюцца прагматыкі і ажыцьцяўляюць іхныя ідэі. Таму лічу для сябе вялікім гонарам дамагчыся грамадзянства БНР, толькі ня ведаю, куды зьвяртацца. Было б цудоўна, каб вы патлумачылі праз газэту.*

*Трымайцеся, падтрымка вашых чытачоў бясспрэчная. Бяз вас адной радасьцю ў жыцьці стане менш, а іх і так няшмат.*

З павагаю,
**Юры Мандрык,**
27 гадоў, Ліда.

*P.S. Мы зь сябрамі зьбіраемся ў Лідзе арганізаваць рыцарскі клюб. Было б цудоўна больш падрабязна даведацца праз вашу газэту пра дзейнасьць такіх клюбаў у Беларусі. Пакуль.*

*Дзень добры, шаноўны спадар рэдактар!*

*Пішу да Вас з нагоды надрукаваньня ў «Нашай Ніве» артыкула «Мёртвы хапае жывога», які даў штуршок, стымул разьвіць тэму мовы.*

*Так, я цалкам салідарны з рэдакцыяй і падтрымліваю Вас у абароне сапраўднага правапісу. Але гэтая падтрымка – звычаем, ня йнакш.*

*Мяне хвалюе іншае. Цытую (можа Вас, а можа й не): «Цалкам трэба пагадзіцца хіба з тым, што мы мала пішам пра мову і тое, што зь ёю адбываецца сёньня» («НН», №33 (71), 18 лістапада 1996 году, «Размова з чытачамі»). Тады рэдакцыя прыняла заўвагу наконт нязначнай інфармацыі пра мову. І што зьмянілася? Напачатку 1997 году – артыкул «Мова наша і ваша», наступныя нумары – толькі некалькі невялічкіх артыкулаў пра правапіс словаў, пра слоўнікі. І справа замёрла...*

*Зьдзіўляе, што газэта – адзіная газэта «зь мяккімі знакамі» – зусім не распавядае пра гэтую, НАШУЮ мову, мову прыгажосьці й Адраджэньня! Варта было б працягваць надалей гутарку пра мову, пра лёс мовы, друкаваць артыкулы, прапагандаваць, захапляцца ёю, а ня толькі друкаваць на ёй газэту.*

*На хвалях Беларускай Рэдакцыі Польскага Радыё існуе цудоўны цыкль: «Беларуская эміграцыя пра беларускую мову», хоць перадача гэтая (да таго ж – штотыднёвая), невялічкая па аб'ёме. Ведаю, што ў «НН» ёсьць сувязі з Польскім Радыё, і рэдакцыя газэты магла б друкаваць тое, што прапануюць яны ці сама апрацоўваць матэрыялы эміграцыйнай прэсы пра мову.*

*Мне б вельмі хацелася ўбачыць на старонках Вашае газэты рубрыку «Мова», дзе б друкаваўся, прыкладам, Станіслаў Станкевіч – у кожным нумары, ці хаця б убачыць наступную тэму «Нашай Нівы» пад назвай «Страчаная мова».*

*Таксама хацелася б разьвіць тэму суіснаваньня ў сёньняшняй Беларусі «наркомаўкі» ды «тарашкевіцы». Што рабіцьме чалавек, той жа «грамафонец», які ўсьвядоміў важнасьць сапраўднае мовы? Ісьці ў дзяржаўныя выданьні? Пісаць і друкавацца тым халодным савецкім правапісам, што пануе зараз у газэтах і часопісах? Пра гэты бок праблемы таксама хацелася б пачытаць у газэце.*

З павагай
**Юры Чарнякевіч,**
Пінск.

*Добры дзень, шаноўная «Наша Ніва»!*

*Абставіны склаліся такім чынам, што я сама меней два разы на дзень праходжу паўз рэшткі менскага Верхняга Гораду. Шкада, але кожны шпацыр па гэтых мясьцінах робіцца для мяне міні-стрэсам, бо гэта адзіна магчымая рэакцыя на дзейнасьць АТ «Стары Менск», якое з буль-*

# Зваротны адлік

*Працяг са старонкі 1*

мроіўся «век залаты». Фізычная карціна сусьвету здавалася амаль цалкам збудаванай і зразумелай, а навукова-тэхнічны прагрэс уяўляўся панацэяй ад усіх бедаў чалавецтва.

Ладная мэханістычная карціна хутка развалілася, дзякуючы тэорыі адноснасьці Эйнштэйна. Цікава, што яе зьяўленьне супала зь першай расейскай рэвалюцыяй. А другая, у 1917-м, паклала сапраўдны пачатак дваццатаму стагодзьдзю— стагодзьдзю самай зморчнай рэакцыі, самых антылюдзкіх тэорыяў, самых крывавых войнаў і рэжымаў у сучаснай гісторыі чалавецтва. Тэхнічны прагрэс пры гэтым нікольки не перашкаджаў, а толькі спрыяў зьяўленьню ўсё больш вытанчаных спосабаў забойства людзей (уключна да ліквідацыі цэлых нацыяў) і зьдзекаў над чалавекам, — як фізычных, так і маральных. Дваццатае стагодзьдзе вучоныя лічаць, так бы мовіць, адным з самых кароткіх у гісторыі. Як фэномэн, яно пачалося ў кастрычніку 1917-га і скончылася ў кастрычніку 1989-га, калі, паводле выразу Фукуямы, «гісторыя скончылася». Прынамсі, скончылася гісторыя камунізму.

За адносна кароткі тэрмін існаваньня савецкай імпэрыі і «сусьветнай камуністычнай сыстэмы» ў розных краінах — ад Кубы да Кампучыі — было зьнішчана, паводле самых прыблізных падлікаў, звыш 200 мільёнаў чалавек. На гэтым фоне фашызм з усімі ягонымі жахамі выглядае хоць і надзвычай крывавым, але ж эпізодам грандыёзнага экспэрымэнту па пераўтварэньні сьвету. (Розьніца паміж камунізмам і фашызмам палягае, сярод іншага, на тым, што гітлераўскі фашызм выліўся ў агрэсію супраць неарыйскіх нацыяў і татальнае зьнішчэньне габрэяў. Для камунізму ж не было справы ні да эліна, ні да юдэя, ягонай мэтай было стварэньне новай гістарычнай супольнасьці ў сусьветным маштабе і чалавека новай фармацыі ў прыватнасьці. І дзеля гэтай мэты, адпаведна генэральнай лініі партыі, можна й трэба было зьнішчаць каго заўгодна і ў любой колькасьці.) Але чым менш часу застаецца да новага тысячагодзьдзя (сучасныя СМІ з паранаідальнай стараннасьцю падлічваюць, колькі дзён засталося да пачатку 2000-тысячнага году — апошняга ў цяперашнім стагодзьдзі), тым больш ясным робіцца, што ўсе тыя жахі XX ст. ня счэзнуць, як сон на раніцы. Праўда, для большасьці жыхароў Захаду самым вялікім кашмарам уяўляецца збой кампутараў у 2000-м годзе. Лічыцца, што, як толькі кампутарныя гадзіньнікі пакажуць два нулі на канцы, усе кампутары нібы звар'яцеюць і пачнуць адлічваць 1900-ы (!) год. Насамрэч, праграмісты, вядома, знойдуць выйсьце — зрэшты, сур'ёзныя фірмы ўжо вядуць перапраграмаваньне. Але ж якое сымбалічнае супадзеньне! Чалавецтву з ласкі кампутараў (Станіслаў Лем назваў іх «мыліцамі мозгу») нібы наканавана вярнуцца на пачатак...

Колькасьць людзей на зямной кулі павялічылася за апошнія сто гадоў у некалькі разоў. І большасьць з гэтых мільярдаў ня зьведалі яшчэ, дзякуй Богу, ні калектывізацыі, ні Асьвенціму, ні Хірасімы, ні Чарнобыля. А калі нават у нейкага народа і быў падобны гістарычны вопыт у мінулым — гэта, аказваецца, нічога яшчэ не азначае. Беларусь за досыць кароткі адрэзак часу стала ахвярай дзьвюх сусьветных войнаў, камунізацыі, калектывізацыі, мэліярацыі і радыяцыі. І нічога — беларусы жывуць у забруджаных раёнах, працуюць у калгасах, карыстаюцца дакумэнтамі з бальшавіцкай сымболікай, а кампліманты начальства наконт палітыкі Гітлера ўспрымаюць абсалютна спакойна. Сапраўды — якая розьніца, хто падабаецца начальніку: Сталін, Гітлер, Дэ Голь, або Кадафі? Кіруе ж народам ня хтосьці там з памянёных асобаў, а свой, народны кіраўнік.

Аднак, калі гаварыць сур'ёзна, справа не ў кіраўніках і правадырах. Калі яны прыходзяць — значыць, гэта некаму патрэбна? Лягчэй за ўсё бачыць за іхным зьяўленьнем «руку Масквы». За савецкім часам Масква сапраўды прыклала руку да многіх злачынстваў у многіх краінах сьвету. Назваць расейскія спэцслужбы дружа-любнымі ў адносінах да дзяржаваў, што ўвайшлі ў новы саюз пасьля развалу СССР, таксама ніхто не рызыкне. Нікуды не падзеліся імпэрскія амбіцыі Крамля. Іншая справа, што сілы ў яго ўжо ня тыя. Але ж тэорыя зьнешняга ворага, які ня спіць у шапку, і пакуль просты народ, пераадольваючы цяжкасьці, працуе дзеля... ну, хоць дзеля чаго-небудзь, пляце супраць яго сусьветную змову — гэтая тэорыя аказалася вельмі жывучай і папулярнай менавіта ў XX ст.

Дарэчы, «змова паслоў» у Драздах і іхны ад'езд — чарговы доказ сусьветнае змовы для адэптаў падобных тэорыяў.

Ідэя сусьветнай камуністычнай змовы была нічым ня лепшай за ідэю змовы жыдамасонскай (альбо сіяністкай, альбо імпэрыялістычнай, што ў прынцыпе адно й тое ж). «Пратаколы сіёнскіх мудрацоў» апошнім часам зноў усплылі на паверхню не таму, што гітлераўская прапаганда была такой моцнай, што сучаснае пакаленьне беларусаў усё яшчэ, нібыта, адчувае яе ўзьдзеяньне. І не таму, што сярод начальства, якое ўсё, як ёсьць, выйшла з народу, распаўсюджаны бытавы антысэмітызм, а таму, што ў масы людзей ёсьць патрэба ў апраўданьні самых сябе і свайго гаротнага існаваньня. Нехта ж павінен быць вінаватым у тым, што жывецца з кожным днём ня лепш, як абяцае начальства, а горш, што ў краму зноў цукру не завезьлі, што піва цёплае, як мача, што сусед новую машыну купіў, што боўдзіла-сын на тры літары паслаў, што жонка пагражае пайсьці з дому з палюбоўнікам... Вінаваціць начальніка неяк няёмка, бо сам жа за яго галасаваў. Апазыцыя, бэнээфы там розныя? Гэтыя, натуральна, ворагі. Але нейкія дробныя — усе знаёмыя ў твар, з некаторымі нават у футбол у двары некалі ганяў. Несур'ёзныя людзі, адным словам.

А вось ЦРУ, Масад, Інтэліджэнт сэрвіс — гэтыя словы гучаць, як асалода для слыху. Гэтыя словы ўсё тлумачаць. І Кока-колу тлумачаць, і Майкрасофт, і ўсю гэтую ненавісную рэкляму, якая з ранку да вечара на



*дозэрнай упартасьцю нішчыць архітэктурныя помнікі. Па дзіўнай гіроніі лёсу, адзіным больш-менш некранутым будынкам застаўся спэцаддзел КГБ, які многія наіўна лічаць «вайсковай установай», дарма што ніякай шыльдай ён не адзначаны.*

*Пасьля залевы апошніх дзён Верхні Горад патанае ў брудзе, бо вакол тых будынкаў, рэстаўрацыя якіх яшчэ вядзецца, ужо не засталося ані бруку, ані травы, а толькі сырая глеба. Зрэшты, такое становішча мае і свае станоўчыя бакі: саматужныя археолягі, да якіх я ў пэўнай ступені адношу і сябе, заўсёды знаходзяць нешта цікавае ў шматлікіх раскопах. Асабліва шмат трапляецца ашкялепкаў глінянага посуду самых розных формаў і памераў. І чалавечых костак.*

*Калі вы ўважліва агледзіце глебу каля Дому масонаў, дык абавязкова заўважыце вялізную колькасьць пабітай на драбкі паліванай белай кафлі, якою калісьці абкладалі печы, каміны беларускія майстры. Але ж кафлю ня выкінеш, як посуд, у вакно. Яе мэтанакіравана «дэмантавалі» (лічы – зьдзёрлі) з цэглы. Ці можаце вы ўявіць сабе, каб жыхары дому зьнішчылі сваю печ, якая зьяўляецца адзіным сродкам ацяпліць памяшканьне? Відавочна, не. Значыцца, кафля знішчалася ў наш час. Вядома: нашто печы сучасным бізнэсоўцам, калі існуюць ацяпляльнікі паветра, кандыцыянэры і г.д.?*

*Якасна аднавіць кафляную кладку надзвычай складана, а спэцыялістаў, якія займаюцца гэтай справай у Беларусі, можна пералічыць па пальцах. Непрыемна ўражвае той факт, што нават адноўленую кафлю часам спасьцігае няўдалы лёс. Так, пасьля пажару ў музэі на былым лецішчы І. Рэпіна ў Здраўнёва пад Віцебскам, кафлю, рэстаўрацыю якой правёў майстра зь Менску Уладзімер Кудрыцкі, падобным чынам «дэмантавалі», нягледзячы на тое, што агонь яе не пашкодзіў, бо гэта проста немагчыма ў прынцыпе. Гэта, на вялікі жаль, адзін са шматлікіх прыкладаў пачварнай недасьведчанасьці тых, хто прыватызаваў нашую культурную спадчыну.*

*Ды трасца зь імі, прыватызатарамі. Нашыя «патрыёты» з пачатковай адукацыяй часам робяць ня меншую шкоду. Чаго варты надпіс «Жыве Беларусь», які нехта вывеў балёнчыкам на адным з аўтэнтычных будынкаў сядзібы Ваньковічаў (Інтэрнацыянальная, 33Б). Камэнтары да гэта ўчынку непатрэбныя.*

*Мы пікетуем амбасады ды рэзыдэнцыі. Чаму б не правесьці пікет філіі Нацыянальнай бібліятэкі (Інтэрнацянальная, 31)? Спадарства, трэба сьпяшацца, бо праз месяц, а то й меней, аб'ект пікетаваньня можа зьнікнуць як архітэктурны помнік. Сьвежы прыклад – унікальныя драўляныя перакрыцьці, пра якія пісалі Уладзімер Дзянісаў («Ва-банк») і Віктар Мухін («Гэта мы»), ужо збольшага незваротна зьнішчаныя.*

*Спадарства, нас рабуюць! Хопіць спаць у шапку, бо хутка і яе сьцягнуць!*

**Алесь Менскі,**
Менск

### *REDUCTION AD ABSURDUM*

*Мой малады сябра сказаў мне ў парыве юнацкага максымалізму: каб ня Ж.-П. Сартр, то я б напісаў «Млосьць». Яму ў яго гады ўжо млосна. Ён спазнаў абсурд. Сьпярша, што натуральна ў юнацтве, мэтафізычны, а потым, калі выйшаў навонкі са свайго віртуальнага сьвету, – і рэальны.*

*Ён рытарычна пытаецца: вось гэтыя людзі, якія выціраюць са сьцяны надпіс «Жыве Беларусь!», сапраўды ня хочуць, каб жыла краіна? А каб тыя словы ўзяць у двукосьсе і падпісаць імем Янкі Купалы, то зноў бы зьнішчылі? Тут зьменіцца кантэкст, кажу я, а сэнс, які кожны бачыць пасвойму, застанецца тым жа. Праблема – у іхным зроку. Прыкладам, твой значак «Пагоня» яны ўспрымаюць як сымбаль тваёй прыналежнасьці да БНФ. Адкуль ім ведаць, што гэта верш паэта аднойчы ўрэчаісьніўся на тваіх грудзёх. І мову тваю «люди с забинтованными лбами» ўспрымаюць гэтаксама. Вось дзе абсурд, кажа сябра.*

*Што я мог дадаць да таго, што прамаўляла яму рэчаіснасьць і што ён зьведаў у Дастаеўскага, Камю ды Сартра? Адно падумалася. Дастаеўскі, каб пераканаўча давесьці аблуднасьць тэорыяў сваіх ідэйных герояў, ужываў матэматычны мэтад, вядомы яшчэ з часоў Эўкліда – reduction ad absurdum (прывядзеньне да абсурду). Ён дазваляў героям дзейнічаць у адпаведнасьці зь іх тэорыямі датуль, пакуль яны не прыходзілі да абсурду, то бок супярэчнасьці з агульналюдзкімі каштоўнасьцямі. Затым пачыналіся пакуты сумленьня і пакаяньне ў зьдзейсьненых грахах.*

*Сёньня знайшоўся чалавек, які наважыўся напісаць уражвальны твор – найноўшую гісторыю Беларусі. Адначасна ён выступае ў якасьці галоўнага героя. Ён творца абсурду. Гэты «пісьменьнік» даводзіць усяму сьвету, што станецца з краінай, калі рабіць усё па-ягонаму. Каб сьвет выразна зразумеў аблуднасьць выбранага шляху.*

*Паглядзіце, — чуецца са старонак твору, у што можна ператвараць народ! Ён ня хоча быць вольным, культурным, заможным, ня хоча БЫЦЬ. Яго прадстаўнікі зьбіваюць паветраныя шары, дэпутатаў у залі парлямэнту, дзяцей і жанчын на вуліцах, вучаць па школах фальсыфікаванай гісторыі. Яго прывучваюць жыць у Зоне. Тут злачынцы ўважаюцца за герояў і наадварот. Паглядзіце ў люстэрка гэтага жыцьця – БТ: да якога стану можна давесьці журналістыку, ператварыўшы яе ў нешта процілеглае. Замена знакаў з плюса на мінус і наадварот заўважная паўсюдна. Вы там, на Захадзе, чыталі «1984» Оруэла як фантастычны раман. Прыяжджайце на нашу «фэрму» – пабачыце рэаліі таталітарызму. Вы хацелі б мець у сябе ГЭТА?*

*Пісьменьнік папісвае, а нам трэба жыць. Як жыць майму юнаму сябру? Сучасны філёзаф прапануе Віртуальную Беларусь. Зноў віртуальнае жыцьцё? Ці захоча? Яму трэба жыць сёньня і тут, а ня заўтра і там. Яго бацькі і дзяды не пакінулі ў спадчыну дом для быцьця. Ён мусіць будаваць яго сам разам зь сябрамі.*

**Янка Храпавіцкі,**
Глыбокае

### Добры дзень, «Наша Ніва»!

*Спачатку хацеў бы падзякаваць вам за магчымасьць прачытаць «Сьцяну» – зборнік выдатных твораў апошніх гадоў Народнага пісьменьніка Беларусі і майго любімага пісьменьніка Васіля Быкава. Асабіста я набыў дзясятак асобнікаў і даслаў сваім сваякам і сябрам-беларусам у Англію, Аўстралію і ЗША. Так што, нягледзячы на ўсе забароны аўтарытарнага рэжыму, творы Васіля Быкава пасьпяхова пераляцелі Атлянтычны і Індыйскі акіяны і чытаюцца на розных кантынэнтах.*

*Я таксама цікаўлюся беларускай песьняй, таму было вельмі прыемна прачытаць на старонках вашай газэты пра супольны праект «Нашай Нівы» і камэрнага хора «Унія» – стварэньне сучаснага Беларускага патрыятычнага сьпеўніка і аднайменнай аўдыёкасэты або кампакт-дыска. Хацелася б ведаць, ці хутка мы іх убачым? Мне здаецца, што для паскарэньня ажыцьцяўленьня падобных праектаў газэта магла б часьцей выкарыстоўваць апрабаваны на «Сьцяне» шлях папярэдняй падпіскі. Мы, вашыя чытачы, чакаем вашых новых, сапраўды цікавых беларускіх кніг, якія, на жаль, у апошнія гады не выдаюцца дзяржаўнымі выдавецтвамі.*

З пашанай,
**Віктар К.,**
вучань 9 кл. Менск



экранах тэлевізара, і чаму нашы ў Нагана японцам прайгралі, і чаму даляр расьце, а рубель падае.

З рэклямай, насамрэч, ня ўсё так проста. Тое, што яна навязвае пэўныя (менавіта заходнія!) стандарты жыцьця, стэрэатыпы — гэта так. Рэкляма рэклямуе ня столькі тавары, колькі пэўны лад жыцьця — гэтаксама, як «мыльныя опэры» і амэрыканскія фільмы. (Заўважу, між іншым, што ў фільме «Судны дзень» аскабалак камэты падае менавіта на ЗША, а прэзыдэнт Штатаў, як мудры палітык, на ўсялякі выпадак перасяляе траціну насель-ніцтва ў загадзя падрыхтаныя падземныя пячоры, дзе павінна цалкам захавацца мадэль амэрыканскага грамадзтва, уключна з дыктарамі ТВ). Амэрыканскую рэкляму аднолькава ненавідзяць у Францыі і ў Нямеччыне і ў Саўдыйскай Арабіі. Але і ў Эўропе, і ў Азіі, і ў Афрыцы п'юць Кока-колу і піва ў бляшанках. І не таму, што яны такія смачныя (піва ў бляшанках — найгоршае вынаходніцтва амэрыканскае цывілізацыі, калі не лічыць піва безалькагольнага), а таму, што зручна купляць тавар у такой расфасоўцы, таму, што якасьць у яго стандартная і зьнешні выгляд бляшанкі прывабны. Пры гэтым японец, які п'е колу або карыстаецца праграмай Уіндаўз, ня робіцца ад гэтага амэрыканцам, гэтаксама, як амэрыканец, што езьдзіць на Таёце, ня робіцца ад гэтага японцам.

Аднак жа, колькі разоў спрабавалі проціпаставіць «наш» квас «іхнай» коле. Нічога не атрымліваецца, бо не ўдаецца вытрымліваць стандарт. Спрабавалі проціпаставіць МакДоналдсу сваё «хуткае харчаваньне». І што? Аказалася, што самую звычайную нацыянальную страву — дранікі — вельмі лёгка можна ператварыць у горкі неядомы прадукт, калі смажыць іх на адным і тым алеі некалькі дзён запар. Падобныя «праколы» выклікаюць розныя комплексы і няўсьвядомленыя рэакцыі. Яны праяўляюцца, напрыклад, у закліках да славянскае еднасьці, альбо — наадварот — у джыхадзе супраць няверных.

Вайна ў Афганістане была прайграная ня толькі Савецкім Саюзам. Яе прайграў, як гэта ні парадаксальна, і Захад. Лепшае сьведчаньне гэтаму — прыход талібаў да ўлады. Перад гэтым быў Іран. Ня гледзячы на большую «сьвецкасьць» сучаснага рэжыму, сьмяротны прысуд Сальману Рушдзі ніхто не адмяняў. (Праўда, ролю своеасаблівага «маста» паміж XX ст. і дваццаць першым можа выканаць... футбол. Перамога Ірана над ЗША ў чэмпіянаце сьвету парадаксальным чынам дапамагла прыхільнікам лібэральных рэформаў прэзыдэнта Хатамі (рэакцыйныя мулы лічаць футбол шатанскай забавай, занесенай з Захаду) і ўсталяваньню больш нармальных дачыненьняў з амэрыканцамі.)

Ганебная вайна ў Ічкерыі таксама абярнулася ня толькі паразай карумпаванай Расеі, але ўзмацненьнем ісламскага фундамэнталізму на тэрыторыі блізу Эўропы, дзе яго амаль не было, ці ўплыў ягоны быў зусім нязначны. Расейскія мусульмане патрабуюць забараніць публікацыю «Шатанскіх вершаў» Рушдзі. Аднак яны не самотныя ў сваім рэлігійным шчыраваньні: раней расейская праваслаўная царква патрабавала забараніць «Апошняе спакушэньне Хрыста» Марціна Скарцэзе. Тое, што не ўдалося зрабіць РПЦ у Расеі, удалося ў Беларусі. «Ідучы насустрач жаданьням» праваслаўных вернікаў, у момант трансьляцыі фільма на НТВ зламалася рэтрансьляцыйная антэна ў Калодзішчах... Некалі Савецкі Саюз пагражаў зьбіваць амэрыканскія спадарожнікі, калі яны будуць вяшчаць на тэрыторыю СССР. Цяпер уладам застаецца толькі здымаць хатнія спадарожнікавыя талеркі альбо прыводзіць у дзеяньне замарожаныя з заканчэньнем халоднае вайны «глушылкі» ... Сьвяшчэнная вайна Ўсходу (прынамсі, Візантыйскае цывілізацыі) супраць шатанскага Захаду працягваецца. Захад саманадзейна лічыць, што вайну гэтую ён выйграў. Аднак, шэсьць мільярдаў паўгалодных людзей трэцяга сьвету, калі яны будуць ахопленыя нейкай базавай ідэяй, здольныя ўчыніць сапраўдны Армагедон за мільярд гадоў да сапраўднага скону сьвету — ядравая, альбо хімічная, альбо бактэрыялягічная зброя для гэтага знойдзецца. Больш за тое — сёньня ўжо фактычна нельга казаць пра нейкі трэці сьвет. Краіны Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропы, а таксама Балтыі імкліва (паводле гістарычнага часу) інтэгруюцца ў Эўрасаюз. Усьлед за паўднёваазіяцкімі тыграмі да высокаразьвітых краінаў імкнецца наблізіцца Кітай. Тое самае адчайна і беспасьпяхова спрабуе зрабіць і Расея. Такім чынам, сутыкненьне двух сьветаў перамясьцілася зараз у Эўропу.

Беларусь, Сэрбія й Славаччына (менавіта ў такой пасьлядоўнасьці) намаганьнямі іхных кіраўнікоў сапраўды ператварыліся ў фарпосты процістаньня цывілізацыі Захаду, а ня толькі ваеннай арганізацыі NATO. Зноў Беларусь аказваецца ў эпіцэнтры галоўных падзеяў апошніх стагодзьдзяў у Эўропе. Ва ўсіх гэтых падзеях зь Беларусяй і беларускім народам ніхто не лічыўся. (Палякі дагэтуль не забыліся на здраду саюзьнікаў у пачатку другой сусьветнай вайны. Пра тое, што перад гэтым палякі на чале зь Пілсудзкім палец аб палец ня ўдарылі, каб дапамагчы ўтварэньню БНР і тым самым пакінулі палову Беларусі на водкуп Саветам, лічаць за лепшае ня згадваць.) Тым больш цяпер ня сьлед спадзявацца на зьяўленьне ў Менску дэсантнікаў як з Захаду, так і з Усходу, якія б пачалі (крый Божа!) наводзіць тут свой парадак. Усё, як гэта ні банальна, залежыць толькі ад грамадзянаў Беларусі. Праз трыццаць гадоў пасьля Праскай вясны варта нагадаць, што грамадзяне Чэхаславаччыны змаглі пачаць рэфармаваньне грамадзтва ў нашмат больш цяжкіх умовах таталітарызму, пад пагрозай уварваньня войскаў Варшаўскае дамовы (што ўрэшце й здарылася). Зараз кажуць, што «сацыялізму з чалавечым тварам не бывае» і што рэформы ў Чэхіі аўтаматычна былі наканаваныя на правал. Але каб не было вугорскай рэвалюцыі 1956 году, рэформаў Дубчэка (дарэчы, славака) у ЧССР, «Салідарнасьці» у Польшчы, «Саюдзіса» ў Літве — хто ведае, дзе, на якім маргінэсе гісторыі былі б зараз гэтыя краіны?

Станіслаў Лем у сваёй новай кнізе нагадвае, што яшчэ дваццаць гадоў таму, ва ўмовах біпалярнага сьвету, ніхто ня мог прадказаць хуткага распаду сацыялістычнага лягеру і бясслаўнага крушэньня камунізму. Цяпер, калі сьвет стаў шматпалярным, на думку пісьменніка й вучонага, варыянтаў далейшага развіцьця чалавецтва існуе безьліч. Прадказаць гісторыю немагчыма, яе можна зрабіць сваімі рукамі, зыходзячы з выбару ўласнага народа. На рубяжы тысячагодзьдзяў самы час гэты выбар зрабіць.

З усіх навукова пралічаных варыянтаў канца сьвету найбольш верагодным зьяўляецца такі: праз сто пяцьдзясят мільярдаў гадоў Сонца паступова ператворыцца ў «чырвонага карліка», які паглыне амаль усе плянэты сонечнае сыстэмы, у тым ліку Зямлю. Яшчэ да гэтага ўсе акіяны на зямлі выкіпяць. Ці будзе на той час існаваць чалавецтва і наогул штонебудзь жывое — невядома. У кожным выпадку, ніхто з нас альбо нашых праправўнукаў гэтую велічную карціну ня ўбачыць. А фільмы пра Армагедон найбольш любяць глядзець у тых краінах, якія дынамічна разьвіваюцца і зьнікаць з твару зямлі не плянуюць.

# «Тут жыў я»

**Гэтым летам мы на прыродзе. Здаецца, зеляніна буяе вакол, як ніколі. Зрэшты, буяе яна, як і заўсёды – нібы ў апошні раз. Проста яе становіцца больш, яна спакваля вяртаецца на свае месцы, адкуль некалі яе выгнала індустрыялізацыя. Асабліва гэта заўважна ў вёсцы, дзе занепадае гаспадарчая дзейнасьць, і ўчарашнія мэхдвары і фэрмы з праваленымі дахамі паступова парынаюць у буйстве дзікай прыроды. Здаецца, яшчэ трохі, і адно спаконвечныя шэрыя зрубы, пакрытыя гонтай, ды жоравы пры студнях будуць вылучаць чалавечае жытло спаміж суцэльнае беларускае пушчы.**

**Вось тут, пасярод вёскі, летась абвалілася вялізная калгасная стайня. Аднаму селяніну кроквай пабіла плячо, а коней раздалі на ўтрыманьне людзям. Сёлета ад стайні не засталося ані знаку. І нават думкі не ўзьнікае ні ў кога, каб нешта тут аднаўляць, адбудоўваць.**

**А вось у гэтым месцы быў калгасны цялятнік. Вясковы дзед кажа, што працаваў у ім дваццаць гадоў, а потым цялятнік кудысьці прапаў. Як прапаў? А чорць яго ведае, – кажа дзед і працягвае наразаць сіласную масу з калгаснага поля. Вакол ні душы, адна трава. Здаецца, чаму б дзеду не прыгнаць сюды сваіх кароваў з суседняе сядзібы? А ён рэжа і носіць. Ставіць жывёлу на калгасным полі няёмка, а не адрэзаць ад нічыйнага – неразумна, усё адно прападзе.**

**На падворку ў дзеда пахаджае зьвер невядомае пароды: цела і дзюба качыныя, чупрына, як у папугая, а размалёўка, як у папуаса перад танцам вайны. Трэба сказаць, жахлівае з выгляду стварэньне. Дзедава баба кажа, што гэта «індыутка», але пры тым самец. Адзіная ягоная перавага – ён у бойцы дужэйшы як за пеўня, так і за гуся. Гібрыдная пачвара з адпаведна пачварнай назвай настаўляе на мяне сваю чупрыну, шыпіць і неахвоча адступае.**

**Вядома, з гледзішча начальства ўсё гэта інакш як запусьценьнем не назавеш. Але прырода забірае сваё. Краявід становіцца натуральным, прыгожым, чыстым.**

**У горадзе гэты працэс адраджальнага запусьценьня ня так заўважны і, можа быць, не такі адназначны.**

**Гэта ж колькі народу палегла ў Беларусі дзеля тых калгасаў і індустрыялізацыі! А колькі сказана й напісана пра антыбеларускую палітыку ўладаў! Колькі з-за гэтага сьлёз праліта, колькі інфарктаў перанесена! А якіх толькі не напісана праграмаў змаганьня з рэжымам і адраджэньня Бацькаўшчыны... І ўсё гэта цяпер адным комам коціцца ў нікуды, распадаецца, развальваецца і зарастае травою, мохам, кустоўем, лесам. На месца лэпаў і заводзкіх комінаў прыходзяць ня пальмы з кактусамі, а наша родная зеляніна. Беларусь адраджаецца сама. У сваёй першароднай ідэальнай чысьціні. Шкада, вядома, распаду чалавечага грамадзтва. Але мацнейшае за шкадаваньне пачуцьцё надзеі. Беларусь жывая ў сваіх натуральных краявідах. А значыць, дачакаецца яна некалі і свайго нармальнага грамадзтва.**

**Сяргей Харэўскі**



Калі я распавёў Уладзімеру Караткевічу пра тое, што мару зьехаць зь Менску ў Вільню, ён, на маё зьдзіўленьне, адрэагаваў надта рэзка. «Ну што вам у Вільні — намазана чым, ці што? У нас жа ёсьць Менск, свая сталіца. У Менску сёньня жыве большасьць нашых пісьменьнікаў і мастакоў. Вось ужо і свае мэмарыяльныя шыльды пазьяўляліся. Абрасьцем пакрысе тымі шыльдамі, як мохам, — і будзе табе наша гісторыя...»

Сапраўды, мэмарыяльных шыльдаў у Менску становіцца ўсё болей. Часам і празь меру. Памятаеце дом на рагу Маркса й Леніна, той самы, дзе цяпер музэй Броўкі? На пачатку стагодзьдзя яго ўзьвёў слынны менскі архітэктар Гай. Да сёньня яго ўмудрыліся так шчыльна завешаць шыльдамі, што за імі ўжо не відаць сьценаў. Аднак адчуваньня гістрычнае повязі так і не прыйшло. Можа ад таго, што над домам па-ранейшаму вось ужо чвэрць стагодзьдзя навісае арматура рэклямы «Аэрафлоту», якая сама ня памятае, калі яна сьвяцілася нэонавымі лямпачкамі? Ці ад таго, што сам чыгунна-бронзавы «іканастас» выклікае супярэчлівыя пачуцьці: Чарвякоў і Панамарэнка, Дзяржынскі і Мацэпура, Броўка й Нікольскі? Ці кожны мінак скажа, чым славуты Панамарэнка, альбо якой навукай займаўся акадэмік Нікольскі?..

Кажуць, недзе тут жыў і шэф НКВД Цанава. Аднойчы просты мінак спытаўся ў яго, колькі часу? Уражаны Цанава азірнуўся навокал і ня здолеў адказаць (бо не насіў гадзініка). Кажуць, наступнае раніцы на гэтым доме зьявіўся гадзіньнік. Гадзіньніка даўно няма, але вуліцы носяць усё тыя ж імёны заснавальнікаў навуковага камунізму. Што ж, і гэта наша гісторыя... Хто што хоча, той тое й памятае. Даўней адрасам гэтага дому быў рог вуліцаў Падгорнай і Губэрнатарскай (былой Францішканскай). Можа, каб гэты будынак адмылі ад колеру НКВДэшнага шынялю, зьнялі каўпак «аэрафлотаўскае» рэклямы, зьвезьлі б усе мэмарыяльныя дошкі й зрабілі адну малюсенькую: «помнік архітэктуры, дойлід Гай», мінакі б прыпыняліся міжволі, каб разгледзець яго старасьвецкую пекнасьць?

Мэмарыяльныя знакі самі па сабе мала што значаць, калі ў народнай сьведамасьці яны не асацыююцца з падзеямі альбо з асобамі, ролі якіх ясныя ўсім. За гады незалежнасьці шматкроць спрабавалі зрабіць, напрыклад, мэмарыяльны знак пры будынку КГБ — памяці бальшавіцкіх ахвяраў. Тады б роля гэтае ўстановы ў нашай гісторыі была вызначаная. Можа, такі знак зьмяніў бы і нашую сёньняшнюю гісторыю... Не пасьпелі прымацаваць і ўжо гатовую шыльду на былы архірэйскі дом, дзе ў 18-м годзе 25 сакавіка была абвешчаная незалежнасьць...

Выглядае, што мэмарыяльныя знакі ў Менску — гэта ўсяго толькі захоп прасторы. Але ўявіце сабе, каб у Парыжы ці Рыме задаліся мэтаю адзначыць таблічамі ўсіх пісьменьнікаў, кампазытараў і мастакоў, што там жылі... Бадай, тады не знайшлося б месца жывым людзям. У Менску інакш. На доме нумар 29 на вуліцы Пуліхава на адным рагу — мэмарыяльная шыльда Пімена Панчанкі, на другім — Кастуся Кірэенкі, а таксама Івана Чыгрынава й Барыса Сачанкі. Для жыхароў дому — гэта былыя суседзі, для выпадковых людзей, што часам прамінаюць гэты двор, — «нейкія пісьменьнікі».

Нацыя помніць сваіх герояў не дзякуючы фізічным якасьцям чыгуна ці бронзы. У доме, на якім вісіць шыльда Пестрака, цяпер жыве Зьміцер Бартосік, і ў Менску ўжо лягчэй сустрэць чалавека, знаёмага з творчасьцю жывога барда, чым з творчасьцю «заслужанага дзеяча культуры БССР».

Сёньня ёсьць у беларускай сталіцы і мэмарыяльная табліца Ўладзімеру Караткевічу на вуліцы Карла Маркса. Але не пабалела ад шыльдавага імху беларускасьці. За сем гадоў «Наша Ніва» зьмяніла ў Менску шэсьць адрасоў. Аднойчы, седзячы ў рэдакцыі на вуліцы Куйбышава, нехта пажартаваў, што празь дзесяцігодзьдзі паў-горада будзе завешана мэмарыяльнымі знакамі «Нашае Нівы». А я падумаў: няўжо тут заўсёды будзе вуліца імя Куйбышава? Бадай, у тым Менску, дзе кожны мінак будзе ведаць пра першую беларускую газэту, вуліцы будуць звацца зусім па-іншаму, а тады нашай культуры не спатрэбяцца ніякія шыльды, і сталіца зажыве сваёй, сапраўднай гісторыяй...



*Здымак Зянона Пазьняка*

# Патаемнае жаданьне

**Севярын Квяткоўскі**

Кажуць, каб сны не збываліся, іх трэба распавесьці адразу, як прачнесься. Мая гісторыя адбылася раніцай пасьля Купальскай ночы. Магчыма, яна адбылася б і безь мяне. Але я жыву ў блёчным «постхрушчоўскім» пяціпавярховіку. Для тых, хто ня ведае, патлумачу. Напрыклад, калі жыхар зь першага паверху грае на саксафоне, дык слухае яго ня толькі сусед, але амаль увесь дом.

Па шчырасьці, я ніколі ня скокаў праз вогнішча й не купаўся галяком у Купальскую ноч. І не таму, што ў дзяцінстве ўразіўся гогалеўскімі «тапельцамі». Папросту, так атрымлівалася, што зь сьвядомага веку патрапляў у «чароўную ноч» то ў кампанію, якая сьвята адзначала паходам у «Папараць-кветку», то да «паганцаў», якія качалі вогненнае кола пад ўзмахі дзяржаўнай (у свой час) сымболікі.

Яшчэ скажу шчыра, што шчасьце ў мяне больш выразна асацыюецца ня з кветкай, а з птушкай, ці, нават, з чымсьці менш улоўным... А можа справа ў тым, што паводле натуры я не грыбнік-ягаднік, і таму ідучы блукаць па лесе ў пошуках нейкай адмысловасьці *a priori* выклікае ў мяне непрыняцьце. Як бы там ні было, перад Купальлем я ўдзельнічаў у сяброўскай party, не зьвязанай з календаром продкаў, і быў перакананы, што ня надта позна вярнуўся дадому.

І вось надышла раніца.

Ня ведаю, як хто, а я навучыўся маніпуляваць уласнымі снамі. Гэта магчыма на сьвітаньні, незадоўга да таго, як арганізм зьбіраецца абуджацца. Памятаеце «Палёт пчалы за сэкунду да абуджэньня» Сальвадора Далі? Карцінка фантасмагарычная, але той, хто яе бачыў, зразумее, што гэта сон. Вось у гэты момант ён можа круціць карцінку, як захоча. А за сэкунду сну вой як шмат можна навыдумляць!..

— Алё, ці добра чуеш мяне? Алё, дык слухай далей. Выйшлі мы з тралейбуса, а перад намі нейкія коміны, будынкі змрочныя. Іх бачна добра, але навокал цемра — ані месяца, ані ліхтарыка.

Немалады жаночы голас падаўся мне знаёмым. Зрэшты, ці мала я ведаю галасоў людзей, якіх ніколі ня бачыў. Напрыклад, ужо гадоў дваццаць слухаю адзін такі — сіплы, сарваны, які належыць выхавальніцы дзіцячага садка, што месьціцца акурат у мяне пад вокнамі. Для сябе я гэты голас называю «сяржанцкім».

— Уяўляеш, перасякаем мы засьмечаны жалезным ламаччам фабрычны падворак і неўпрыкмет трапляем у лясны гушчар. Галя, ці чуеш мяне?..

Жанчына выгукнула апошнія словы так моцна, што ў мяне не засталося сумневаў — голас быў рэальны. Мяркую, што калі б я ўзьняўся і высунуў галаву ў фортку, то здолеў бы давецацца, на якім з падваконьняў стаяў тэлефонны апарат невядомай мне кабеты. Але слаў не было, нават каб расплюшчыць вочы. У моманты, калі жанчына замаўкала, каб паслухаць адказ сваёй суразмоўніцы, я ізноў нібыта засынаў.

Урэшце, так бы яно й здарылася. Асабіста я прызвычаіўся да штодзённых непатрэбных гукаў, якімі поўніцца кватэра. Мала таго, што пад вокнамі дзіцячы садок, дык побач яшчэ чыгунка, а перад ёю будоўля, ды ці мала якіх іншых грукатаў!..

— Дык слухай, дзеўка. Сунемся мы праз той гушчар, сунемся, як раптам ты закрычыш — а-у!.. Так, так — ты закрычала, ня я. І тады адразу ж перад намі зьяўляецца хлопец. Як апранут? Ну звычайна, як зараз апранаюцца — табе такія падабаюцца. Джынсікі нейкія ў яго былі... Сінія з латкай скуранной пад правым каленам, завушніца, акулярчыкі

# У дарозе

**Зьміцер Бартосік**



Што можа сёньня адарваць нармальнага чалавека ад тэлеэкрану, дзе вырашаецца футбольны лёс сьвету? Ня ведаю. Але мяне, аматара ня толькі футболу, але й слова беларускага, адарвалі. Патэлефанаваў сябра й прапанаваў заскочыць у Маладэчна, дзе на чарговым фэстывалі беларускае песьні адбудзецца рокавы канцэрт. І Маладэчна засланіла мне Парыж...

Некалі мяне займала думка наконт ідэальнага месца жыхарства для сьвядомага беларуса. У вёску ён ужо ня вернецца. Нават калі на вёсцы дзе-ніядзе захаваліся несьвядомыя носьбіты ягонае мовы, агульная тэма наўрад ці знойдзецца. Вялікі горад яму пакуль што таксама не па зубах. Ёсьць рызыка растварыцца сярод чужынцаў і небясьпека быць вечна незразуметым. Іншая справа — невялікі горад. Ужо не мястэчка, яшчэ не мэгаполіс. Яшчэ можна на цэнтральнай плошчы адчуць вясковыя пахі, але ўжо немагчыма за шматпавярховікамі ўбачыць вясковы краявід. Яшчэ няма комплексу выглядаць недаадукаваным, купляючы вядро бульбы, і няма боязі выглядаць занадта разумным, замаўляючы філіжанку кавы.

Асабіста я ўпершыню пачуў беларускую мову ў якасьці сродку зносінаў менавіта ў Маладэчне, куды ў 92-м мяне занесла на навукова-палітычную канфэрэнцыю пра пэрспэктывы нацыянальнага адраджэньня. Стаміўшыся ад разумных прамоваў, я вырашыў наведаць мясцовы ўнівэрмаг. Дзе й натрапіў на галоўны доказ нашае сьветлае пэрспэктывы. Два пралетары спрачаліся, набыць ці не дыск Міхаіла Шуфуцінскага. Адзін казаў «ня трэба», другі пярэчыў, што «сьпявак неблагі». Дзядзька купіў кружэлку, не забыўшыся сказаць гучнае «Дзякуй».

Ну, які можа быць футбол, калі ледзь ня ў самым беларускім горадзе сьпявае «Новае Неба»! І новыя прыгожыя твары маладачанскіх, самых прыгожых у Беларусі, дзяўчынак, запаланілі галоўны пляц. Удыхнуць насычанае новымі надзеямі паветра, адчуць, што ты не адзін, каму мроіцца новая краіна, ці хаця б на нейкае імгненьне вярнуцца ў п'янкую атмасфэру далёкіх 80-х, дзе мы ўпершыню ўбачылі новыя нябёсы, упершыню ўзялі ў рукі наш сьцяг, складзены з колераў перамогі. Перамогі, якая здавалася нам такой неадваротна блізкаю... Ну, які можа быць Парыж, калі за нейкія 70 кілямэтраў можна адкруціць дзясятак гадоў!

Заліты сьвятлом пражэктараў пляц, шчыльна забіты публікаю, быў шчыльна ачэплены байцамі ў камуфляжы. Перад эстрадаю, на якой шчыраваў «Палац», у такт рытму матляліся тры ўзаконеныя сьцягі. Адмыслова выдадзеныя ў рукі, два па баках, адзін пасярэдзіне. Але тыя сьцягі, напэўна, былі адзіным, што стварала рух. Прыбяры гук са сцэны, дай у эфір толькі «карцінку» публікі, і стане незразумелым — што гэта яны слухаюць, рок-н-рол ці сымфанічны канцэрт. Чым болей я гляджу на гэтае сьвята, тым больш шкадаваў аб пакінутым футболе. Тое, што тут ня будзе ніводнага нашага сымбалю, нам трэба было скеміць раней. Ішоў найпраставы тэлеэфір «на ўсю рэспубліку», у культурным жыцьці якой нам і нашым сьцягам няма месца. Як, зрэшты, і нашым песьням. Я баяўся, што мы спознімся паслухаць «Новае Неба», але дарэмна. Касю Камоцкую гаспадары эфіру палічылі за лепшае ў свой эфір не пускаць. Сама сьпявачка, як мне падалося, ня ведала — засмучацца ёй ад гэтага ці, наадварот, цешыцца такім прызнаньнем яе небясьпечнасьці.

Паназіраўшы, як байцы АМОНу валаклі п'янога хлапчука; адведаўшы гарбаты з бутэрбродам у бары разам з зоркамі беларускае эстрады; пачуўшы адборную мацяршчыну зь пяшчотных вуснаў дзьвюх маладачанскіх школьніц... мне захацелася як мага хутчэй пакінуць ідэальны беларускі горад.

Вяртаючыся ў Менск, я нарэшце зразумеў простую ісьціну, дзе беларусу найлепш. У дарозе. Гэта сапраўды «адзінае, што ня страчана». Беларуская дарога, нават наежджаная сто разоў, усё адно застаецца цікаваю, дзякуючы адсутнасьці доўгай пэрспэктывы. Вока не пасьпявае стамляцца адным краявідам, як за паваротам адкрываецца зусім іншы, яшчэ больш пастаральны малюнак. Напэўна таму размовы на такім шляху таксама маюць сьветлы працяг. І ці так важна, куды вядзе наш шлях — да новага неба, ці да новых земляў?



*Здымак Алены Адамчык*

круглыя, кашулька нейкая... Гэта, камізэлька сіняя зь зялёным... Ага, клятчастая. Так, так, заплечнічак з рудое замшы.

Я перавёў позірк на сваю вопратку, раскіданую вакол фатэля. Сон зьнік — нібы й не было. Далей я чуў толас кабеты ўрыўкамі.

— Я пытаюся: скуль ты ўзяўся, ён кажа — скуль і вы... Па што і вы прыйшлі... Гляджу — цябе няма... Аён кажа, маўляў, ідзі ты цётка ў той бок — вернесься дадому, ты мне й не патрэбная зусім... Тут купальскі лес, а ня лазьня... Алё, алё, чуеш мяне, Галя? Цьфу, чорт, што за сувязь.

Я ня спаў, але вочы не расплюшчваў. Я на сябе раззлаваўся. Трэба было адразу зачыніць фортку, і заняцца сваімі справамі. Зь іншага боку, навошта камплексаваць — прынамсі, знаёмых Галяў у мяне няма. Голас змоўк, але я працягваў ляжаць, аж пакуль не зазваніў мой тэлефонны апарат. Я выпаўз з ложку і падняў слухаўку.

— Дык слухай! Галя, дай я канцоўку распавяду. Пайшла я з паляны, але праз колькі крокаў павярнулася назад. Вяртаюся, а ты стаіш каля дрэва — і ўся гарыш. Уяўляеш?!

Я сабраўся быў адказаць, што кабета памылілася нумарам, але чамусьці не паверыў гэтай думцы. Таму толькі прасіпеў у адказ: «Галя тут болей не жыве», і паклаў слухаўку.

Адзінае цяпер мяне засмучае: чыё ж патаемнае жаданьне мусіла спраўдзіцца ў Купальскую ноч? Але я спакойны — калі распавесьці патаемнае, яно не адбудзецца.



КАЛЯНДАР

# Адзіны варыянт

«Ален Делён» прэзыдэнцкай каманды зьбівае машынай кабету. Праз нейкі час ягоны «подзьвіг» паўтарае сын колішняга прэм'ер-міністра. Урэшце сын «самага галоўнага начальніка» робіць сабе «псыхалягічную разрадку» з дапамогай пісталета –пару стрэлаў па жывых мішэнях на «крутой» дыскатэцы, і можна ісьці спакойна спаць... Ніхто ня будзе пакараны.

Увечары 25 траўня 1953 году некалькі вязьняў аднаго з нарыльскіх канцлягераў сядзелі перад сваім баракам, стомленыя пасьля дзённай працы, і гралі на гармоніку. Міма ў атачэньні канвою ішла калёна жанчын-зьняволеных, якія вярталіся з працы на будоўлі металургічнага заводу, які пазьней зробіцца «флагманам» савецкай цяжкой вытворчасьці. Жанчыны ўсьмешліва прывіталі музыкаў ля бараку. Сьледам раздалося некалькі аўтаматных чаргаў. Усе чацьвёра гарманістаў памерлі на месцы.

Сёлетні чэрвень – угодкавы для падзеі, якая перакуліла ўяўленьні аб зьняволеных Гулагу. З 25 траўня па 3 ліпеня 1953 году ў лягернай сыстэме Горлаг пад Нарыльскам, трывала паўстаньне палітвязьняў. Кіравалі паўстаньнем беларусы – на чале з Рыгорам Клімовічам. З ліпеня ўнутраныя войскі ўвайшлі на тэрыторыі зонаў. Былі расстраляныя тысячы бяззбройных людзей, найбольш – беларусаў.

Ці варта было сорак пяць гадоў таму клясьціся пад кулі, адно дзеля таго, каб сьцьвердзіць свой пратэст? У свой час сыстэма нарыльскіх зонаў выконвала функцыі лягеру сьмерці. У 1953-м большасьць з тых, каму з часам было наканавана загінуць ад маразоў і холаду засталіся ў жывых, бо нарыльскі Горлаг быў расфармаваны... Клімовіч дагэтуль застаецца ў вачох дзяржавы злачынцам, ён не рэабілітаваны.

... Ідучы на працу, я гляджу, як нейкая кінафірма здымае «новы рускі» баявік. Адзін эпізод: чорны «Мэрсэдэс» ледзь не патрапляе пад колы «МАЗа». Кіроўца «Мэрсэдэса» страляе ў кіроўцу грузавіка. Стрэс ад перапуду зьняты. Можна ехаць далей.

Я працую ў спакойным раёне ў цэнтру гораду. Магчыма, таму гледачоў здымкаў «кіно» звычайна няшмат. Яны штораз зьмяняюцца, апрача аднаго сівенькага дзядка. Я ня ведаю, як яго завуць, ці чытае ён газэты й ці глядзіць расейскія альбо амэрыканскія баявікі. Але чамусьці мне здаецца, што ён ведае лепшы варыянт працягу эпізоду.

Зрэшты, у нашай сытуацыі варыянтаў можа быць толькі два. Кожны выбірае свой.

С.К.

# Пракуратура маўчыць

Мы так і не дачакаліся рэакцыі Генэральнай пракуратуры РБ на нашу Заяву адносна фактаў ваенных злачынстваў савецкіх партызанаў супраць цывільнага насельніцтва на тэрыторыі Слонімшчыны ў 1943 годзе (глядзі нумар «НН» ад 11 траўня 1998). Месяц, на працягу якога пракуратура мусіла даць нам адказ, прамінуў. Рэакцыя – маўчаньне.

Ніводзін з названых намі фактаў ня быў абвергнуты. Мы ведаем, што пракуратура праводзіла сваё дасьледаваньне слонімскіх фактаў, і факты пацьвердзіліся. Нагадаем, што год таму пракуратура афіцыйна папярэдзіла «Нашу Ніву» за публікацыю гэтых самых фактаў. Сёньня юрыдычная сіла таго папярэджаньня выглядае прывідна. Падобна, што мы маем справу нават не зь несправядлівасьцю, а з прававым нігілізмам установы, чыя найпершая задача – забясьпечваць у краіне прававы парадак.

Наша Заява была выклікана грамадзянскай і прафэсійнай пазыцыяй. Матэрыялы, якія мы зьбіраем у Архіве Найноўшай Гісторыі, распавядаюць пра малавядомыя і часта жахлівыя эпізоды беларускай гісторыі XX ст. Хто мае права хаваць ад народа і ад суда факты зьверскіх забойстваў ваеннага часу – злачынствы, якім няма тэрміну даўнасьці? Здавалася, хто заўгодна, але не пракуратура. Тым больш, што абавязкова рэагаваць на звароты прэсы публічна абавязаў яе прэзыдэнт, падпісаўшы сёлета ўвесну адпаведны ўказ.

Такім чынам, не знайшоўшы водгуку ў краіне, мы мусім апэляваць да міжнароднага заканадаўства. Паводле Статута Міжнароднага ваеннага трыбуналу 1945 году ўсё, што адбывалася ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёну на працягу 1943 году належыць кваліфікаваць як ваенныя злачынствы і злачынствы супраць чалавечнасьці:

«– ваенныя злачынствы, а менавіта: парушэньне законаў і звычаяў вайны. Да гэтых парушэньняў адносяцца забойствы, катаваньні альбо вывад у рабства ці для іншых мэтаў грамадзянскага насельніцтва акупаванай тэрыторыі… рабаваньне грамадзкай ці прыватнай уласнасьці; бяссэнсавае разбурэньне гарадоў і вёсак; спусташэньне, неапраўданае ваеннай неабходнасьцю, ды іншыя злачынствы;

– злачынствы супраць чалавечнасьці, а менавіта: забойствы, зьнішчэньні, заняволеньне, ссылка ды іншыя жорсткасьці ў адносінах да грамадзянскага насельніцтва да ці пад час вайны…. якія падлягаюць юрысдыкцыі Трыбуналу незалежна ад таго, ці ёсьць гэтыя дзеяньні парушэньнем унутранага права краіны, дзе яны былі зьдзейсьненыя, ці не».

Ужо паводле Рэзалюцыі 3074 (XXVIII) Генэральнай Асамблеі ААН ад 3 сьнежня 1973 году «Прынцыпы міжнароднага супрацоўніцтва адносна выяўленьня, арышту, выдачы і пакараньня асобаў, якія павінныя ў ваенных злачынствах і злачынствах супраць чалавецтва» «ваенныя злачынствы і злачынствы супраць чалавецтва, калі б і дзе б яны ні зьдзяйсьняліся, падлягаюць расьследаваньню, а асобы, у адносінах да якіх маюцца доказы ў зьдзяйсьненьні такіх злачынстваў, – росшуку, арышту, прыцягненьню да судовай адказнасьці і, у выпадку прызнаньня іх віноўнымі, пакараньню».

«Канвэнцыя пра невыкарыстаньне тэрміну даўнасьці да ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва», прынятая рэзалюцыяй 2391 (XXIII) Генэральнай Асамблеяй ААН 26 лістапада 1968 г., юрыдычна замацавала прынцып, паводле якога «не існуе тэрміну даўнасьці адносна ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва», а таксама забясьпечыла «паўсюднае выкарыстаньне гэтага прынцыпу».

Канвэнцыя робіць спасылку на вельмі важны для нас прынцып: «эфэктыўнае пакараньне за ваенныя злачынствы і злачынствы супраць чалавецтва ёсьць важным фактарам у справе папярэджаньня такіх злачынстваў, абароны правоў чалавека і асноўных свабодаў, умацаваньня даверу, падтрымкі супрацоўніцтва паміж народамі ды забесьпячэньня міжнароднага міру і бясьпекі».

Беларускае грамадзтва мае свае шляхі пераадоленьня міжнароднай ізаляцыі – гэта выкарыстаньне міжнародных законаў. Выступіўшы супраць прававога нігілізму ўладаў, магчыма адначасова ўмацаваць прававое поле ў самой Беларусі.

АЛЕГ ДЗЯРНОВІЧ



# Міхал Кукабака: «Я застаюся

**Легенда беларускага дысыдэнцкага руху – Міхал Кукабака. На пачатку 80-х КГБ спрабаваў зрабіць зь ягонага імя пудзіла, маўляў, Кукабака – прыдумка амэрыканскай разьведкі. З 1968-га па 1988 г. Кукабака правёў на волі менш, чым два гады. З шаснаццаці гадоў зьняволеньня пяць прыпадаюць на Сычоўскую спэцпсыхклініку. Астатнія – на турмы Ўладзімера, Віцебска, Полацка, мардоўскія лягеры.**

**Зь Міхалам Кукабакам гутарыць карэспандэнт «Нашай Нівы» Севярын Квяткоўскі.**

М.С.: Нарадзіўся я ў Бабруйску ў 1936 годзе. Маці працавала на нейкім цагляным заводзе, а бацька служыў у войску. Я яго ня памятаю — ён загінуў падчас так званай фінскай вайны. Гадавала мяне бабуля. Час другой сусьветнай вайны памятаю цьмяна, дзіцячыя ўражаньні: спачатку перамаглі немцы, пасьля расейцы, мы, пэўна, спрабавалі ўцякчы на Ўсход, ня здолелі, і час вайны правялі ў вёсцы пад Бабруйскам. Пасьля вайны скончыў рамесную вучэльню. Мяне накіравалі на працу ў Сібір...

*«Справа Кукабакі» распачалася трыццаць гадоў таму ў Кіеве, калі савецкія войскі ўвайшлі ў Чэхаславаччыну. Тады ва ўсім СССР былі лічаныя людзі, якія адкрыта выказвалі сваё непрыняцьце такіх захадаў савецкага кіраўніцтва.*

М.К.: На момант акупацыі Чэхаславаччыны я ўжо адслужыў у войску, працаваў на заводзе хімікатаў у Кіеве. Мяне выклікалі ў ваенкамат. Ня ведаю дакладна, дзеля чаго, магчыма, на «партызанку» — вайсковыя зборы. Як толькі я падыйшоў да патрэбнага ваконца ў ваенкамаце, я заявіў афіцэру, які там сядзеў: «Калі вы мяне выклікалі дзеля таго, каб адправіць у Чэхаславаччыну, вы гэта зрабілі дарэмна. Увахол савецкіх войскаў у гэтую краіну я лічу злачынствам. Саўдзельнічаць у злачынстве я ня буду. Калі вы мяне туды адправіце прымусова, я павярну рулю аўтамата супраць вас». Узьняўся крык, мяне абклалі матамі, і я ледзь не патрапіў у псыхушку. Без даведкі з шпіталя ваенкамат не даваў даведку на месца працы. Давялося добра «павыкручвацца», каб пераканаць лечкамісію, што я папросту «наіўны».

*С.К.: Вашымі ўчынкамі рухалі эмоцыі?*

М.К: У мяне на той час былі ўжо даволі трывалыя погляды. Выпадак у ваенкамаце — гэта папросту эпізод. Мною рухала нармальнае жаданьне выказаць сваё стаўленьне да падзеяў. Жаданьне не грунтавалася выключна на эмоцыі. Гэта былі нармальныя рэакцыі. Такія ж, якія ўзьнікаюць, калі вы бачыце, як хтосьці крыўдзіць дзіцёнка.

# Курапаты. Дзесяць гадоў

*Працяг са старонкі 1*

фэрэнцыяй, калі сэрвільная партбілетная публіка была псыхалягічна спаралюшаваная з-за няпэўнасьці арыентыраў, а верхнія бонзы хацелі засьведчыць прыстойную міну, гэткі камунізм – «з чалавечаскім ліцом».

* * *

Зімою 1987 году я заплянаваў археалягічныя раскопкі на пачатак траўня 1988 году і адразу пачаў апытаньне сьведкаў у Менску і ў вёсках вакол Курапатаў. У гэты ж час паабапал дарогі пачалі высякаць просеку ў Курапацкім лесе. Зьбіраліся пракладаць трубу газаправоду. Ня выключана, што пры пракладцы трубы маглі закрануць і магілы (так яно потым і здарылася). Усё прысьпешвала выступіць менавіта ў гэты час.

За паўгады я ўсё грунтоўна й дакумэнтальна падрыхтаваў. Апісаньне вынікаў археалягічных раскопак, акрамя навуковай справаздачы, я аформіў яшчэ пратаколам з прыцягненьнем сьведкаў і афіцыйна заверыў у мясцовым органе ўлады. Гэтага рабіць не патрабуецца, але я зрабіў, і кіраўнікоў мясцовай улады запрасіў на месца раскопак, каб сваімі вачыма ўбачылі, што падпісваюць.

Артыкул «Курапаты – дарога сьмерці» быў напісаны і ўдакладнены зь Яўгенам Шмыгалёвым за два дні, і аднесены ў рэдакцыю «Літаратуры й Мастацтва». Рэдактар А. Вярцінскі быў у доўгай замежнай камандыроўцы. Намесьнік рэдактара Мікола Гіль адразу вырашыў артыкул друкаваць і зьвярнуўся да Васіля Быкава з прапановаю напісаць прадмову. Ён шукаў падтрымкі перад ЦК КПБ, бо газэта цэнзуравалася ў ЦК. Там праглядалі зьмест кожнага нумару «ЛіМа» і маглі запатрабаваць для чытаньня й спыніць любы матэрыял.

Адразу ж пачаўся шалёны ціск на Міколу Гіля. Патрабавалі зьняць матэрыял. Але рэдакцыя, якая стала на мой бок, супраціўлялася. Справа даходзіла да таго, што па распараджэньні ЦК спынялі нават паліграфічныя машыны, калі павінен быў выйсьці нумар з артыкулам. Час цягнуўся не на маю карысьць.

І тады, відаць, упершыню за ўсю гісторыю газэты, узбунтавалася рэдакцыя «ЛіМа». На агульным сходзе абмяркавалі сытуацыю, выказалі абурэньне й падтрымалі рашэньне друкаваць артыкул. Здарылася неверагоднае. У ЦК праміргалі. Трэцяга чэрвеня артыкул быў надрукаваны.

Я бачыў, што камуністы мяне недаацэньваюць. Мяне зьдзіўляла, чаму яны робяць усё так, як мне трэба, а не па-свойму? Яны, як і трэба было, стварылі Дзяржаўную камісію, перадалі справу ў пракуратуру. Пракуратура пачала сьледзтва і вырашыла зрабіць эксгумацыю з прыцягненьнем сілаў рэспубліканскай пракуратуры, Міністэрства ўнутраных справаў, Акадэміі Навук, Міністэрства абароны, грамадзкіх назіральнікаў, прадстаўнікоў мясцовай улады й сьведкаў.

У акадэмічны інстытут гісторыі прыслалі афіцыйны ліст з просьбай: «для ўдзелу ў выбарачнай эксгумацыі вылучыць супрацоўніка інстытута – спэцыяліста ў галіне археалёгіі». Дырэктар інстытута наклаў рэзалюцыю: «Прыняць удзел З. С. Пазьняку».

Перад пачаткам працы сабралася нямала людзей: кіраўніцтва Пракуратуры БССР, адказныя чыноўнікі Міністэрства ўнутраных справаў, журналісты, члены Дзяржаўнай камісіі. Прыехалі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч. І вось мы пачалі. Што будзе ў зямлі –я ўжо ведаў. Амаль да двух мэтраў ішоў чысты пусты пясок, у якім часам траплялася фалянгі чалавечых пальцаў. Для археоляга гэта ўжо званок, што грунт быў переварушаны праз некалькі гадоў пасьля засыпкі магілы.

Але сярод афіцыйных асобаў, якія не адыходзілі, запанавала ўзбуджэньне. Яны сталі голасна размаўляць паміж сабой, сьмяяцца, адпускаць жарцікі, маўляў: «нічэво нет». Пракурор БССР Тарнаўскі пакруціўся і бадзёрым крокам пашыбаваў да машыны і паехаў у сваю пракуратуру дакладваць.

Паказаліся ніжнія пласты забітых: прастрэленыя чарапы зь дзіркамі ў патыліцы, рэвальвэрныя гільзы, кулі, гумовыя галёшы, пазначаныя 1937 годам з маркаю фабрык «Красный богатырь» і «Резинтрест». Запанавала цішыня. Твары чыноўнікаў сталі сур'ёзнымі. Раптам яны зразумелі, што тут не да жартаў.

* * *

Далей на працягу паўмесяца была толькі праца. Вынікі яе вядомыя. Я распавёў потым пра іх у артыкуле «Шумяць над магілай сосны» і ў справаздачы аб археалягічных раскопках. Аналіз вынікаў паказаў, што магілы ў Курапатах пазьней, дзесьці ў канцы 40-х гадоў, былі раскапаныя, а косьці зь іх –выбраныя. Хто б мог такое зрабіць? Пэўна той, хто зацікаўлены схаваць злачынства.

Пасьля выпадку з Катыньню (вёскай у смаленскай Беларусі, дзе расстрэльвалі беларусаў з 1935 году і пра якую сьвет даведаўся пасьля расстрэлу там польскіх афіцэраў) Берыя і Цанава, а магчыма, і Сталін, маглі зрабіць высновы і даць загад аб выбарцы трупаў у Курапатах. Самаўпэўненыя і нават агрэсіўныя паводзіны камуністаў перад археалягічнымі дасьледаваньнямі Курапатаў тлумачацца, на мой погляд, тым, што яны мелі інфармацыю з пэўных крыніцаў, быццам бы ў Курапатах нічога няма.

Камуністы фатальна прайгралі. Схаваць забойства цяжка, а масавае – немагчыма. Хофць камуністы ўвесь час рупіліся пра схаваньне сваіх крывавых таямніцаў. Рупіліся рознымі спосабамі.

У 60-х гадах, напрыклад, калі кіраўфніцтва савецкіх партызанаў, якія апанавалі ўладу ў Беларусі, узмоцнена пампавала тут партызанскі культ, узьнікла ідэя стварэньня паказушнага помніка спаленай немцамі беларускай вёскі. Выбралі вёску пад назовам Хатынь, бо назва яе пераклікалася зь вядомай ужо смаленскай Катыньню. Назва другой вёскі павінна была зацьміць сваім зьместам назву першай. На гэта былі кінутыя велізарныя сродкі й падключана велізарная прапагандысцка-турыстычная машына. Эфэкт быў дасягнуты. Міт створаны.

Але нічога не ўратавала бальшавікоў. Знайшліся дакумэнты пра смаленскую Катынь. Стала вядомая праўда і пра менскую Хатынь.

Хатынь была спаленая ў выніку сьвядомай правакацыі савецкіх партызанаў. Такіх правакацыяў стварылі яны ў Беларусі шмат. Каля ахвярнай вёскі спэцыяльна забівалі немца ці абстрэльвалі нямецкую машыну (як каля Хатыні), а сьляды рабілі ў вёску. Па сьлядах ішлі нямецкія карнікі й палілі паселішча, часта разам зь людзьмі. Такім чынам партызанскія энкавэдысты й іх штаб у Маскве ўзбуджалі ў беларусаў нянавісьць да немцаў і заганялі людзей у партызаны.

За вайну, калі верыць савецкай статыстыцы, у Беларусі было спалена больш за 9 тысячаў вёсак і іншых паселішчаў. Такі вынік расейска-нямецкай камуністычна-фашыстоўскай супольнай працы па вынішчэньню беларусаў. Нагадаю, разам яны забілі амаль траціну беларускай нацыі.

* * *

– А харашо стрэляць врагов народа, – выхваляўся мясцовы энкавэдыст Грышка Бацян, глушачы самагонку з цнянскімі камуністамі, – как врэжэш із нагана, так шчэпкі лецят.

Гэтыя словы пераказалі мне старыя цнянцы. Грышку добра памятае Галіна Сьцяпанаўна Жукоўская (1924 году нараджэньня, па мужу – Сідзякіна). Гэты Грышка – жыхар вёскі Цна. (Дарэчы, рэдкая зьява, што ён быў мясцовы, бо ў НКВД ў Беларусі былі амаль выключна расейцы). Дык вось, гэты Грышка забіў у Курапатах бацьку й маці Галіны Сьцяпанаўны і выхваляўся потым перад цнянцамі:

– Жуковскіх я сам стрэлял.

Памёр забойца Григорий Ботян у 1954 годзе сваёй сьмерцю.

* * *

Восеньню 1989 году, туманным днём, праз 50 гадоў пасьля падзеяў, я йшоў з кінарэжысэрам Міхаілам Ждаshowоўскім і апэратарам па вуліцы Цны. Здымалі фільм «Дарога на Курапаты». Гэта выдатны фільм. Але як толькі ён быў гатовы (а гэта яшчэ пры Шушкевічы-Кебічы), стужку тут жа, пасьля першага прагляду, арыштавалі і паклалі на паліцу. Там яна й цяпер ляжыць. Калі толькі ня зьнішчылі, ці ня скралі.

Шкада, што фільм ня ўбачылі людзі. У некаторыя кадры нават цяжка паверыць, што яны дакумэнтальныя. Тым ня менш, гэта так. Напрыклад, сядзіць за сталом забойца: тлусты круглы твар. Ён есьць, чаўкае, п'е гарэлку й расказвае пра сваю працу. Размова гучыць прыблізна так:

– Я не стрэлял. Я вазіл. Да. Была дзела. Я шафёрам служыл в НКВД. А стрэляць – не стрэлял. Нет.

– А калі б вам загадалі страляць у людзей, вы стралялі б? –гучыць пытаньне за кадрам.

– Есьлі бы прыказ, тагда бы, канешна, стрэлял.

За сэанс расстрэлу дабраахвотнікам адразу выдавалі дзесяць рублёў. Прыехаўшы з Курапатаў, каты «атаварваліся» ў сталоўцы. Сядзелі тут і выпівалі.

У Лошыцы дабраахвотнікам пастраляць ў патыліцу давалі толькі 50 капеек, але гэта не кадравым энкавэдыстам, а энтузіястам: грамадзкім стукачам, камсамольцам, членам ДСААФ й іншым аматарам, якія круціліся каля энкавэдыстаў і расстрэлаў у Лошыцкім раёне.

* * *

Маёр Бачкоў – расеец, жыў у Дроздаве й быў жанаты зь мясцовай драздаўскай дзеўкай. Мелі дваіх дзетак. Бачкоў расстрэльваў у Курапатах і кожны дзень (ці ноч, як трапіць па графіку) хадзіў на працу. Дадому з працы прыходзіў п'яны. Бывала: прыйдзе ноччу, паесьць – і да жонкі. Прырода кліча. А яна яго адпіхвае:

– Адыйдзі, ты п'яны, памыйся, ад цябе крывёй пахне.

Як кажуць расейцы, «такая любов». Простая савецкая сям'я ўзору 37-га году. Ня ведаю, як было, калі бацька прыходзіў з работы ўдзень, і яго сустракалі дзеці. Можа, пыталіся, колькі ён сёньня забіў: восемдзесят ці дзевяноста.

Пра ўсё гэта мне расказвалі драздаўскія людзі, у тым ліку – і сваякі Бачкова. Сам забойца з пачаткам вайны кінуў дзяцей і ўцёк у Расею. Там і памёр у 1978 годзе. Жонку яго, якая зьвязалася з партызанамі, застрэлілі немцы ў пачатку ліпеня 1944 году.

Бывала, што энкавэдысты з каманды, якая расстрэльвала ў Курапатах, пасьля зьмены, узбуджаныя алькаголем і сьвежа пахнучыя крывёю, прыходзілі на танцы ў Дроздава ці Зеляноўку. Некаторыя дзеўкі вельмі хацелі выйсьці замуж менавіта за энкавэдыстаў. Да

# дысыдэнтам»

*Міхал Кукабака праз год быў вымушаны пакінуць Кіеў. Гэтаму папярэднічалі спробы перадаць ліст пратэсту праз генконсульства Чэхаславаччыны, а таксама дзейнасьць, скіраваная на байкот выбараў, якія праводзіліся ў 1968 годзе.*

М.К.: Я і некалькі маіх знаёмых, якіх я здолеў пераканаць, агітавалі ў вуснай форме. Наша пазыцыя была такая: аднапартыйныя выбары — гэта ня выбары; за камуністаў мы не галасуем. Калі альтэрнатывы няма, навошта ўдзельнічаць у шоў? Неўзабаве мяне выклікалі ў кіеўскі гаркам КПУ, абвінавацілі ў мааізме, а маіх прыяцеляў паспрабавалі прымусіць зрабіць на мяне данос. Нягледзячы на тое, што ў тыя часы для вялікай колькасьці савецкіх грамадзянаў увогуле адсутнічаў панятак «даносу» ці «стукачаства» як чагосьці антымаральнага, бо гэта разглядалася як праява патрыятызму, сфабрыкаваць супраць мяне палітычную справу ўладам не ўдалося. Тады яны пайшлі іншым шляхам. Вырашылі выселіць мяне з інтэрнату «за п'янства». У адказ я падаў судовы іск за паклёп і правёў апытаньне жыхароў інтэрнату. Абыйшоў іх зь лістом паперы, на якім прапаноўваў засьведчыць сваё меркаваньне — п'яніца я ці не. Падпісаліся ня ўсе, але вынікі былі для мяне пазытыўнымі, справу «спусьцілі на тармазах». Але перада мной паўстала пытаньне — куды зьяжджаць.

Я выбраў горад Аляксандраўск Уладзімерскае вобласьці. Аляксандраўск — гэта сто першы кілямэтар ад Масквы. А сталіца на той час была адзіным месцам, дзе было магчыма ўступіць у кантакты з замежнымі карэспандэнтамі, то бок, адзінай магчымасьцю перадаць нейкую інфармацыю ў вольны сьвет. Масква была самым спрыяльным горадам для антыдзяржаўнай дзейнасьці.

*Міхал Кукабака прыехаў у Аляксандраўск у жніўні 1969 году, а 14 красавіка 1970 году быў арыштаваны КГБ.*

*Падставай зьявіўся ліст-адказ на артыкул ангельскага пісьменьніка Айвэра Мантэгю, які ў сваім артыкуле ў «Камсамольскай Праўдзе» «выкрываў» расейскага пісьменьніка-дысыдэнта Анатоля Кузьняцова, аўтара вядомага «Баб'яга Яру».*

М.К.: Пасьля таго, як я паспрабаваў перадаць свой ліст на Захад, мяне выклікалі ў гарадзкую пракуратуру Аляксандраўска. Пракурор запытаўся, маўляў, чаму вы, Міхал Ігнатавіч, рэгулярна выступаеце супраць савецкае ўлады. Я адказаў, што ня маю нічога супраць савецкае ўлады. Толькі я ведаю, што ў расейскай мове слова «совет» азначае працэс «советования». Але за трыццаць зь лішкам гадоў свайго жыцьця я прыйшоў да высновы, што нашыя ўлады з намі, грамадзянамі, ніколі ня раілася. Значыць, савецкае ўлады ў нас няма, за яе яшчэ прыйдзецца змагацца. Тады ззаду мяне зьлёгку хлопнулі па плячы, я абярнуўся — міліцыянт працягвае наручнікі...

У мяне быў вельмі займальны прысуд. Там былі, напрыклад, такія пасажы: «Падчас уборкі тэрыторыі завода Кукабака ў прысутнасьці такіх і такіх неадабральна выказваўся аб ленінскім лёзунгу жыць і працаваць па-камуністычнаму». Альбо напрыклад: «Падчас сустрэчы Новага году за сьвяточным сталом Кукабака казаў, што ў нас няма сапраўднай Канстытуцыі, што нават тая, якая ёсьць, не выконваецца. Неадабральна адгукаўся аб унутранай і зьнешняй палітыцы савецкае дзяржавы». І ўсё ў такім духу. Было такое адчуваньне, што за мной хадзілі сьлед у сьлед і запісвалі кожнае слова.

*Міхала Кукабаку судзілі 6 верасьня 1970 году завочна. Аб выніках ён даведаўся толькі праз год зьняволеньня ва Ўладзімерскай сьледчай турме ў кастрычніку 1971 г. Зь лістапада 1971-га па 1976 год Кукабака знаходзіўся на «лячэньні» ў Сычоўскай спэцпсыхклініцы, што ў Смален-*

*Працяг на старонцы 8*

# пасьля

забойцы ставіліся са страхам і павагай.

На адну такую зь Зеляноўкі, якая выйшла за бандыта, я хадзіў паглядзець у 1988 годзе. Дародная бабуля – паўрота залатых зубоў. «Муж работал в НКВД», – сказаў мне гэты рот. На сьцяне – фота забойцы.

Потым я знайшоў яго магілу й помнік на ёй з чорнага паліраванага лабрадору з сэнтымэнтальным надпісам ад жонкі й дзяцей. На пліце – фотагравіроўкі – клясычная фізіяномія энкавэдыста, абагульнены тып. Фатаграфія з гэтага помніка зьмешчана ў Менскім выданьні маёй кніжкі «Курапаты». Там я адрэзаў прозьвішча бандыта й эпітафію, бо некрытычна прымаў ілжывую сэнтэнцыю, што дзеці быццам бы не адказваюць за забойствы бацькоў. Прозьвішча ката – Друзь. Расеец з Украіны. Колькі ён асабіста забіў людзей – невядома. Усяго ж у Курапатах было замардавана каля чвэрці мільёна чалавек.

* * *

Мяне ўразіла маўклівая пакорнасьць і поўнае неразуменьне таго, што адбываецца, у тых, каго забівалі камуністы. Быццам гэта былі ня людзі, а мурашкі, быццам гэта быў не народ. «За што?» – іх традыцыйнае пытаньне перад расстрэлам. І ніхто (амаль ніхто) не імкнуўся ўцячы.

На што чалавек спадзяваўся, калі пытаў «За што?», бачачы, што прывезьлі яго забіваць? На справядлівасьць? На цуд? На літасьць катаў?

Людзі не ўсьведамлялі сутнасьці генацыду й сэнсу расстрэлаў, бо гэта было вышэй іхнага разуменьня. Яны рэагавалі на забойства, як маральныя хрысьціянскія асобы, выхаваныя ў такіх паняцьцях, як «справядлівасьць», «грэх», «віна», «пакараньне». Яны ўспрымалі бальшавікоў, як начальства, як уладу і не разумелі, як можна караць невінаватых.

Ноччу ня спалі. Прыслухоўваліся, ці не загудзе машына. Бо забіралі ноччу. Але, калі машына гула, то не хаваліся, не ўцякалі. Муж зьбіраўся, дрыжачымі пальцамі зашпільваў гузікі й глухім голасам казаў жонцы: «Гэта памылка, дарагая, разьбяруцца – і я вярнуся». Пасьля такіх дзяжурных і фальшывых словаў чалавек зьнікаў назаўсёды.

Страшны досьвед Курапатаў павінен навучыць кожнага. Народ ня можа быць безабаронным. Людзі павінны разьбірацца ў падзеях і адрозьніваць свайго ад чужога. Калі сьляпыя й глухія, то могуць перабіць усіх, а тыя – яшчэ падзякуюць за забойства: «спасіба парціі». Але галоўнае – супраціўляцца, не маўчаць, ня жаліцца ворагам, нічога ў іх не прасіць. Народ, які змагаецца, – перамагае акупацыю ня сілаю, дык духам, ня зброяй, дык розумам.

Беларусы пад бальшавікамі былі ў большасьці пазбаўленыя нацыянальнай ідэі. Таму яны ня ў стане былі змагацца. Грамадзтва пісала даносы на сваіх. Займалася самаедзтвам. Задавала пытаньне: «за што?»

За што? За тое, што былі беларусамі. Аднак гэта беларусам было цяжка зразумець.

* * *

Скончыўшы археалягічныя дасьледваньні Курапатаў, а празь нейкі час і сьледзтва, камуністы загналі сябе ў глыбокі кут. Дзяржаўная камісія, якую яны стварылі, нічога не хацела прызнаваць і не прымала рашэньняў.

У гэты час інфармацыя пра Курапаты пайшла за мяжу. Пачаўся наплыў журналістаў і здымачных групаў з усяго сьвету. Я нікому ні ў чым не адмовіў. Амаль год працаваў разам зь імі, вазіў па мясьцінах расстрэлаў, паказваў доказы, рэчы, знаёміў са сьведкамі. Бывала, быў заняты цэлымі днямі й тыднямі. Я разумеў, чым больш людзей будзе ведаць праўду, тым менш застанецца месца для хлусьні.

У гэты ж час спачатку эстонцы, а потым латышы стварылі народныя франты і пачалі змаганьне за незалежнасьць. Гэта быў такі радасны час, што здавалася – вырастаюць крылы. Адчувалася, што надыходзіць канец камунізму, канец імпэрыі зла.

У канцы жніўня 1988 году група людзей, куды, акрамя мяне, уваходзілі Міхась Дубянецкі, Алег Белавусаў, Алесь Лукашук і яшчэ некалькі чалавек, пачала рэгулярна зьбірацца й працаваць над статутам новай грамадзкай арганізацыі, прысьвечанай змаганьню за гістарычную праўду і выяўленьню сталінскіх злачынстваў супраць народа. Рабочая назва арганізацыі была «Камітэт-58». Меўся на ўвазе 58-ы артыкул Крымінальнага кодэксу СССР, па якім арыштоўвалі й каралі ворагаў народа.

Устаноўчая канфэрэнцыя адбылася 19 кастрычніка 1988 году ў Менску ў Чырвоным касьцёле Сымона й Алены, у якім тады разьмяшчаўся Дом кіно. Дэлегаты прыехалі з усёй Беларусі.

Я папрасіў, каб абслуга канфэрэнцыі прыйшла ў Дом Кіно за дзьве гадзіны да пачатку, каб кантраляваць сытуацыю і запабегчы захопу будынка кагэбістамі. Як у ваду глядзеў. Нашы людзі прыйшлі першымі. Але тут жа пачалі зьяўляцца тыпы ў аднастайных шэрых касьцюмах зь нейкімі сабачыма вачыма. Неўзабаве іх назьбіралася ўжо 70 чалавек. Моўчкі шнырылі па закутках і зыркалі на нас. Але мы кантралявалі ўсе іх перамяшчэньні. Яны, аказваецца, хацелі пранікнуць у залю без запросінаў і заняць месцы.

Пачалі прыбываць дэлегаты канфэрэнцыі. Мы зразумелі, што людзей будзе шмат і вырашылі пусьціць у залю сабакавокіх. Галасоў нам хопіць, думалі мы. Аднак потым валам паваліла рэспубліканская пракуратура, амаль у поўным складзе на чале з намесьнікам пракурора, прыйшлі інструктары ЦК, гарвыканкамаўскія чыноўнікі, райкамаўскія дамы ў строгіх касьцюмах і «нецерпяшчыя вазражэній».

З прыблізна 350-370 прысутных больш за сто асобаў былі камуністычнае начальства і сабакавокія. Яны тут жа далі нам бой, але прайгравалі пазыцыю за пазыцыяй. Калі справа дайшла да галасаваньня, начальнікі й агентура запатрабавалі дэмакратыі, каб галасаваць усім прысутным, і ім таксама. Мы згадзіліся. Нас гэта не палохала, бо дыскусія, якую мы выйгралі, паказала, што 2/3 прысутных у залі – за нас.

Кіраўніцтва новай арганізацыі было выбрана. Статут прынялі, таварыства стварылі. Назвалі яго – «Мартыралёг Беларусі».

* * *

Але самае цікавае здарылася ў канцы, дзеля чаго й зьбіралася гэтая канфэрэнцыя па стварэньні «Мартыралёгу». Было прапанавана стварыць тут Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту. Начальнікі трапілі, што называецца, як мухі ў патаку. І, зразумеўшы, куды ўскочылі, «палезьлі на сьцяну», але гэта выклікала толькі сьмех. Заля раўла ад захапленьня й пачуцьця сваёй перавагі. Я прапанаваў сьпіс кандыдатаў у Аргкамітэт.

Нейкі начальнік з ЦК КПБ па прозьвішчу Бузук кінуўся на трыбуну, вырваў мікрафон і, як сапраўдны бальшавік, паспрабаваў павесьці сход за сабою. Заля ашалела ад такога нахабства. Бузук, заікаючыся, бубнеў сваё. Яго спыніў Васіль Быкаў, якога мне рэдка прыходзілася бачыць у гневе.

– А дземакрація! – адчайна залемантаваў нехта з «падначальства», – гдзе дземакрація?

– Дэмакратыя на месцы, – адказаў я, – вашыя прапановы? Каго вы прапануеце ў Аргкамітэт БНФ? – Падначальнік асекся. Ён быў не падрыхтаваны. Не пракурора ж выстаўляць, не начальства з райкаму.

– Прапануйце сябе, – падказаў я яму, – а мы прагаласуем.

– Нет, я нет, – адмовіўся «таварышч».

Прапановы з залі былі, і да майго сьпісу дабралі яшчэ 12 чалавек. Але гэта былі людзі, якіх ведалі, і тыя, хто трэба.

Перамога была поўная.

* * *

А назаўтра газэты разьнесьлі нас ушчэнт. Аказваецца, мы няправільна разумелі «перастройку». Але генэральны разнос быў наперадзе. Стала відавочным, што камуністы, атрымаўшы па носе, ад нечаканасьці зусім страцілі арыентацыю.

Рэч у тым, што яшчэ ўлетку, калі толькі стварыліся прыбалтыйскія народныя франты, першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў урачыста запэўніў Маскву, што ў Беларусі «нікакова фронта не будзет». Але пасьля адкрыцьця Курапатаў «запахла» Фронтам і ў Беларусі. Тады 8 жніўня цэкоўскія мудрацы сабраліся на бюро ЦК і па прыкладу дрэннай памяці расейскага жандармскага генэрала Зубатава рашылі самі стварыць Народны Фронт, каб павесьці народ да перабудовы.

Таемнае рашэньне ЦК аб стварэньні Беларускага Народнага Фронту было прынятае, а справа арганізацыі яго даручана Пятру Краўчанку, тагачаснаму сакратару па ідэалёгіі Менскага гаркама КПБ і цяперашняму паслу ў Японіі. Усё спачатку ішло для камуністаў быццам бы «харашо». І раптам нечакана Народны Фронт ствараецца не камуністамі. Пры тым – сапраўдны Фронт. Было ад чаго замітусіцца. На цэкісцкіх мудрацоў хапіла прастаты.

Пра стварэньне Фронту тады ў Беларусі паўсюдна гаварылі і розныя маргіналы, і перабудовачныя «казнадзеі», і проста агентурныя правакатары. Стварыць звычайным спосабам прадстаўнічы і варты даверу Аргкамітэт у такіх умовах было немагчыма. Таму намі былі, што называецца, вытрыманыя ўсе правілы. І галоўнае, пры падрыхтоўцы з нашага боку не было ніякіх намёкаў пра Фронт. Калі ўзьнікалі размовы, то я тут жа нешта казаў супраць арганізацыі Фронту. Усё гэта, безумоўна, лавіла чуйнае вуха агентуры.

Калі ўжо ўсё было падрыхтавана, тады зь плянам стварэньня Фронту былі пазнаёмленыя два чалавекі, на слова якіх можна было абаперціся, як на рыцарскае кап'ё, – гэта Міхась Дубянецкі й Васіль Быкаў. Яны ведалі ўсё, і з гэтага часу мы дзейнічалі разам.

Заля Дому кіно была ўжо перапоўненая. Пара пачынаць. Я адвёў у бок уласьніка залі, Старшыню Саюзу кінематаграфістаў Вячаслава Нікіфарава й сказаў:

– Мой абавязак вас папярэдзіць: на канфэрэнцыі будзе створаны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту.

– Тут Бузук сядзіць у мяне ў кабінэце, – упалым голасам сказаў Нікіфараў.

– Дык вось і скажыце яму, а мы пачнем канфэрэнцыю.

Я ўвайшоў у залю й папярэдзіў некалькі чалавек пра тое, што мае быць. У гэты час падышоў Васіль Уладзімеравіч Быкаў і кажа, што там Бузук з ЦК кліча мяне ў кабінэт.

– Толькі спакойна, – парадзіў Быкаў.

Спакойна не атрымалася. Бузук з цэкісцкім аплёмбам пачаў гаворку ў стылі «Кто дал права?» і «Кто вы такой?» За сьпінай нецярпліва шумела заля, гублялася хвіліна за хвілінаю, і мне нічога не заставалася, як рэзка спыніць аплёмб начальніка.

* * *

Праз тыдзень разгарнуліся падзеі больш сур'ёзныя. За сваю някемлівасьць, правалы й паразы камуністы вырашылі адпомсьціць. Ім хацелася, як сказаў тады Яфрэм Сакалоў: «Даць, каб ня ўсталі!»

Штаб апэрацыі ўзначаліў тагачасны сакратар ЦК КПБ па ідэалёгіі Валеры Пячэньнікаў. Плян быў просты: 30 кастрычніка, у час першага масавага адзначэньня «Дзядоў», якое зьбіраліся правесьці прыхільнікі Народнага Фронту, сілы камуністычнага парадку намерваліся справакаваць бойку. Потым павінны былі ўмяшацца ўнутраныя войскі і «пусьціць кроў» – пабіць людзей. Адказнасьць за правакацыю й за ахвяры звалілі б на беларускіх «нацыянал-фашыстаў, якія арганізавалі Народны Фронт». Пасьля гэтага камуністы меркавалі разграміць усё і, што можа галоўнае, – спадзяваліся атрымаць пахвалу з Масквы, а магчыма, таксама пасады і ўзнагароды.

Прыблізна праз год пасьля правалу «апэрацыі» адзін афіцэр міліцыі перадаў мне копію пляна дзеяньняў, які быў «даведзены» аднаму зь Менскіх раённых аддзелаў унутраных справаў. З гэтага пляну шмат што высьветлілася. Людзей павінны былі выцесьніць ад Усходніх могілак у стары няплодны сад (што раскінуўся побач гектараў на сто) і пабіць.

Мабілізаваная была міліцыя з усёй Беларусі, акрамя таго –аддзелы амону, унутраныя войскі, ДАІ й ваенныя пажарныя часткі, курсанты міліцэйскіх вучэльняў, КГБ, работнікі райкамаў партыі й камсамолу. Працавалі суды й пракуратура (хоць быў выхадны дзень), паліклінікі й мэдыцынскія пункты, дзяжурылі на пагатове машыны «хуткай дапамогі», у райкамах і судах сядзелі людзі з аўтаматамі. Усе дарогі вакол Менску былі перакрытыя міліцыяй і ДАІ. Курапаты акружылі ўнутраныя войскі, а падыходы заблякавала міліцыя. Нікога не прапускалі. Нікому не далі паставіць сьвечку, а самых актыўных – хапалі альбо зьбівалі.

Каля Ўсходніх могілак сабралася прыблізна дзесяць тысяч чалавек. Але міліцыі й спэцвойскаў, відаць, было ня менш. Міліцыя й пераапранутыя агенты пачалі адціскаць і таптаць людзей, хапаць актывістаў Фронту, Мартыралёгу й тых, на каго паказвалі агенты ў натоўпе.

Упершыню менчукі ўбачылі ваенныя пажарныя машыны з вадзянымі гарматамі, мноства велізарных фургонаў з закратаванымі вокнамі, салдатаў у плястыкавых шлёмах і міліцыю з газавымі балёнчыкамі. Дэманстрацыя сілы была ўнушальная, але стала зразумела, асабліва пасьля таго, як пачалі нападаць на людзей, што гэта ня толькі дэманстрацыя сілы. Рыхтавалася нешта вельмі змрочнае. Да маладых мужчын падскоквалі тыпы ў цывільным і ні з таго ні зь сяго пырскалі з газавых балёнчыкаў у вочы «Чаромхай» і адскоквалі.

Нейкая віжаватая «дамачка» з райкаму камсамолу, як можна здагадацца, зь лёгкім кагэбіскім стажам, падляцела да маладога мужчыны, ударыла яго рукой па твары й чакала рэакцыі ў адказ. Рэакцыі, вядома, не было ніякай. Але ўсім стала зразумела, што робіцца вялікая правакацыя.

*Працяг на старонцы 8*

# Міхал Кукабака: «Я застаюся дысыдэнтам»

*Працяг са старонкі 7*

*скай вобласьці. У свой час яна лічылася адной з найгоршых установаў падобнага кшталту. У заключэньні мэдэкспэртызы сьцьвярджалася, што «заняткі спортам, цікавасьць да замежных моваў і філязофіі прывялі да хваравых зьменаў асобы».*

М.К.: Па вялікім рахунку, мне пашанцавала. Прынамсі, таму, што я здолеў пазьбегнуць моцных псыхатропных прэпаратаў. Да таго ж, я патрапіў да маладога лекара. На мой погляд, ён яшчэ быў ня моцна сапсаваны той сыстэмай. І ўрэшце, я адразу выбраў найбольш аптымальную лінію паводзінаў. Як толькі я прыбыў у спэцклініку, я адразу ж памкнуўся атрымаць працу. Фармальна праца была дабраахвотнай справай. Але ж сярод «лячэбных» сродкаў існавала так званая «працатэрапія». То бок, калі пацыент адмаўляўся ад ласкавага запрашэньня папрацаваць, яго адразу ж пачыналі шпігаваць нэўралептыкамі. Гэта быў сапраўдны стымул да працы. У першапачатковым значэньні гэтага слова. Слова stymulus у Старажытным Рыме азначала палку для біцьця рабоў...

Адрозьненьне спэцпсыхклінікі ад турмы заключаецца ў тым, што пацыент клінікі ўвогуле ня мае АНІЯКІХ правоў. Менавіта таму я нават не спрабаваў пісаць нейкія скаргі. Гэта разглядалася як праява «хваробы», і вяло за сабой пакараньне нэўралептыкамі. А гэтыя прэпараты разбуралі ня толькі псыхіку, але ўвесь арганізм цалкам. Я бачыў людзей, якія састарыліся ў тры разы хутчэй, чым наканавана прыродай.

Я меў доўгія размовы з сваім лекарам. Ён уступаў у дыялёг, і я ніколі ня мог зразумець, калі ён шчыры, а калі мне «падыгрывае». Але аднойчы ён сказаў: «Так, Міхал Ігнатавіч, ад таго, як Вы ўліплі ў гэтую гісторыю, ніхто з нас не застрахаваны.»

*Кукабака быў вызваленьны з Сычоўскай псыхушкі на пачатку 1976 году, а ўжо 1 лістапада таго ж году быў ізноў арыштаваны, і зноў скіраваны ў спэцпсыхклініку па абвінавачваньні ў распаўсюджваньні «Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека», дэ-юрэ легальнага дакумэнта на тэрыторыі СССР. Але праз некалькі месяцаў улады былі вымушаныя вызваліць Кукабаку, паколькі аб ягонай справе загаварылі на міжнародным псыхіятрычным кангрэсе, які ў 1976 годзе праходзіў у Лёндане.*

*Наступным выступам Кукабакі стаўся артыкул «Абарона правоў чалавека і разрадка — непадзельныя», які быў зачытаны ў радыё «Свабода». Сьледам зьявілася эсэ «Скрадзеная Радзіма» аб русіфікатарскай палітыцы камуністаў у дачыненьні да Беларусі. Гэты артыкул прагучаў у эфіры «Нямецкае Хвалі», а таксама быў надрукаваны ў амэрыканскай газэце «Беларус». Эсэ выклікала вялікую дыскусію па-за межамі СССР. Менавіта «Скрадзеная Радзіма» сталася асноўнай прычынай чарговага арышту Міхала Кукабакі 19 кастрычніка 1978 году. 22 чэрвеня 1979 году ён быў асуджаны «за антысавецкую агітацыю і прапаганду». Зь лягеру Кукабака вызваліўся толькі ў 1988 годзе. За гэты час яго судзілі яшчэ два разы, кожны раз перад заканчэньнем вызначанага тэрміну. У 1987 Кукабаку два месяцы апрацоўвалі ў Віцебскай турме з мэтаю «выбіць пакаяньне». Са словаў іншага сядзельца Віцебскага цэнтралу, Славаміра Адамовіча, памяць аб Кукабаку зьняволеныя перадаюць «з пакаленьня ў пакаленьне». Вызваленьне Міхала Кукабакі было прымеркаванае да візыту прэзыдэнта Гарбачова ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Сёлета адзін з апошніх савецкіх дысыдэнтаў спраўляе своеасаблівы «юбілей» жыцьця на волі.*

*С.К.: Пакуль Вы знаходзіліся за кратамі, Вы былі моцным раздражняльнікам для савецкіх уладаў. За вас заступалася некалькі міжнародных хельсінскіх групаў, сэнатары амэрыканскага кангрэсу, нават ангельскі міністар. Напрыканцы 80-х Вашае імя было моцным чыньнікам супрацьстаяньня таталітарнай сыстэме. Вызваліўшыся зь лягеру, Вы апынуліся у цалкам іншым сьвеце ў параўнаньні з часам, калі патрапілі за краты. Ці існуе для Вас у новых рэаліях панятак дысыдэнцтва?*

М.К.: Дысыдэнства — рознаплянавае. Я ведаю, што ў сёньняшняй Беларусі ізноў зьявіліся дысыдэнты. Я лічыў і лічу сябе беларусам, да майго вызваленьня спрычынілася шмат асобаў зь беларускай заходняй дыяспары і дзеячоў беларускага незалежніцкага руху. Але цяпер я грамадзянін Расеі, і расейскія рэаліі мне больш вядомыя. Вось прыклад. Былі людзі, якія лічылі, што ім нестае свабоды дзеля самавыказваньня. Перабудова ім гэта дала, і яны спыніліся, гэта іхная «столь». Яны цяпер могуць вольна публікавацца, калі гэта не разыходзіцца з стэрэатыпамі масавай сьвядомасьці. Але фактычна я дагэтуль зьяўляюся дысыдэнтам. Хоць я не лічу сябе прафэсіяналам-праваабаронцам, але я сярод тых нешматлікіх людзей, чые ідэі разыходзяцца нават з прызнанымі расейскімі дэмакратамі. Сутнасьць разыходжаньня ў першую чаргу базуецца на нацыянальным пытаньні. Пераважная большасьць расейскіх дэмакратаў стаіць гарой за «адзіную недзялімую». Я ж лічу, што найвялікшай дабротай для жыхароў Расеі стаўся б распад гэтай вялікай імпэрыі. Пазбаўленьне расейцаў статусу народа-калянізатара — гэта ў першую чаргу дабро для саміх расейцаў.

*С.К.: У якіх расейскіх сродках масавай інфармацыі Вы можаце прамовіць гэтыя словы?*

М.К.: Можа быць, я залішні пэсыміст, але мяркую, што ні ў якіх.

*С.К.: Ці могуць у Расеі Вашыя словы патрактаваць як «заклік да зьвяржэньня існуючага дзяржаўнага ладу»?*

М.К.: Я ніколі не задумваюся над такімі рэчамі. Для мяне слова «праўда» важнейшае за любыя пагрозы. Калі я перакананы, што маю рацыю — усё астатняе адпадае. Я ведаю, што пераважная большасьць расейцаў мяне не падтрымае. Як не падтрымлівае ідэю, аб якой я пісаў у адным з сваіх артыкулаў. Я сьцьвярджаў, што веліч народа ня ў колькасьці ядзерных боегаловак, а ў дабрабыце і здатнасьці паважаць сваю і іншыя культуры. Для расейскай масавай сьвядомасьці такія рэчы папросту незразумелыя... Такіх як я, у Расеі, на жаль, адзінкі.

# Курапаты. Дзесяць гадоў пасьля

*Працяг са старонкі 7*

* * *

Людзям удалося дамовіцца, што ніхто не павінен адказваць сілай на сілу, ніхто не павінен паддавацца на правакацыю. Натоўп міліцыянтаў клінам урэзаўся ў людзкую масу. Клін прайшоў праз тлум, як нож праз масла, і ўсё засталося па-ранейшаму. Відаць было, што выканаўцы правакацыі крыху разгубіліся.

У гэты час частка людзей, тысячы са тры, аддзялілася й пайшла на Курапаты. Зараўлі машыны з амонам і, пераганяючы дэманстрантаў, рынуліся ў Курапацкі лес. Відаць, паехалі займаць на подступах баявыя пазыцыі. Не даходзячы да Курапатаў, шэсьце завярнула ў поле, дзе на схіле пагорка за горадам адбыўся мітынг. Каб бачыць прамоўцаў, усе апусьціліся на калені, або прыселі. Тут упершыню, амаль што праз паўстагодзьдзя падсавецкага існаваньня быў разгорнуты і ўзьняты беларускі бел-чырвона-белы сьцяг.

Пайшоў першы сьнег. Шумеў вецер, падымаў і ўзносіў палымяныя словы прамоўцаў. Неўзабаве нас акружылі батальён унутраных войскаў і безьліч міліцыі. Напасьці павінны былі з узгорка, дзе паставілі курсантаў і панукалі іх таптаць сядзячых людзей. Курсанты не маглі скрануцца. Відаць, зь непрывычкі. Тады іх перавялі на бакавы фронт, а з узгорка паставілі афіцэраў. Тыя па камандзе лавінай кінуліся на сядзячых маніфэстантаў. Мы ўсе тут жа падхапіліся і, як дамовіліся, шчыльна сашчапіліся рукамі. Маса людзей стала нібы адзін сплецены кошык, клубок. Расчляніць яго й распарушыць людзей на полі міліцэйскаму войску так і не ўдалося. Бо мы разгадалі іхныя намеры. Арганізаванасьць і кіруемасьць вялікай масы людзей тады мяне вельмі зьдзівіла. Я сам бачыў, як хлопцы гадоў па 16-17 хапалі камяні, каб кідаць у салдат, а іншыя, такія ж, як яны, падбягалі да іх і казалі: «Выкідайце, загадана не кідаць, правакацыя!»

* * *

Зімой 1989 году Дзяржаўная Камісія па Курапатах вымушана была прызнаць факт сталінскіх расстрэлаў мірных жыхароў у Курапацкім лесе. Але гэта не азначала, што камуністы й НКВД складуць зброю.

КГБ ніколі не забываўся пра Курапаты й пра крывавыя справы сваіх папярэднікаў. Яскравы прыклад – Лошыца пад Менскам. На правым беразе ракі Лоша – глыбокі зарослы яр. Тут расстрэльвалі ўвесь час на працягу 1937 году. У 1988-ым я некалькі разоў размаўляў са сьведкай Лошыцкіх расстрэлаў спадарыняй Верай Шумскай, якой тады ўжо ішоў дзявяты дзясятак. Вязьняў на расстрэл вязьлі крытымі грузавікамі ў шэсьць гадзінаў раніцы і тут жа расстрэльвалі. Закопвалі ў вялікіх ямах. У 1988 годзе, у час археалягічных дасьледаваньняў Курапатаў, я вырашыў адначасна дасьледаваць і Лошыцу. Калі я прыехаў сюды з камандай археолягаў, то не паверыў сваім вачам... Яроў не было. Не было вялікіх марэнных узгоркаў, на якіх раней рос яблыневы сад. Не было і саду. Яр, плошчай каля трох гектараў, быў засыпаны мокрым галечным жвірам і ўтрамбаваны валкам. Узгоркі ссунутыя бульдозэрам у яр, сад высечаны, яблыневыя дрэвы сьцягнутыя ў кучы.

За паўкілямэтра – кантора прыгараднага калгаса. Старшыня быў вельмі зьдзіўлены, калі даведаўся, што яр засыпаны. Яшчэ два тыдні таму ён быў. Нехта прарабіў тытанічную працу. Потым я даведаўся, што некалькі месяцаў назад гэтую тэрыторыю забралі з калгаса і перадалі ў валоданьне гораду Менску. Горад хуценька пачаў рабіць тут стаянку для машын (на магілах, на касьцях). Цяпер гэта ўсё пакрыта асфальтам, стаяць аўтамабілі, пабудавана прахадная, у якой сядзіць вечны адстаўнік – былы палкоўнік савецкай арміі, і правярае дакумэнты.

Я ўвачавідкі пераканаўся, што калі КГБ трэба, дык і горы скапаюць, і рэкі засыплюць. На гэта раз яны пасьпелі. Дасьледаваць Лошыцкія магілы практычна ўжо немагчыма. Засталіся толькі галасы сьведкаў на магнітнай стужцы і Боскі Суд для забойцаў.

* * *

Камуністам, вэтэранам і энкавэдыстам Курапаты былі, як бяльмо ў воку. З пачаткам палітыкі гэбісцкага рэваншу трэба было чакаць захадаў да зьнішчэньня Курапатаў. Так яно й атрымалася. Першымі паднялі шум камуністы-сталінцы, цьвёрдыя бальшавікі. Яны пачалі адмаўляць сталінскія расстрэлы, сьцьвярджаць, што такога не было й што ў Курапатах немцы, маўляў, расстрэльвалі жыдоў. Тое, што гэта выдумка, ведалі і ў пракуратуры, і ў следзтве, і ў Акадэміі навук, і ў вёсцы Цна. Тым ня менш, С.Шушкевіч падпісаў рашэньне аб праверцы вынікаў дасьледаваньняў. Зноў усчалі сьледзтва.

Бальшавікі сабралі мноства падстаўных сьведкаў і проста ненармальных людзей, пасьля чаго, вобразна кажучы, пасадзілі сябе ў лужыну. Новае сьледзтва пацьвердзіла высновы пра Курапаты.

Але цьвёрдыя бальшавікі зноў пайшлі ў атаку. Вынік зноў быў такі ж самы. З усталяваньнем дыктатуры яны рушылі ў наступ яшчэ пры падтрымцы рэжыму. Цяпер, калі энкавэдысты захапілі ўладу ў Беларусі, ім адчыніліся, як яны думаюць, шанцы ўсё забараніць і ўсё вярнуць.

Яны яшчэ больш, чым раней, сталі дэманстраваць адкрыта зьневажальныя адносіны да Курапатаў. Вывернулі й пахілілі Крыж Пакуты, пазьбівалі надпісы і ўказальнікі, панакідалі сьмецьця, сталі выводзіць на месца расстрэлаў выгульваць сабак, а ў магільных ямах зноў разьмясьціліся аматары пікнікоў, выпіць і закусіць, пасмажыць шашлыкі.

Памятаю, зімой 1994-га, у час спатканьня ў Курапатах, прэзідэнт ЗША Клінтан спытаўся ў мяне:

– А чаму мясьціна, якая павінна быць сьвятой, у недагледжаным стане?

– Таму што ў Беларусі кіруюць нашчадкі тых, што тут забівалі, – адказаў я.

* * *

Што здарыцца зь беларусамі, калі забудуцца пра Курапаты? (Я казаў у пачатку пра знакавае значэньне гэтага месца для Беларусі.) Ці будзем мы ўвогуле нацыяй? На што больш страшнае і больш сымбалічнае можна яшчэ нам забыцца, каб духоўна памерці навек? І што ёсьць у нашай памятнай гісторыі больш пакутніцкае і больш жахлівае, чым ленінска-сталінскі генацыд?

Вось ужо дзесяць гадоў па начах, а то й днём, нейкія людзі раскопваюць магілы на Курапатах. Яны сквапна перабіраюць пакутныя косьці, дзіравыя боты на стаптаных абцасах, галёшы, самаробныя бахілы – рэшткі бедных людзей. Іх перад расстрэлам не абрабавалі нават энкавэдысты, бо ведалі, як пісаў бальшавіцкі паэт: «Нищие, что с вас сжулить». Аж не, знайшліся нашчадкі, што абкрадуць нават труп жабрака, выцягнуць ягоны шкілет з брацкае магілы.

Тут я не зьбіраюся абагульняць. Раскопваюць магілы псыхічна хворыя на нэкрасындром і падонкі. Але робіцца гэта ўсё, як і смажаньне шашлыкоў, на віду ў людзей вось ужо дзесяць гадоў запар. Усе мае захады, пачынаючы з 1988 году, да міліцыі, пракуратуры, у міністэрствы, да мясцовых органаў улады з патрабаваньнем выявіць злачынцаў і спыніць раскопваньне магілаў, ні да чаго не прывялі. Тыя, да каго я зьвяртаўся, нічога не хацелі, і нічога ня хочуць рабіць.

Але гэта было б паўбяды, калі б грамадзтва паводзіла сябе інакш, чым паводзіць улада. На жаль, паводзіны аднолькавыя, і тут нічога ня зьменяць і не дапамогуць ніякія энтузіясты.

* * *

Мне здаецца, што не было ў нас больш няшчасных людзей, чым людзі з пакаленьня 20-30-х гадоў, якое трапіла пад генацыд. Іхнае жыцьцё – гэта пекла на зямлі, несправядлівасьць і сатанінская жорсткасьць, якая перасьледуе іх нават пасьля сьмерці. Гэта рок, праклён маўклівых. Ён ня скончыцца, пакуль ня будуць пакараныя забойцы, пакуль не разбурыцца іхнае царства, не зруйнуюцца бабілёнскія вежы.

Тут, у Беларусі, яны захаваліся; і Берасьцейская крэпасьць, і вуліцы з імёнамі бандытаў, і савецкія танкі на пастамэнтах.

Міхась Дубянецкі расказваў мне, як яго бацька Хведар сядзеў у берасьцейскай крэпасьці, дзе была турма НКВД. Расказваў, як дапытвалі, як вазілі на расстрэл. 22 чэрвеня 1941 году, калі немцы ўдарылі па Берасьці, узьнікла паніка. Вязьні пачалі разьбягацца, і азьвярэлыя энкавэдысты расстрэльвалі іх з наганаў. Хведар Дубянецкі, уцякаючы ў натоўпе, выбег якраз на энкавэдыста. Той наставіў на яго рэвальвэр.

– На хлеб, на! – закрычаў з попрыску Дубянецкі і сунуў у рукі забойцу кавалак турэмнага хлеба. Хвіліна замяшаньня – і Дубянецкі праскочыў на выхад. Энкавэдысты перастралялі вязьняў, колькі здолелі, але самі апынуліся ў пастцы, бо немцы занялі горад.

Ім удалося потым выбрацца з казэматаў, пасьля чаго і быў створаны прапагандысцкі міт пра «гераічную» абарону берасьцейскай крэпасьці савецкім гарнізонам. Турму НКВД назвалі «Брестская крепость-герой».

* * *

Як ні дзіўна, але самыя цяжкія душэўныя пакуты ў сувязі з Курапатамі я перажыў у 70-х гадах. Камуністычная ноч тады здавалася бясконцаю. Ішлі гады, горад спакваля будаваўся, падступаў да расстрэльнага лесу. Трывога, што страшная памяць пра мардаваньне нацыі намарна згіне, перапаўняла й прыгнятала мяне. Я не знаходзіў тады ні месца, ні спакою. Памятаю, неяк гаварылі са Шмыгалёвым, каб неўпрыкмет паставіць там крыж.

У бяссонныя ночы мне часта марылася, што скончыцца камуна і ўсе даведаюцца пра магілы. Мне ўяўлялася, як тысячы людзей у жалобе нясуць на руках вялікі пакутніцкі крыж. Прыносяць і ставяць яго ў тым лесе над магіламі расстраляных. Усе даведаліся, і ўвесь народ здрыгануўся. Гэтая карціна, нібы сон, доўгія гады жыла ва ўяўленьні.

Рэдка такое бывае ў жыцьці, але гэтае ўяўленьне ажыцьцявілася. У 1989 годзе восеньню на Дзяды дзясяткі тысячаў людзей, моц народу, з харугвамі і беларускімі бел-чырвона-белымі сьцягамі пранесьлі праз увесь горад ад Усходніх могілак і да Курапатаў сямімэтровы Крыж Пакуты. Яго ўкапалі й паставілі пад гукі ўрачыстага рэквіему, і словы малітвы зьліваліся з шумам дрэваў.

* * *

Якімі я ўяўляю мэмарыяльныя Курапаты? Маё ўяўленьне простае, разьлічанае на духоўны рост беларускае нацыі. Ня будзе росту – ня будзе й мэмарыяльных Курапатаў. Я ўяўляю, што кожны беларус, кожны чалавек, які ў нейкім пакаленьні роду пацярпеў ад камуністычнага генацыду, ці проста кожны той, хто мае сэрца й веру, жаласьць і любоў да свайго народу, той хай прыносіць у Курапаты свой крыж і ставіць яго, дзе захоча. Я ўяўляю мэмарыяльныя народныя Курапаты, дзе над магіламі сасновы лес дрэваў і лес рукатворных крыжоў. Калі ідзеш ад шашы па дарозе ў гару да магілаў – паабапал калюмны крыжоў. Іх тысячы, іх дзясяткі, сотні тысячаў, прынесеных беларусамі і ўкапаных у пакутную, палітую нявіннай крывёю зямлю. Яны стаяць паабапал Дарогі Сьмерці: крыжы-людзі, крыжы-беларусы зь імёнамі расстраляных, забітых, замучаных продкаў, што сабраліся тут перад Страшным Судом.

Кожны нясе сюды свой крыж. Колькі яго прыйдзецца несьці кожнаму? Год? Два? Ці, можа, пятнаццаць? Ці цэлую вечнасьць?

Колькі яго прыйдзецца несьці ўсім? Невядома.

Пакуль што ў Курапатах чатыры крыжы. Чатыры крыжы...

Згледзеўшы на менскай вуліцы араба, згадваеш пра алжырскую разьню, пра якую надоечы чуў у праграме навінаў. Далей усё залежыць ад твайго ўяўленьня. Можа быць, ён і не араб, а косаўскі албанец або турак з прадмесьця Франкфурта. Так ці інакш, гэты чалавек — жывы вобраз сваёй ня надта прывабнай краіны. Кожны чалавек на чужыне — гэта вобраз свайго краю. Спачатку, калі чалавек проста зьяўляецца ў полі зроку іншаземцаў, ягоны край стварае яму вобраз, пасьля, калі завязалася гаворка або штосьці ўчынілася, ужо чалавек стварае вобраз свайму краю. І гэтыя простыя, на першы погляд, ісьціны бываюць важнейшыя за хітрасплятеньні палітыкаў ды іміджмэйкераў.

Увогуле Беларусь мае досыць выйгрышную пазыцыю ў сьвеце. Пра яе амаль нічога ня ведаюць. А такія краіны звычайна не выклікаюць нэгатыўных эмоцыяў. Замежнікі ставяцца да такіх краінаў і народаў хутчэй з сымпатыяй, чым абыякава. Усё ж больш прыемна адкрыць для сябе штосьці новае добрае, чым новае благое. Нямала папсаваў імідж Беларусі сёньняшні кіраўнік РБ. Ягоная рэсаветызацыя памалу адбіваецца і на нашым вобразе ў сьвеце. Напрыклад, на нядаўнім кангрэсе Эўрапейскай Асацыяцыі Журналістаў у Варшаве ва ўсіх дакумэнтах імя нашае краіны пісалася не як Belarus і нават не як Bialorus, а як Byelorussia — як за савецкім часам. Журналісты з Партугаліі, Бэльгіі, Швэцыі ўважліва слухалі пра закрыцьцё газэт і іншыя антыдэмакратычныя акты ўладаў. А нашыя эстонскія калегі на поўным сур'ёзе спыталіся ў нас: Колькі сёньня журналістаў у Беларусі сядзяць у турмах? Мы адказалі: сёньня сядзяць пераважна прадпрымальнікі, а журналіста — ніводнага. Як, ніводнага журналіста? — шчыра зьдзівіліся эстонцы.

Рысу пад сёньняшнім вобразам Беларусі падвёў славуты польскі інтэлектуал, рэдактар Gazety Wyborczej Адам Міхнік. Перад тым, як даць слова міністру друку, спэцыяльна запрошанаму зь Менску, Міхнік распавёў партугальцам ды бэльгійцам пра Беларусь. Гэта цудоўная краіна, якую мы, палякі, вельмі любім, — сказаў ён. Таму мы ставімся да Беларусі зь вялікай увагай і моцна перажываем, калі там нешта ненармальна. Гэта краіна, якая дала сьвету пісьменьнікаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, які напісаў славуты нарыс «Вандзя перастройкі», а таксама Сакрата Яновіча, які жыве ў нас у Польшчы, і Касю Камоцкую. Італьянцы з нарвэгамі акуратна занатоўвалі гэтыя прозьвішчы ў нататнікі. Заўтра яны напішуць у сваіх газэтах пра цудоўную краіну і яе выдатных творцаў.

Адам Міхнік ведае Беларусь ніяк ня горш за сярэднестатыстычнага беларуса. У свой час ён зрабіў інтэрвію з Лукашэнкам, якое называлася «Савецкі беларус». Аднак зборны вобраз нашае краіны, які з падачы мэтра пашыраецца ў сьвеце, падаўся новым. Васіль Быкаў, якога многія ўжо намінавалі на Нобэлеўскага ляўрэата, Алесь Адамовіч, які быццам і не паміраў, бо сам час у Беларусі ад'ехаў назад, у Вандзю. Сакрат Яновіч — магчыма, самы «эўрапейскі» зь беларускіх творцаў ці нават «заходнеэўрапейскі». Кася Камоцкая — нарэшце, і чалавек нашага пакаленьня зьявіўся спасярод даўніх і даўно шанаваных іменаў.

Такая новая ерархія ці не ўпершыню пазначылася, калі Васіль Быкаў згадзіўся надрукаваць сваю кнігу ў выдавецтве «Наша Ніва», прычым несавецкім правапісам. Гэта значыць, працягнуў руку маладзейшаму пакаленьню. І вось цяпер канглямэрацыя прадстаўнікоў розных пакаленьняў агучаная Міхнікам для прадстаўнікоў усёй эўрапейскай журналісцкай эліты.

Гэта таксама вобраз Беларусі, але не бытавы, а інтэлектуальны. Усё адно як можна казаць пра стэрэатып насупленых ангельцаў, а можна пра... Шэкспіра і Бітлз. Гэткім парадкам паступова прамалёўваецца і Беларусь. Беларусы цудоўныя людзі, яны ідуць зваротным шляхам у сацыялізм, іхныя найвыбітнейшыя творцы — Васіль Быкаў і Кася Камоцкая.

# СЬВЯТЛО, ЗАШЫФРАВАНАЕ Ў СМУЗЕ

Працяг са старонкі 1

ён ня стаў афіцыйным курсам кіраўніцтва краіны. Скончыліся фэерыі ўсталяваньня сувэрэнітэтаў, і для нацыяў, што выбраліся ў сьвет, настаў час ставіць наступную мэту. Літоўцы сказалі — у NATO, мы — назад у СССР, іншыя топчуцца на месцы. Краіны нібы апусьцілі ветразі і дрэйфуюць у чаканьні наступнага парыву — або ўнутранага, або вонкавага. Зьдзіўляе, наколькі пабляклі паўсюль шыхты палітычных фаварытаў. Гэта ўжо ня 91 год. Вашынгтон з новым і праведным законам не прыйшоў і на гэты раз.

***

Мядзяны Вашынгтон, зялёны ад часу, скача па горадзе свайго імя на кані ў натуральную велічыню. Сталіца ЗША літаральна заселеная помнікамі. Постаць нашага земляка Касьцюшкі ўзьведзеная ад імя польскага народа на плошчы перад Белым домам. А ў мэмарыяле Касьцюшкавага сябра Джэфэрсона, які, няслушна прачытаўшы слова «Lithuania», называў Беларусь Вялікім Княствам Сіліцыяніяй, мне хочацца думаць, што ягоная трохмэтровая постаць увасабляе і нашую гісторыю. Магчыма, гэта тое знаёмае пачуцьцё прыжывалы, калі даведзенае да ладу чужое вельмі хутка становіцца сваім, блізкім, бо сапраўднае сваё — занядбанае. Зь іншага боку, хіба амэрыканцы на этапах гісторыі ўяўлялі свой шлях так ясна, як гэта бачыцца здалечыні сёньня? Дык можа і ў нашай смузе зашыфраванае нейкае будучае прасьвятленьне?

На жаль, гэта толькі допуск. Розьніца паміж намі сёньня і імі 200 гадоў назад большая, чым падабенства. У Амэрыцы тады сабраліся мужныя й валявыя людзі, бо іншымі й не маглі быць першыя эмігранты. Яны сабраліся і сталі выращаць, якую ім збудаваць краіну. 200 гадоў таму на іх ня ціснуў цяжар застарэлых праблем. І адно, чаго яны імкнуліся пазьбегнуць з эўрапейскіх стандартаў — гэта тыраніі. Вось чаму Вашынгтон ня стаў каралём, а стаў першым прэзыдэнтам. Валявыя людзі прыдумалі такую сыстэму, якая дазволіла іхнай канстытуцыі празь 200 гадоў стаць самай старой у сьвеце.




***

Цыкляпічныя помнікі Джэфэрсону і Лінкольну — гэта выключэньне. Амэрыканцы звычайна ставяць сваіх бронзавых герояў у натуральны чалавечы памер. Духу імпэрскасьці я ў Вашынгтоне не адчуў нідзе, хоць і гатовы згадзіцца з выказваньнем, што гэты горад валадарыць у сьвеце. Праўда, на кожнае сьцьверджаньне тут існуе мноства контраргумэнтаў, а побач з сусьветным панаваньнем стала прысутнічае і комплекс віны.

У гэтым сэнсе цікава было разглядаць мэмарыял салдатам віетнамскай вайны. Вайну, якую тут называюць непатрэбнай,

Працяг на старонцы 12

# Засьценак Флекке

*Лісты з Нарвэгіі*

**Цімох Мароз**



19.06.1996. Мама, тата, Марына і Даніла! Прывітаньне вам з Нарвэгіі! Даехаў я добра. Пагуляў у Капенгагенскім аэрапорце, а ў Фарнебу, у Осла, сустрэўся яшчэ з гуртам студэнтаў. Гутарка ў мяне зь імі асабліва не пайшла. Другагодкі, праўда, сустракалі адзін аднога як родныя, размаўлялі безупынна. Усе былі ў крыху ўзбуджаным стане. У коледж мы паехалі на аўтобусе. Укатаны ноччу й дарогаю, я задрамаў. А з самага часу, як пасьвятлела — ужо сузіраў прабягаючыя цудоўныя горныя краявіды шляху на поўнач.

«А гэта — Міжнародны Паўночны коледж Чырвонага Крыжа» — абвясьцілі другагодкі. Мы выйшлі з аўтобуса, сушчаныя чаканьнем новага. Усё было незвычайным, нязвычным: пакой, сталовая, горныя пікі па той бок фіёрда, ясныя выспачкі, абкружаныя салёнай вадой з марскімі зорачкамі й вожыкамі. Коледж знаходзіцца каля вёсачкі Флекке, а назва ўсёй гэтай мясцовасьці — Ф'ялер.

Нас ўсяго ў пакоі чацьвёра. Давідэ з Італіі і я — першагодкі, а Арман з Казахстану (ён па-расейску размаўляе) і Пасі з Фінляндыі — вучацца тут ўжо другі год.

(...) Пазаўчора я са сваёй групай езьдзіў у банк, дзе адчыніў уласны рахунак, на які паклаў усе грошы, што ў мяне былі. У банку я атрымаў плястыкавую картку. Ёй я магу плаціць ва ўсіх крамах Нарвэгіі й магу забіраць зь яе гатоўку ў спэцыяльных аўтаматах, якія ёсьць па ўсёй краіне. Зараз у мяне на картцы 400 кронаў. Да зімовых вакацыяў я атрымаю 1500 кронаў стыпэндыі, а на самыя вакацыі я магу атрымаць да 2000 кронаў. Гэтага мала, каб зьезьдзіць у Беларусь.

(...) Кормяць тут ня дрэнна, хоць і няма асаблівай разнастайнасьці ў стравах. Надвор'е пакуль цудоўнае. Усе ў мяне добра. У пятніцу купіў сабе фен, а то з мокрымі валасамі ў такой халоднай краіне дрэнна засынаецца.

04.10.96. Ізноў прывітаньне вам з далёкай Нарвэгіі! Пакрысе набірае абароты вучоба. Наогул, тут падыход да навучаньня крыху іншы. Ты з настаўнікам сябра, зь ім заўсёды можна паразумецца. Ня трэба прасіць дазволу, каб выйсьці з клясы, ня трэба падымацца, калі настаўнік заходзіць. Тоні (наш рэктар) разважае правільна. Ён не чытае нам лекцыяў і мараляў, а хоча, каб людзі сьвядома кіраваліся правіламі самі, а не рабілі гэта пад страхам пакараньня...

(...) Цікава, што ў матэматыцы лепш за ўсіх студэнты з Усходняй Эўропы, Японіі й Ганконгу.

(...) Празь месяц, з 25 кастрычніка па 3 лістапада ў нас будзе тыдзень праектаў. Падчас тыдня праектаў ты павінен зрабіць нешта такое, што для цябе немагчыма зрабіць у будзённым жыцьці, альбо ў час

Працяг на старонцы 12

# Старонка празаічнага радка

**Андрэй Аляксандраў**

## МУХА

Дзень, як і ўсё лета, выдаўся сьпякотным. Ратуючыся ад бязьлітаснага пекла, я схаваўся ў адзіным пакоі маёй кватэры, куды не пранікалі промні ашалелага сонца. Адсунуўшы фіранкі, шырока расчыніў вакно й прыстроіўся на канапе, каб урэшце рэшт прагартаць сьвежы нумар «Нашай Нівы», які з-за адсутнасьці ў мяне вольнае часіны на працягу некалькіх апошніх тыдняў даўно ўжо страціў сваю сьвежасьць.

Чытаць было вельмі цяжка, амаль немагчыма, даводзілася чапляцца ледзь не за кожнае слова, бо ў галаве віраваў цэлы рой неадчэпных думак, што гудзеў увушшу, заглушаючы ўсё наваколле й адцягваючы ўвагу ад чытаньня. Неяк утаймаваўшы ўласную мысьліцельную актыўнасьць (заўсёды яна прыходзіць нясвоечасова!), зноў паглыбіўся ў тэкст.

Але гудзеньне пачулася зноў, ужо звонку, але яшчэ больш дакучлівае, неадчэпнае й прыводзячае нэрвы ў стан гатоўнасьці да забойства ў імя сьвятой цішыні й спакою.

Я так і ведаў! Муха. Звычайная муха, якая, як і мільён ейных суродзічаў, чорнаю кропкай танчыць вакол вакеннага шкла, убачыўшы за ім жаданую волю, але якая ня можа здабыць яе, разьбіваючы голаў аб халодную рэальнасьць вакна.

– Толькі цябе й не хапала! Сьціхні, не гудзі, насякомае, дай пачытаць!

Муза, нібыта прыслухоўваючыся да маіх словаў, на імгненьне заціхла. Але мой пагрозьлівы голас не спыніў яе, і яна пачала новыя атакі на шкло, жадаючы вырвацца з душнага палону кватэры на п'янлівае сонечнае паветра.

– Божухна ты мой! Гэй, муха, будзь чалавекам, пасядзі ціха! Хіба ты не разумееш, што табе ніколі не разьбіць гэтае перашкоды ды ня вылецець на вуліцу? Дык май ласку, ня псуй нэрвы іншым ды галаву сабе – павер, у жыцьці яна табе яшчэ прыдасца...

Выслухаўшы гэтую маю тыраду, муха ўсьмешліва зірнула ў мой бок і працягнула сваю справу з падвойнай упартасьцю.

– Слухай, жужжэлка! Няўжо ты й сапраўды настолькі жадаеш вырвацца адсюль? Навошта? Тут гэдак зацішна й спакойна, на кухні поўна сытных крошак – жыві толькі. А там ты будзеш мітусіцца над бруднымі сьмярдзючымі памыйкамі ды мець клопат, як ня трапіць у дзюбу якому-небудзь вераб'ю ды схавацца ад дажджу. Няўжо гэдак мілая табе тая воля, калі яна можа скончыцца для цябе праз хвіліну разам з жыцьцём? А тут жыві сабе на здароўе, абы ціхенька, не гудзі гэдак, і ніхто цябе й пальцам не кране...

Але муха ўжо не зьвяртала ніякай увагі на мае словы, а толькі мацней жужжэла, быццам хацела разьбіць шкло сваім гудзеньнем. Не спыніў яе й рашучы шоргат газэты, якую я, ня маючы больш моцы трываць гэткі зьдзек са сваіх нэрваў, пачаў скручваць у ладненькую гнуткую трубку. Сьціскваючы сваю зброю (хто сказаў, што друкаваным словам нельга забіць?), я павольна ўзьняўся й падышоў да вакна. Муха, адчуўшы небясьпеку, прыціхла на шкле, а потым рэзка ўзьвілася да столі, ухінуўшыся ад удару. Другі ўдар таксама мінуў яе, і, зрабіўшы круты віраж, каб уратавацца ад яго, крылатая шукальніца волі выляцела проста ў адчыненую палову вакна і зьнікла ў акіяне сонечнага сьвятла...

А я доўга стаяў ля расчыненага вакна з «Нашай Нівай» у руках і ўжо не спрабаваў адбіцца ад думак, што непадзельна авалодалі маім розумам...

**Аляксей Бацюкоў**

## ПРАЎДА?

***

Лепей быць выпітым, чым разьлітым.

***

Каб стаць першым, трэба выйсьці з шэрагу. І са зграі.

***

Страціў веру? Вера ў веру верне веру.

***

Праўды ёсьць столькі, колькі ёсьць мяне.

## РЫБА

Патануў неяк піянэр Пеця. Ляжыць ён на марскім дне і думае: «Ох!»

Рыба, якая праплывала міма, дый гаворыць яму:

– Ну што ты ляжыш тут, хлопчык Пеця?

– А я патануў, – кажа той. – Я ня слухаўся важатых, і вось.

– Ну дык а што ты сабе думаў? Хто будзе цяпер у БПСМ уступаць? Я? – рыба паправіла вусы і ўплыла.

## АДЗІН ЗНАЁМЫ

Звычайна ён падыходзіў да самазабойства па вечарох. Да маленькага, вострага самазабойства. Стаяў побач ці нават браў яго ў сухія й цьвёрдыя далоні. У такія імгненьні ўлюбёнымі яго словамі былі «навошта я?!», і нават кніга, адмыслова разгорнутая на фразе «... жыцьця няма...» натхняла рашучую руку да апошняга пошуку.

Жыцьця няма. А што ёсьць? Няма жыцьця, ня будзе й сьмерці, правільна?

Ён адыходзіў.

## УБРАЦЬ КАНДЫДАТА

Тэлефон дзін-дон, ало, ало, гэта хто?

– Гэта я.

– Чаго вы хочаце?

– Я чэсны журналіст, я хачу пра вас заметку напісаць, у газэту такую-та...

Віск тармазоў за вакном.



– У такую-та? Вельмі прыемна. Ну, пішыце. Гады жыцьця пазначце самі, начальнік.

– Як вы здагадаліся?

– Я бачу машыну вашае газэты за сваім вакном. Зь яе выходзяць людзі са зброяй.

– Зразумела. Вы хоць датумкалі, за што мы вас?

– За што?

– Газэтай было праведзена апытаньне па ўсёй краіне, і вы названы найбольш уплывовым палітыкам, а на носе ж выбары. Вашая партыя рэфарматараў ідзе ўгору, а нам рэформы нашто?

– Ясна. Я меў рацыю, калі казаў, што вашая газэта – шырма для рэспубліканскае службы як бы бясьпекі?

– Да пабачэньня.

Удар у дзьверы. У праёме – тры цені з узьнятымі пісталетамі. Стрэлы.

Салодкі пах пораху. Салодкі пах крыві...

**Дзімка Дарохін**

## МІШКА

– Добры вечар! Ці не прадасьцё колькі дроваў? – запытаўся я ў бабулькі, якая на лаўцы ўважліва сачыла, як я спускаўся з гарышча і накіроўваўся да яе двара.

– А хто ты такі? – запыталася яна.

– А я вось зь сябрамі прыехаў зь Менску паглядзець на ваш замак. Вашыя Ружаны вельмі прыгожыя.

– А дровы нашто? – бабулька з задавальненьнем задавала пытаньні.

– Хацім вогнішча распаліць. Вунь мае два сябры на гарышчы. Ад замка бачны добры краявід... Думаем пасядзець.

– А вы Мішку наліце сто грам, мо ён і дасьць дроваў за так, – бабулька паглядзела ў бок хлева. «Мішка гарэлку любіць», –ціха, амаль пра сябе, дадала яна.

Аднекуль з хлева мітусьліва выбег Мішка, дзядок гадоў пад шэсьцьдзесят.

– Дзядзя Міша, пайдземце з намі да замку. Ёсьць гарэлка, закусіць...

– Так-так, зараз я... – Мішка хуценька зьнік у хлеве, адкуль тут жа зьявіўся з кошыкам яблыкаў-ападаў. – Вось, бяры. Смачныя апады, – Мішка расхвалявана сам пачаў выбіраць найлепшыя.

– Дзядзя Міша, дзякуй. Мо вы панясеце яблыкі, а я – дровы.

– Ідзі-ідзі. Я сам, бо запэцкаесься.

Мы ўзграмадзіліся на гарышча.

– Хлопцы, гэта дзядзя Міша. Наліце яму гарэлкі. Зараз яшчэ сальца пакрышым.

Мішка ня стаў чакаць, пакуль мы ў прыцемках пакрамсаем сала і хлеб. Ён апракінуў плястмасавую філіжанку гарэлкі і смачна зацягнуўся звонкім кастрычніцкім паветрам.

– Дзякуй, хлопцы.

– Дык, чакайце, зараз шматочак...

– Не-не, дзякуй, – прамармытаў Мішка і пайшоў.

Праз гадзіну Мішка прыйшоў ізноў. Ён вынырнуў з чорнай, як вугольле, ночы, што ўнізе ўжо цалкам ахінула Ружаны разам з базыльянскім кляштарам і Сапегаўскім касьцёлам, і клапатліва паклаў ахапку дроваў ля вогнішча.

– Дзядзя Міша, дзякуй вялікі. Мы гарэлку ўсю папілі, але засталося яшчэ чагось паесьці.

– Не-не, хлопцы, адпачывайце.

Больш Мішка не прыходзіў.

**Алесь Зінчук**

## ЯК СТАЦЬ САПРАЎДНЫМ ЧАЛАВЕКАМ

Часам я пытаю сябе – ці б здолеў я стаць сапраўдным чалавекам? На гэтае пытаньне я ні разу не атрымаў дакладнага адказу. Жыцьцё часам сьведчыць, што «так», а часам – што «не». А як гэта зразумець – «сапраўдным чалавекам»? Трэ' быць чалавекам папраўдзе? Унурыўшыся ў гэтае пытаньне, я ўбачыў адказ: здольнасьць рабіць самае цяжкае, што толькі верагодна зрабіць істоце зь дзьвюма рукамі і дзьвюма нагамі, розумам і разуменьнем дабра і зла, жыць вечна (вечна паміраць). Што можа быць за ўсё цяжэй? Гэта тое, за што чалавек вінен аддаць усё, што мае. Грэх – за грэх чалавек плоціць сваім жыцьцём. Сваім вечным жыцьцём. Што можа быць жахлівей, чым зрабіць гэта? Я паглядзеў і ўбачыў яшчэ цяжэйшую справу. Паўстаць супраць Бога і аклеветаць Дух. Гэта не прабачаецца ніколі. Дастаткова гэта зрабіць адзін раз і так забясьпечыць сабе «ганаровае» месца побач з д'яблам. Крыху паразважаўшы, я вырашыў, што цяжэй было б упарціцца у зьле і богаборніцтве. Бо тут акрамя моцы патрэбнае й цярпеньне.

Але нешта ня ладзілася у маёй простай схеме. Я ўзгадаў, што нават знаёмыя мае практыкаваліся ў панашэньні на Ўсемагутнага. А вялікія грахі рабіў і я сам. Пры гэтым я не лічу сябе буйным прадстаўніком чалавечай расы, і мае бліжнія не ўважаюць сябе за багоў.

І тут я заўважыў, што гэта можна казаць пра вялікую колькасьць людзей. Лягічна паразважаўшы, я вырашыў, што трэба шукаць нейкія іншыя прычыны, аддаленыя ад мяне.

Нечакана на мяне найшло асьвятленьне. Рабіць грэх – прыемна, а ня цяжка, а лаяць Бога – нават у нейкім сэнсе «высакародна». Асобная справа – наступствы, але гэта ўжо, так бы мовіць, іншая гісторыя.

Гэткім чынам, каб мне стаць сапраўдным чалавекам, які б падабаўся і мне самому, мне трэба мець жаданьне і здольнасьць пры нагодзе рабіць нешта, чаго нявартыя нават некаторыя «анёлы».

Мне цяжка прабачаць. Наколькі сябе ведаю, мне заўсёды было цяжка прабачаць. Так-так, яшчэ цяжэй мне аддаваць сваё. Часам мне гэта падаецца немагчымым. Яшчэ цяжэй мне любіць тых, хто ахвяруе нечым дзеля мяне працяглы час. Колькі жыву, мая маці заўсёды нечым ахвяравала дзеля мяне, як і мой татулік, мой брат Вова, мая бабулька і шмат яшчэ хто. Я нават вылучыў такі закон, імя самога сябе, што чым болей мне нехта дапамагае, тым болей дрэні я яму раблю. Але яшчэ цяжэй мне цярпець. Колькі я ўсяго нарабіў, ня маючы звычайнага цярпеньня – нельга і ўзгадаць! Праз гэта я затое даведаўся, як людзі становяцца злодзеямі.

Я ужо ня буду казаць пра сваю ляноту... Нейкі час вяршыняй сьвятасьці мне ўдавалася любоў да таго, хто цябе ненавідзіць. На пальцах адной рукі я магу пералічыць выпадкі, калі я любіў ненавідзячага мяне. М-да, гэта надзвычай цяжкая справа.

Я азірнуўся – ці не забыў чаго. Я паглядзеў удалечыню, але там ужо нічога не было. Але мяне не пакідала ўпэўненасьць, што я нешта не сказаў. Так, ад пачатку я ведаў пра гэта, але сьвядома не казаў табе, дый і ты здагадаўся, што я маю на ўвазе. Так-так, менавіта гэта!

Любоў да Бога.

Няма нічога цяжэйшага за гэта.

Мільёны людзей не ўжываюць тытунь. Сотні тысяч вядуць жыцьцё, вартае добрай памяці. Дзясяткі тысяч, а мо і болей, ведаюць аб існаваньні Бога і чорта (дакладней, вераць, а ведаюць, на шчасьце, ня многія).

Але няшмат я бачыў людзей, якія б любілі Бога.

Не зьдзіўляйся гэтаму, бо сапраўды гэта самае цяжкае.

Шмат людзей любяць якую-небудзь ікону ці сьвятара.

Нярэдка людзі любяць паўтараць, што яны з Богам.

Але любіць Бога – гэта зусім іншае.

Узгадай, як ты кахаў самую каханую тваю дзяўчыну? Ты ні дня ня мог безь яе жыць. Ты ні на кога болей не глядзеў. Ты рабіў усё, што яна казала (прынамсі, тое, што мог зрабіць). Ты ніколі не пакідаў яе. Дзеля яе ты ператварыў свае грошы, час, цела, розум, сяброў і ўсё, што было навокал цябе, у нейкую нябачную, «бяз колеру і паху», субстанцыю, імя якой –каханьне.

Вось пра што я кажу, калі кажу «любоў да Бога».

Далей. Узгадай, што зараз ты робіш з той дзяўчынай? Асабіста я зь цяжкасьцю згадваю імя «найкаханейшай» маёй. А любоў да Бога, як да істоты бясконцай, напэўна, бясконцая хаця б у часе.

Пра што ты кажаш? Э-э, я здагадаўся. Ты ведаеш, я нічым ня лепшы за цябе. Таму я проста паўтару твае думкі. Па-першае, я ніколі ня бачыў Бога, ніколі не размаляў зь Ім, таму, як ты слушна заўважыў, Яго немагчыма супастаўляць зь дзяўчынай. Па-другое, я не заўсёды і ведаў аб Ім. У маім маленстве вера ў звышнатуральныя істоты абмяжоўвалася маёй дзіцячай любоўю да дзядулі Леніна. Памятаю, я вельмі ганарыўся, калі стаў піянэрам. Па-трэцяе, ніколі мая сувязь зь Літасьцівым не давала мне хоць-якіх перавагаў у вачох грамадзкай думкі. Мая сям'я ніколі не была ў захапленьні ад маіх «юнацкіх перагібаў», а свае паэтычныя здольнасьці я хаваў даволі доўга з-за прыкметнай прысутнасьці рысаў Бога. Чытаньне Бібліі звычайна выклікала ў бліжняга майго гідлівасьць ці адчуваньне гонару за тое, што ён такіх «заганаў» ня мае.

Дык што дае нам тут любоў да Бога? Прабач, але я зноў вярнуся да прыкладу зь дзяўчынай, хаця мы і рашылі, што ён вельмі кульгавы.

Калі ты прызначаў спатканьне ў 21.00, ты і прыходзіў у 21.00, ці ня так? Я памятаю, дык аднойчы спазьніўся на паўгадзіны, дык ледзь не схапіў інфаркт. На маё шчасьце, каханая мая таксама спазьнілася, да таго ж была ў вялікім захапленьні мной. Але ўсё роўна я адчуваў сябе вінаватым, хоць і спазьніўся не па сваёй віне. А зараз уяві сабе, што, напрыклад, мы з табой любім Бога. Ён кажа: «Слухайцеся Сына Майго». Добра, мы слухаемся. Сын Ягоны кажа: »Калі цябе б'юць па левай шчацэ, падстаўляй і правую». Ня ведаю, як ты, а я нават на крыўдлівыя папрокі свайго братца адказваў кулакамі, ня кажучы ўжо пра шчаку. Навогул, ты ведаеш усё, што казаў нам Бог. Ну дык вось, і як з гэтым жыць? Ня ведаю, як ты, а я сябе зь цяжкасьцю ўяўляю ў ролі такога жыхара.

Цяпер мы даведаліся, што цяжэй за ўсё. Можна пачынаць свой шлях да сапраўднага чалавека.

Між іншым, мне прыгадалася адна цікавая гісторыя. У сувязі з тым спатканьнем, на якое я спазьніўся.

Гэта было на паўднёвым беразе Крыма, я тады суправаджаў знаёмых кабет у горы, каб яны нарвалі нейкіх там кветак, і не разьлічыў час. Кветкі тыя расьлі на невысокіх гарах – мэтраў 700-800. За гэтымі схіламі на 300-400 м уздымаўся адвесны каменны абрыў, па-над якім палягалі горныя раўніны, лугі і пагоркі – г.зв. Яйла. Як усялякая зьява гэтага сьвету, абрыў быў недасканалым – вэртыкальным, але ня ўсюды. І я марыў як-небудзь ускараскацца на гэтую сьцяну, каб пабачыць Яйлу. І так мне гэта закарцела. І хаця мне казалі розных жахаў аб тых, хто адважваўся на гэта, я штурмаваў сьцяну з дня ў дзень. Дахаты я прыходзіў увесь у ранах і калючках (там рос трапічны лес), а аднойчы я трапіў у фантастычную даліну – шырынёй мэтраў пяцьсот і цалкам складзеную (ніколі гэтага не забуду!) з каменьня 3-10 м у дыямэтры. Пазьней я даведаўся, што там узрывалі Сьцяну дзеля здабычы граніту.

Прыйшоў дзень, калі я апынуўся на найвышэйшай гары Крыма; я ўбачыў Яйлу. Даведаўся, як там, каля аблокаў.

Але, ведаеш, я так ніколі і не ўскараскаўся на сьцяну. Проста я запісаўся на ўсе горныя экскурсіі. Канешне, часам я смуткаваў, бо так і не адолеў Сьцяну лабавым ударам, што было б вельмі займальна.

Я вельмі хачу палюбіць Бога хаця б напалову ад таго, як Ён любіць мяне, навогул, настолькі, наколькі магчыма. Але я ўсьведамляю, што наўрад ці зраблю гэта ў бліжэйшы час.

Праўда, я ведаю Аднаго, хто пераадолеў Сьцяну. І цяпер Ён зрабіў канатную дарогу, па якой можна даехаць да Яйлы. Дый і тут здараюцца падзеньні. Часам па табе будуць цаляць зьнізу тыя, хто ня хоча ехаць і жадае, каб і ты вярнуўся да іх.

Памятаю, мне распавялі, што некалькі чалавек ускараскаліся па Сьцяне на Яйлу. Ня здолеўшы спусьціцца, яны правялі там колькі сутак, пад няспынным горным ветрам. Калі іх нарэшце зьнялі, дык адразу ж паклалі ў шпіталь – ва ўсіх было жахлівае запаленьне лёгкіх.

Тая Яйла, на якую еду я, не такая. Нават калі я даеду мёртвым, мяне ўваскрэсіць Той, хто аднойчы ўваскрос. А канат не парвецца ніколі, хоць яго часам і не заўважаеш.

Так што няма сэнсу лезьці на адвесную сьцяну. Ёсьць вярнейшы шлях. Ты, пэўна, спытаесься – навошта было казаць аб тым, што можна і што нельга. Гэта слушная заўвага. Проста я распавёў табе пра Ісуса Хрыста. Я б ня здолеў зрабіць гэта інакш. Бо я пакуль што не сапраўдны чалавек.

Спадзяюся, што прыйдзе дзень, калі я зайду да цябе са словамі:

– Прывітаньне! Бачу, і ты тут.

Ты мне тады адкажаш:

– Ты ж не адзін такі, «сапраўдны чалавек».

# СЬВЯТЛО, ЗАШЫФРАВАНАЕ Ў СМУЗЕ

*Працяг са старонкі 9*

Амэрыка вяла з 1959 да 1975 году. Нехта за гэты час пасьпеў нарадзіцца і скончыць школу. ЗША страцілі ў Віетнаме 158 тысяч салдат. Іх імёны выбітыя на чорнай мармуровай сьцяне. Побач — тры бронзавыя ваякі пасьля цяжкога бою. Скульптурная група — у чалавечы рост. На тварах — разгубленасьць, страх, ярасьць. Геройства няма. Я праходжу сярод тысяч людзей, якія аглядаюць мэмарыял, і думаю пра афганскую вайну. Ідэолягі ў Беларусі сутыкнуліся зь няпростай праблемай: што мусяць увасабляць помнікі палеглым салдатам-афганцам. Так ці інакш, яны шукалі, імкнуліся выснаваць сэнс той вайны, у якой ніякага сэнсу не было. Урэшце ў цэнтры Менску паставілі праваслаўную капліцу і анёла. Вельмі спрэчнае рашэньне, як, зрэшты, і любое іншае ў гэтай справе. Амэрыканцы, перад якімі стаяла падобная задача, пазьбеглі прывязкі да рэлігіі, хоць мелі на тое болей падставаў. У іх усё ж гінулі вернікі, а не камсамольцы. Але галоўнае, чаго пазьбеглі амэрыканцы — гэта гераізацыі сваіх салдатаў. Сваякі і сябры прыходзяць сюды ўшаноўваць памяць блізкіх, якіх урад выкарыстаў у якасьці гарматнага мяса. Для іх гэта помнік вялікай несправядлівасьці, якая часам запаноўвае ў сьвеце. Таму тут проста ня могуць правіць службу сьвятары, сюды ня могуць прыяжджаць перад загсам маладыя, як гэта адбываецца на аналягічным мэмарыяле ў Менску.

***

У чым адмысловая жывучасьць амэрыканскае мадэлі? Найперш, у адносінах да права. Закон тут не рэгулюе жыцьцё, а забясьпечвае свабоду людзей. Дзеля параўнаньня дастаткова зірнуць на правы прэзыдэнта і прэсы.

У адрозьненьне ад Лукашэнкі, Клінтан мае фактычна толькі адну магчымасьць рэальна ўмешвацца ў палітыку — гэта накласьці вэта на рашэньне Кангрэса. Вось і ўсё. Усё астатняе робіць Кангрэс. А што ж прэзыдэнт? Ён цэлымі днямі сядзіць на тэлефоне і ўгаворвае кангрэсмэнаў галасаваць за патрэбны яму законапраект. Патрэбны, але не ягоны, бо сам ён права заканадаўчай ініцыятывы ня мае.



Наогул усё жыцьцё ў ЗША точыцца шляхам дамоўленасьцяў і зьдзелак. Менавіта зьдзелкі, а не закон, рэгулююць жыцьцё. Закон існуе для забесьпячэньня зьдзелак — раўнапраўных і свабодных. Амэрыканская сыстэма нагадвае мне джазавую кампазыцыю, у якой фрагмэнты яснай мэлёдыі зараз жа вар'юючца і разьвіваюцца ў розныя бакі, нібы імкнуцца адлюстраваць усю заблытанасьць жыцьця. На канцэрце піяніста Дзіка Хаймэна ў цэнтры імя Кенэдзі мне падумалася, што джаз — гэта ўцёкі ад банальных рашэньняў.

Што да прэсы, то ў Амэрыцы няма ніводнага дзяржаўнага выданьня, радыё або тэлеканала. Голас Амэрыкі і Радыё Свабода — дзяржаўныя, але іх забаронена трансьляваць на тэрыторыю ЗША. Адзіны нарматыўны акт аб прэсе — гэта прыняты ў 34-м годзе закон, які забараняе цэнзуру з боку ўладаў. І гэта таксама своеасаблівае, не такое, як у нас, разуменьне законаў. Законы абараняюць ня друк, а народ — ад умяшальніцтва ўладаў у сродкі масавай інфармацыі. Дарэчы, у ЗША ніколі й не было дзяржаўных выданьняў. І прэзыдэнт краіны, каб выступіць у тэлевізіі, мусіць дамовіцца з тэлекампаніямі. А яны пры гэтым будуць яшчэ й круціць носам — ці скажа ён чаго цікавага і ці спадабаецца гэта іхным гледачам.

Калі праводзіць паралель з РБ, то тут усё роўна наадварот. У Амэрыцы ня толькі ня садзяць у турму журналістаў, але ўрад у прынцыпе ня можа штосьці прадпісаць прэсе або закрыць выданьне. Хутчэй наадварот. Скандальная адстаўка Ніксана была ажыцьцёўленая фактычна двума журналістамі Washington Post. Ды і пад сёньняшнім прэзыдэнтам разгойдвае крэсла прэса. Менавіта амэрыканскія рэаліі нарадзілі сьцьвярджаньне, што прэса — чацьвертая ўлада, якое часам без усялякіх падставаў ужываюць беларускія журналісты.

***

Я ўвесь час думаю пра тое, чаму тут, у Амэрыцы, пазаставаліся многія не апошнія людзі Беларусі, сярод якіх нямала і маіх знаёмых? Адказ, відаць, ня можа быць адзін.

Па-першае, тут амаль няма бытавое нянавісьці, адсутнасьць якой я заўважыў яшчэ ў Лёндане. Ніхто нікога ня шчэміць проста так, дзеля самазадавальненьня. І гэта галоўны плюс.

Па-другое, даходы тут на ўзроўні чалавечых жаданьняў — кожны звычайны жыхар набывае дом, машыну і што там яшчэ трэба для таго, «каб дастойна сустрэць старасьць».

Па-трэцяе, тут давяраюць. У краме, у доме, паўсюль. Цана даверу нашмат большая, чым у нас. І калі ты скрадзеш, або падманеш, ганьба будзе неадэкватна (па-нашаму) вялікая і на ўсё наступнае жыцьцё.

Трох гэтых пунктаў ужо дастаткова, каб наш зямляк пераканаўся, што нічога такога ў Беларусі пры ягоным жыцьці ня будзе і падаў заяву на эміграцыю. Летась 750 нашых землякоў выйгралі грын-карту. Нельга нават уявіць, колькі іх прайграла — у сто разоў болей ці ў тысячу.

Фактар радзімы пакрываецца словам «Чарнобыль». Усё ў Кітаі.

На сустрэчы з рэдактарам міжнародных навінаў CNN я спытаўся, хто ў іх фармуе ўяўленьне пра Беларусь, і атрымаў адказ: маскоўскае бюро. Тое самае мне сказалі і ў міжнародным аддзеле Washington Post. Цікава, што падзеі ва Ўкраіне для гэтай газэты асьвятляе варшаўскае бюро.

У вашынгтонскім Newseum — адзіным у сьвеце інтэрактыўным музэі інфармацыі ёсьць карта сьвету, на якой усе краіны расфарбаваныя ў тры колеры — у залежнасьці ад становішча прэсы — свабодная яна, не зусім свабодная або зусім несвабодная. Тут у коле сваіх суседзяў — вольных Польшчы, Літвы, Латвіі, не зусім вольных Украіны і Расеі Беларусь зафарбаваная самым ніядобрым колерам. Музэй належыць арганізацыі Freedom Forum, якая ўважліва сочыць за становішчам прэсы ў нашай краіне, ведае пра арышты журналістаў, дзяржаўную манаполію і барацьбу Лукашэнкі зь незалежнымі выданьнямі.

Так ці інакш, у мяне склалася ўражаньне, што

# Засьценак Флекке

*Працяг са старонкі 9*

вакацыяў. Адзін гурт паедзе працаваць у шпіталі Чырвонага Крыжа ў Польшчу, некалькі чалавек паедуць у будыскі кляштар у Ангельшчыне. Я ў гэты тыдзень зьбіраюся паехаць у вёску, дзе знаходзяцца схоўішчы кнігаў. Днём мы будзем працаваць у гэтай, так бы мовіць, бібліятэцы, а ў астатні час мяркуецца хадзіць у горы, зьезьдзіць у бліжэйшы горадок... Словам, будзем адпачываць.

(...) Падабаецца тут тое, што на ноч нічога не зачыняецца: ні кампутарная кляса, ні музыкальная. Магу ўстаць у тры гадзіны ночы і пайсьці ў бібліятэку чытаць «Геральд Трыб'юн».

(...) З кожным днём робіцца ўсё больш халодна і вільготна. Гадзіну таму былі на возеры, дзе займаліся экалягічным праектам. Трэба ачысьціць возера ад рыбы, і мы на лодцы падплылі да ўстаноўленай сеткі ды зьбіралі рыбу, якая туды трапілася. Усё гэта адбывалася пад дзікім ветрам і шалёным дажджом. Затое якое задавальненьне вярнуцца пасьля гэтага ў цёплы пакой! Сумую па вас, асабліва па Данілу (...)

08.11.96. Сёньня ўпершыню пайшоў сьнег. Усё наўкола стала белым-белым. Сьнег у пачатку лістапада зьдзівіў усіх, асабліва тых, хто гэты сьнег упершыню бачыць.

16.12.96. У мяне ўсё нармальна. Пасьля тыдня праектаў прыйшлося крыху папрацаваць на ўроках, але сёньня паўгодзьдзе скончана, і сёньня ж я атрымаю паперу з атэстацыяй майго прагрэсу. А пасьлязаўтра, калі ўсё будзе добра, я буду ўжо выходзіць ужо на трап самалёта Осла-Брусэль. З Брусэля — у Вэнэцыю. Спадзяюся правесьці цудоўныя вакацыі ў Італіі. Візу атрымаў, квіткі на руках — так што з гэтым праблемаў няма.

(...) У нядзелю адбылася калядная вечарына. У дэсэртах, якія былі на вячэру, было схавана 10 арэшкаў. Я знайшоў адзін зь іх і такім чынам выйграў прыз — 3 шакаладныя Дзеды Марозы. Іх зьеў тым жа вечарам.

03.02.98. Ну, як там у вас жыцьцё? Халодна, напэўна. У нас тут ужо другі раз такая штука: цяплее, ідзе дождж, плыні вады, сьнег зьнікае. Маленькая вясна пасярод зімы. Але хутка зноў зьяўляецца сьнег.

(...) У Італіі я адпачыў добра. І няблага пад'еў. Усё было нармальна: шмат езьдзілі па гасьцях да розных родзічаў майго сябрука Давідэ, былі ў Рыме і ў Вэнэцыі. Новы год сустракалі на вечарынцы зь сябрамі Давідэ ў доме, які знаходзіцца ў гарах. Слухалі музыку, глядзелі відэа — карацей, нічога асаблівага не рабілі.

21.02.97. Прывітаньне вам ізноў з майго далёкага дажджлівага коледжу! Які ў прынцыпе не такі ўжо й калгас, хутчэй засьценак. Хаця, насамрэч, цяжкавата бывае знайсьці для сябе час. Фотаздымкаў прыслаць асабліва не магу, нятанна гэта каштуе. А з грашыма цяпер невялікія праблемы. Трэба заплаціць за «тэст ангельскай мовы як замежнай» і за «тэст школьных дасягненьняў» (па матэматыцы ды ангельскай мове). Рэч у тым, што гэтыя тэсты патрабуюць шмат якія амерыканскія ды канадзкія ўнівэрсытэты.

... Учора пасьпяхова здаў іспыт па каяках. Да гэтага часу мы мелі трэніроўкі ў басэйне, але з добрым надвор'ем паедзем катацца па бліжэйшых рэчках ды фіёрдах.

14.04.97. Мінулыя выхадныя прайшлі цікава. У пятніцу быў нямецкі вечар. Елі лёды, гулялі ў нямецкія гульні ды размаўлялі толькі па-нямецку. А з дванаццатай гадзіны суботы па дванаццатую гадзіну нядзелі быў 24-гадзінавы бег. Гэта такая дабрачынная акцыя з мэтаю збору грошай на гуманітарныя мэты. Мы дзяліліся на каманды, шукалі фундатараў і белі, беглі, беглі... Карацей, паспаць ня выйшла.

(...) А зараз за вакном дождж, як заўсёды. Сапраўдная вясна ўсё не прыходзіць. На пачатку восені нашмат лепш было: тады сонейка ледзь ня кожны дзень сьвяціла. Цяпер мне застаецца толькі чакаць свайго вяртаньня ў вясновa-летні Менск.

(...) Цікавы персанаж — наш настаўнік матэматыкі Кін. Чалавеку гадоў сорак пяць — пяцьдзясят, а ён ходзіць на заняткі ў джынсах, да таго ж дзіравых. Падчас уроку заўсёды імкнецца як-небудзь пакпіць з вучняў. Калі хто задае пытаньне, паварочваецца да яго з такім тварам, нібыта ён жахліва стомлены ад усіх гэтых пытаньняў. Выраз яго твару, нібы кажа: «Ну, чаго табе яшчэ?» Робіць так, зразумела, дзеля жарту. Смаліць пастаянна ў клясе. Калі кавалак крэйды адваліўся й на падлогу ўпаў, яму ўсё роўна — няхай валяецца. Заўсёды якія-небудзь прыколы адкалвае. Аднойчы пасьля таго, як нехта бязглуздзьдзіцу сказаў, ён аж рот раскрыў і выпусьціў кубак з каваю, што трымаў у руцэ. Кава, натуральна, разьлілася...

11.09.97. Мы, другакурсьнікі, езьдзілі ў экспэдыцыю на выспу Сваной, што на заходнім узьбярэжжы. На гэтай высьпе практыкуецца аленегадоўля ды промысел рыбы. На Сваноі мы праводзілі розныя біялягічныя й экалягічныя дасьледаваньні, знаёміліся з аленегадоўляй і, што зразумела, з аленямі. Выспа вельмі прыгожая, але адна рэч мяне ўразіла найболей. Гэта грыбы. Грыбоў у Сванойскіх лясох — процьма. Толькі зайдзі ў лес — і адразу можаш убачыць сям'ю з дваццаці баравікоў, ці чырвонагаловікаў штук трыццаць, раскіданых у чарнічніку. Карацей — мая душа грыбніка тут трымцела.

24.11.97. Апошні тыдзень кастрычніка правёў у Амстэрдаме. Дакладней, я там быў усяго тры з паловаю дні. Дарога доўгая: двое сутак у адзін бок.

(...) Сам Амстэрдам зьдзівіў мяне нямала. Вельмі арыгінальны горад. Тэмаю нашага праекту быў лібэралізм Амстэрдама. Наша група працавала ў фірме, якая займаецца арганізацыяй алімпійскіх гульняў для гомасэксуалістаў. Амстэрдам і на самой справе горад вельмі лібэральны. Да таго ж з'арыентаваны на турыстаў. Першая рэч, якая кідаецца ў вочы — гэта сэкс. Сэкс-шопы, сэкс-кінатэатры, эратычныя афішы і фотаздымкі, дамы з чырвонымі ліхтарамі, і нават Музэй Сэксу, куды мы, дарэчы, не паленаваліся зазірнуць. Лібэральны Амстэрдам і ў дачыненьні да сэксуальных меншасьцяў: звычайная карціна — два мужчыны цалуюцца пасярод вуліцы. Другая асаблівасьць — легальны продаж лёгкіх наркотыкаў. На кожным рагу ёсьць кавярні, куды можна зазірнуць і высмаліць цыгарэтку з марыхуанай. Апрача іншага, Амстэрдам вельмі прыгожы горад. Яго яшчэ называюць «Паўночнай Вэнэцыяй»: каналы з вытачанымі, невысокімі дамоч-

Амэрыка гатовая прыняць Беларусь у сваю інфармацыйную прастору. Прынамсі БЫЛА гатовая пару гадоў таму. Але сёньня справа застопарылася. Пераходны пэрыяд. 2 сьцягі, інфармацыя праз Маскву і немагчымасьць што-колечы растлумачыць. Я доўга расказваю перакладчыку Білу пра наш back in USSR і пра тое, як гэта б'е па свабодзе, па культуры і эканоміцы, а ён заўважае, што ў апошнім нумары часопіса Economist для Беларусі прагназуецца эканамічны рост. Дай Бог, — кажу я і адпраўляюся на скрыжаваньне P-street і 22-й вуліцы, каб дзеля падмацаваньня свайго нацыянальнага аптымізму прачытаць на помніку словы ўкраінскага песьняра:

*... коли*
*ми діждемося Вашингтона*
*з новим і праведним законом?*
*А діждемось таки колись!*



*Помнік Тарасу Шаўчэнку ў Вашынгтоне*

камі паабапал іх, пераразаюць горад.

14.01.98. Колькі разоў выйшла сходзіць на вечарынкі: пазнаёміцца з нарвэскай моладзьдзю, патанчыць у мясцовай бар-дыскатэцы. У нарвэжцаў, да слова, з алькаголем праблема. Зарабляюць яны шмат, але жыцьцё ў правінцыі сумнае, таму й цягне іх да сьпіртнога. А праблема ўся ў тым, што гэта сьпіртное яшчэ й цяжка набыць. У мястэчку каля коледжа, дзе жыхароў пад тысячу, нават няма сваёй віна-гарэлачнай крамы. За моцнымі напоямі трэ' гадзіну ў пяцітысячнае мястэчка ехаць, ды й там толькі адна крама такая. Сьмешна. А ў моладзі на вечарынах, увогуле, зусім нязвыклая для мяне традыцыя: кожны прыходзіць са сваёй уласнай пляшкай і п'е ў асноўным толькі зь яе, таварышаў не частуе, як і яны яго.

(...) Калі-нікалі гуляюся з інтэрнэтам. Тут нядаўна знайшоў дзевяць беларускіх газэт, якія магу чытаць па-расейску й беларуску. Знайшоў нават сьвежыя нумары «Свабоды», якая, нягледзячы на тое, што яе забаранілі, усё яшчэ выходзіць на інтэрнэце. Ёсьць там, напрыклад, таксама анталёгія беларускай паэзіі, але пакуль ў ёй толькі пара аўтараў. Яна яшчэ ў працэсе стварэньня.

23.02.98. Прыемна было пачуць па тэлефоне, што ў вас усё нармальна, і што вы памаленьку зьбіраеце грошы на адпачынак летам на моры. Мне таксама хочацца куды-небудзь вырвацца, адагрэцца ад нарвэскіх дажджоў. Але, хоць Балгарыя, Чорнае мора — гэта ўсё, безумоўна, добра, ды Мікалаеўшчыны зь Нёманам, на мой погляд, нішто не заменіць.

# ДВА ДНІ Ў НЯЗЬДЗЕЙСЬНЕНАЙ СТАЛІЦЫ

**Уладзімер Арлоў**



Заміж таго, каб напярэдадні сустрэч з чытацкаю публікай праінвэнтарызаваць свае веды пра ейны родны горад (легендарная Магіла льва; паўстаньне 1661 году, калі месьцічы мэтадычна пераразалі ўвесь расейскі гарнізон; Пётар I і Карл XII; царская стаўка ў першую сусьветную вайну; зьнікненьне крыжа Еўфрасіньні Полацкай у 1941-м; нераскрытае забойства галоўнага абласнога кантралёра і асабістага Лукашэнкавага сябра Яўгена Мікалуцкага ў 1997-м etc.), ты, камфортна ўладкаваўшыся ў аўтамабілі, неабачліва разгорнеш сьвежую кніжку Стаха Дзедзіча «Эпілёг».

Аўтар гэтае навукова-папулярнае «спробы ўбачыць наш шлях», як і ты сам, будзе зусім ня схільны разглядаць Чарнобыльскі чыньнік найноўшае гісторыі Беларусі як адназначна дэструктыўны: гісторыя плянэты (Тыбэт, высакагорнае возера Тытыкака як адзін з цэнтраў культуры інкаў) сьведчыць, што малыя дозы прыроднае радыяцыі станоўча ўплываюць на пасіянарнасьць этнасу. Такім чынам, Чарнобыль спрыяе падзелу беларусаў на дзьве часткі: «большую, якая імкліва дэградуе, нязданая пераадолець генэтычны цяжар тысячагадовае гісторыі і апошніх удараў цывілізацыі, і значна меншую, напоўненую новай энэргіяй стварэньня». Пытаньне, да якой часткі ты адносіш сябе, будзе выглядаць, далікатна кажучы, нетактоўным.

Эпілёг «Эпілёгу» прагучыць ужо цалкам жыцьцесьцьвярджальна. Сапраўды, «на магільніку бляшанак можа выгадавацца толькі аматар старых бляшанак... І калі мы хочам, каб ён добрым словам прыгадаў колішняе балота і людзей, што на ім жылі, неабходна, каб ён зразумеў, што бляшанкам папярэднічала балота (каб не яно, дык і бляшанак не было б) і што гэтыя людзі ёсьць ягоныя продкі».

Карацей, ты будзеш пад'яжджаць да Магілеву, калі і не з удзячнасьцю да стваральнікаў Чарнобыльскай АЭС, дык, прынамсі, фізычна адчуваючы, як цябе перапаўняе й плешча ў берагі новая энэргія стварэньня.

***

Першыя візуальныя ўражаньні ад гораду, дзе ты мусіш выявіць свае пасіянарныя здольнасьці, толькі пацьвердзяць, што якраз цябе тут даўно й прагна чакаюць.

Чакаюць у краме «Аллигатор».

Чакаюць у кнігарні «Мысль» (для тых, хто пазбаўлены згаданай вышэй стваральнай энэргіі, дробненькімі літаркамі зроблены пераклад: «думка»).

Чакаюць у прэзэнтабэльнай камяніцы з задрапіраваным чырвона-зялёным сьцягам гаўбцом, дзе ў траўні 1780 году, аглядзеўшы інтэграваныя пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай беларускія землі, імпэратрыца Кацярына II піла каву з калегам Іосіфам, імпэратарам аўстрыйскім.

Чакаюць у безыменнай сталоўцы, дзе ты імгненна адчуеш сябе памаладзелым на дваццаць пераважна змарнаваных гадоў: цябе агорне сваёй утульнай аўраю абвестка «Ждите отстоя пива»; хрыпаты рэпрадуктар прывітае цябе расейскімі прыпеўкамі; ты зможаш паставіць на залітую ліпучым кісялём тацу «общепитовскую» талерку з тузінам хударлявых кілек; на касе табе прапануюць гарэлку пяці гатункаў і віно «Гранат», а зірнуўшы праз заседжаную мухамі вітрыну на вуліцу, ты ўбачыш насупраць сталоўкі кінатэатар «Чырвоная зорка», дзе сёньня паказваюць фільм, назва якога мае з гэтым травеньскім днём несумнеўную мэтафізычную лучнасьць — «Всё, о чем мы так долго мечтали».

***

У офісе мясцовага аддзяленьня «Маладога Фронту» хтосьці з тваіх менскіх сяброў-літаратараў згадае, што ў выдавецтва, дзе рыхтуецца да друку фундамэнтальная «Археалёгія Беларусі», днямі прыйшоў афіцыйны ліст з катэгарычным патрабаваньнем: вядомага ўсім са школьных падручнікаў і энцыкляпэдыяў паганскага «Шклоўскага ідала» надалей менаваць выключна «Магілеўскім божышчам». Пэўна, не адзін ты адчуеш унутраны пратэст, бо палічыш падвышэньне статусу дагістарычнага стоду да ўзроўню ўсяго толькі вобласьці яўна неадэкватным.

На сьцяне офісу ты заўважыш паведамленьне пра магчымасьць замовіць навінкі беларускае літаратуры. У сьпісе тых, каго цікавіць выданьні «Беларускага кнігазбору» і «Нашае Нівы», будзе фігураваць зацяты беларускі нацыяналіст Аванэс Мурадзян, які нядаўна быў затрыманы міліцыянтамі за пашырэньне маладафронтаўскіх улётак.

Аванэса пакуль што выпусьцілі, і ў вольны час ён любуецца блакітна-зялёнай дняпроўскаю абалоньню і дасканаліць сваю беларускую мову. Ягонаму знаёмцу Ясю Абадоўскаму пашчасьціла меней: пару дзён таму, пасьля выключэньня з Магілеўскага машынабудаўнічага інстытуту і іншых прыгодаў ён зьвярнуўся да польскіх уладаў з просьбаю аб палітычным прытулку.

***

У адрозьненьне ад Берасьця, дзе ў часе вашай папярэдняй пісьменьніцкай экспэдыцыі на кожную сустрэчу заяўляліся віцэ-мэр спадар Працэвіч (выклікаючы ў аўдыторыі вясёлы сьмех, ён спрабаваў даваць на аўтографы 30 сэкундаў або патрабаваць не пісаць у кнігах ніякіх пажаданьняў) або ягоная супрацоўніца спадарыня Забродзіна (пачуўшы небясьпечнае пытаньне, яна ўскоквала й верашчала: «Наши гости голодны. Их ждет обед!»), тутэйшая вэртыкаль абярэ, на першы погляд, больш надзейную тактыку. Літаратурныя спатканьні альбо будуць безь якіх-небудзь вычварэнстваў проста забараняцца (як на гістарычным факультэце Магілеўскае альма-матэр, дзе некалі Кліо не адказала ўзаемнасьцю студэнту Сашу Лукашэнку), альбо зрывацца пад маркаю адсутнасьці пісьмовага дазволу гарадзкога ўпраўленьня культуры.

Аднак сярод пэдагогаў знойдзецца прыстойны адсотак рызыкантаў, а сустрэч з вамі будзе заплянавана гэтак фантастычная колькасьць, што і ў барунках пэрманэнтных перашкодаў вам давядзецца лётаць са школы ў ліцэй, зь ліцэю ў інстытут, а адтуль у каледж у такім шалёным рытме, што на два дні ты будзеш цалкам пазбаўлены магчымасьці хоць раз дачакацца адстою піва ці патэлефанаваць жанчыне тваёй мары.

Твой голад і тваю смагу будуць наталяць адно пачытацкія пытаньні.

***

«Вам ніколі не гаварылі, што Вы падобны да старажытнага чалавека часоў сваіх твораў? Выбачайце, але гэта першае ўражаньне, калі я Вас убачыла».

«Ці згадзіліся б Вы зьехаць за мяжу, калі б Вам прапанавалі за добрую зарплату пісаць там вершы на той мове (не на беларускай)?»

«Будьте так любезны, скажите, пожалуйста, в Вашей жизни было много женщин?»

«Дзе з вамі можна сустрэцца?»

***

Сустрэцца можна будзе хіба што ў касьцёле сьвятога Станіслава, тым самым, дзе вянчаўся Зянон Пазьняк і дзе на вечаровай беларускай імшы ты не налічыш сярод дзьвюх сотняў вернікаў нават трох немаладых кабетаў, у сувязі з чым табе захочацца прывесьці сюды на экскурсію дэлегацыю барадатых служкаў іншае канфэсіі.

***

«Як Вы лічыце, калі Ваша эсэ пра незалежнасьць страціць сваю актуальнасьць?»

«Вам піша бацька вучня былой беларускай гімназіі. Аднойчы настаўніца зайшла ў сынаву клясу і сказала: «Ребята, с сегодняшнего дня мы будем учиться на русском языке. Русский язык — это язык умных и добрых людей...»

«Каково Ваше семейное положение?»

***

Пра сямейнае становішча можна было б пагаварыць у кнігарні «Букініст», але там ты здымеш з паліцы толькі што выдадзены за празрыстай усходняй мяжою падручнік для ВНУ «История России», напісаны Шамілем Магамедавічам Мунчаевым і Віктарам Міхайлавічам Усьцінавым. Здымеш і не пашкадуеш, бо ўжо з другога параграфу — «Русь и сопредельные народы» — даведаесься, што «Литовское государство возникло в XIII в.», што «его основателем был Монгол» і што «русский язык в его западном варианте стал государственным языком ВКЛ»...

***

«Вядомае ўсім выслоўе Ф.М.Дастаеўскага: «Прыгажосьць выратуе сьвет». Ці згодны Вы з гэтым? Што, на Вашу думку, выратуе беларусаў?»

«Мы чулі пра гісторыю з Вашай дзіцячай кнігай «Адкуль наш род». А Вам ня страшна цяпер пісаць? Арыштаваць жа могуць ня толькі кнігу.»

«Як бы Вы ахарактарызавалі лад, які ўсталяваўся ў Беларусі? Мой знаёмы хлопец, напрыклад, кажа, што гэта ніякая не дыктатура, а проста краіна, ператвораная ў вялізны калгас.»

«Пісьменьнік, болей дзевак цiскай, і будуць больш пісаць запіскаў.»

***

Ты даведаесься, што ў Магілеве сем помнікаў Леніну і безьліч партрэтаў правадыра пралетараў. Адзін з самых адмысловых — з пачварна вялікімі і вострымі, як у кажана, вушамі — ты ўбачыш за дзьвярыма, над якімі вісіць шыльда: «Министерство просвещения БССР. Средняя школа № 32».

Межы гэтага анклаву бээсэсэрыі пададуцца табе вусьцішна шырокімі, але ўжо за рогам школы цябе падпільнуе графіці: «Не здадзім маньякам-інтэгратарам нашу Маці-Беларусь!», і ты супакоена падумаеш, што дажывеш да тае пары, калі сталічнае выдавецтва выпусьціць альбом беларускіх графіці канца XX стагодзьдзя.

Працяг на старонцы 14



# ДВА ДНІ Ў НЯЗЬДЗЕЙСЬНЕНАЙ СТАЛІЦЫ

Працяг са старонкі 13

***

«Правда ли, что Вы — цыган? Я ужасть как люблю мужчинок-цыганов. Что Вы мне посоветуете?»

«Займаючыся гісторыяй, ці не даводзілася Вас сутыкацца зь нечым невытлумачальным і загадкавым, як, напрыклад, эгіптолягі з «помстаю фараонаў»? А ў гісторыі Полацку ёсьць свае таямніцы? Ці верыце Вы ў існаваньне звышнатуральных сілаў? Ці былі ў Вашым жыцьці такія выпадкі?»

***

Пра выпадкі, якія сапраўды былі, ты будзеш гутарыць зь дзяўчынаю, адоранай рэдкім у нашых шыротах імем — Сабіна і прозьвішчам Квятко, якое ты, здаецца, пераканаеш яе вымаўляць і пісаць праз націскное «е» і з канчаткам «а», што, магчыма, станецца найістотнейшым вынікам тваіх дзесяці магілеўскіх літарацкіх сустрэчаў.

***

Калі ты ўпершыню хадзіў па гэтых вуліцах напрыканцы 70-х, увесь горад быў абклеены афішкамі: «Могилевчане, будьте культурны! Мусор бросайте только в урны!» З таго часу зьмянілася ў бок памяншэньня адно колькасьць урнаў.

***

Так, ты памятаеш, як адзін твой рэдактар калісьці сур'ёзна папярэджваў цябе, што бачыць навокал найперш дрэннае для савецкага пісьменьніка проста недаравальна.

Той рэдактар будзе задаволены табою, бо ты заўважыш, што на доме па праспэкце Міру, дзе жыў беларускі паэт Аляксей Пысін, чыю памяць удзячныя нашчадкі ўшанавалі, як і мае быць, мэмарыяльнай дошкаю з расейскім тэкстам, нейкая галава зь відавочным адхіленьнем у мазгах загадала павесіць новую дошку з надпісам па-беларуску.

***

Ты пашкадуеш, што з табой не прыедзе твой саўтар-гісторык Генадзь Сагановіч. Асабліва востра табе будзе не хапаць яго на вечарыне ў гарадзкім Доме культуры, дзе ты атрымаеш з залі наступны ліст:

«Арлов! Не знаю, как вас лучше называть: спадарь или, может, сэр? Нам известно, что вы с еще одним таким самым писаком с еврейской фамилией по типу Каганович написали книжку будто бы про нашу историю «10 вякоў бел. гісторыі», где собрали всякие собственные измышления типа того, что наше молодое бел. государство будто бы древнее и дряхлое, потому что образовалось тысяча лет назад во времена Рогволода, который, как известно, был совершенно не нашим предком, а варягом, а Полоцкое княжество ничего общего с современной Белоруссией не имеет. К счастью, нашлись в Академии Наук настоящие историки, которые вашу книженцию запретили. Надеемся, что не последнюю».

***

Ігуменьня магілеўскага Сьвята-Мікольскага манастыра Яўгенія распавядзе табе пра безьліч чалавечых костак, якія знайшлі рэстаўратары пад Мікалаеўскім саборам, дзе ў 30-я месьцілася перасыльная турма НКВД. Сярод сотняў перазахаваных пад манастырскаю капліцаю шкілетаў маці Яўгенія наймацней запамятае два: вялікі і маленькі, дзіцячы, костачкі якога навечна пераплёліся з матчынымі.

***

«Як Вы ацэньваеце шанцы Васіля Быкава на Нобэлеўскую прэмію?»

«Не сакрэт, што жонкі, дзеці і ўнукі многіх (большасьці?) беларускіх пісьменьнікаў (членаў Саюзу пісьменьнікаў) ня ўмеюць ці ня хочуць гаварыць па-беларуску. А на якой мове гаворыць Вашая сям'я?»

«На пытаньне, што ён будзе рабіць, даведаўшыся, што заўтра — канец сьвету, Марцін Лютар адказаў, што будзе садзіць яблыні. А што рабілі б Вы?»

***

Сядаючы ў начны менскі цягнік, ты па-ранейшаму будзеш нездольны даць адказ на пытаньне, шкадуеш ты ці не, што меркаваны напрыканцы 20-х гадоў перанос сталіцы БССР у Магілеў (настрашаная міжнародным імпэрыялізмам улада пасьпела пабудаваць нават кропля ў кроплю гэткі самы, як у Менску, Дом ураду) так і не адбыўся.

На мокрым ад дажджу пэроне ня будзе ні натоўпу прыхільнікаў, ні задуменнай дзяўчыны Сабіны, якая верыць у помсту фараонаў.

*Травень, 1998.*



**Спачатку зьявілася ідэя правесьці 14 ліпеня чарговыя паэтычныя чытаньні. Потым была сфармуляваная назва — «Паэзія і Рэвалюцыя». Потым падумалася, што дзеля разьвіцьця ідэі на мерапрыемства варта запрасіць спадара Пасла Францыі ў Беларусі. Але тут мяне апярэдзіў аматар дэструктыўных акцыяў нехта L. і сваімі паводзінамі прымусіў спадара Пасла пакінуць межы маёй Краіны. Тады ад маразму сталіцы я ўцёк пад дажджы правінцыі.**

**... Моцны вецер хістаў бухматыя лапы хвояў, кневала качаня ў траве, сарока дзяўбла недасьпелую трускаўку... І паўставала перад вачыма рэвалюцыйная Францыя: дзень 14 ліпеня, 1789 год, звяваная Бастылія, і пасьля — паход Імпэратара праз беларускія землі, спадзевы Літвы на вяртаньне прывілеяў Вялікага Княства...**

**Дзеля далейшага разьвіцьця ідэі я ўзяў некаторыя вершы францускіх паэтаў, каб перакласьці іх думкі на мову Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Славамір Адамовіч



**Дамінік Гранмон**

МАНІФЭСТАЦЫЯ

*Першая кропля дажджу*
*на падбародзьдзі, побач з вуснамі —*
*нібы кроў. Толькі вецер*
*можа падняць гэты сьвет,*
*гэтыя афішы, апалыя лісты,*
*песьню дзяўчат, шалікі і натоўп —*
*можа падняць да ўзроўню дрэваў.*

**Гі Бельле**

СЬПІНОЮ ДА КАЗАРМАЎ

*Прыхільны да казармаў,*
*асьлеплены, як рэч, якую толькі што*
*распакавалі,*
*хістаючыся ад пераліўістай прасторы,*
*я ўбачыў свабоду – гарызантальная, круглая,*
*яна кружляла па калідорах вядомых месцаў*
*на небе,*

# Пасьляслоўе да новае

**Валянцін Акудовіч**

**С**амая вялікая каштоўнасьць, якая ёсьць у чалавеку, гэта тая жывёліна, што жыве ў ім... Раней гэтая жывёліна мясьцілася наўсьцяж усяго чалавека, але тысячагодзьдзі цывілізацыі неўпрыкмет адсунулі яе ў самы яго ногі под, загналі ў сутарэньні чэрава і скрайнюю плоць. Яшчэ трохі – і ёй не застанецца месца й там, у рэзэрвацыі.

Калісьці гэтай жывёліны ў чалавеку было шмат, а чалавека зусім мала. Маленькаму чалавеку было няўтульна ў вялікім целе жывёлы, і яму тады вельмі хацелася чалавечага, як мага болей чалавечага...

Спакваля чалавек атрымаў тое, чаго яму так моцна жадалася, але за жаданым не заўважыў, што разам з тым ён страціў. А страціў ён тую магутную жывёліну, якая несла яго скрозь тысячагодзьдзі небыцьця ва ўсё новае быцьцё.

Хто панясе чалавека далей ужо скрозь іншыя тысячагодзьдзі? Тое расьпешчанае выгодамі цывілізацыі зьвяранятка, што яшчэ неяк знаходзіць сабе месца ў чалавеку? Але калі не яно, то й нішто іншае. Вось чаму нават гэтае анэмічнае зьвераня цяпер пачынае выяўляцца для чалавека большай каштоўнасьцю, чым усё ўласна чалавечае, усё створанае гэтымі гамэрамі, рэмбрантамі, бэтховэнамі, эдысонамі, эйнштэйнамі...

Я ня ведаю, чаму ні пра што яшчэ, а менавіта пра жывёльнасьць чалавека, як пра абсалютную для яго каштоўнасьць падумалася мне, калі я перагарнуў апошнюю старонку «Дамавікамэрону» й вышаў на гаўбец, каб пацешыцца зь вялізнай калматай хмары, якую Пярун гнаў у бок майго жытла.

Пэўна, Адам Глёбус, складаючы свае брутальныя навэлкі, меў на мэце што заўгодна, толькі не апалягетыку «скаціны», і тым ня менш я, трохі адхіснуўшыся ад тэкстаў, думаў не пра тое «нізкае», што татальна апанавала прастору цяпер ужо двух «Дамавікамэронаў», а, наадварот, пра нешта «высокае», пра нешта значна вышэйшае і за Плятонаў верхні эйдас эйдасаў – Дабро, і за Плоцінава ўсёдыіснае адзінае, і за Хрыстовую неабсяжную Любоў, – і гэтае нешта, больш высокае за ўсё вышыннае, месьцілася ня дзесьці наверсе ўсяго існага, ня ў нейкай абсалютнай высьціні і цноце ідэальнага, а ў самым нізе, хавалася за брудам, гноем, смуродам, як бы а priori правакуючы для сябе сытуацыю табу, як самую надзейную хованку для таго, што змушана заўсёды быць навідавоку...

Гэтае «нешта больш высокае за ўсё вышыннае» розныя людзі называлі па рознаму: Шапэнгаўэр – воляй да жыцьця, Ніцшэ – воляй да панаваньня, Фройд – лібіда, Гайдэгер – воляй да волі, Дэлёз і Гватары – машынай жаданьняў... Але як бы хто ні называў тое, што ляжыць у аснове жывога жыцьця і ўвесь час рухае яго адбывацца ў безьлічы праяваў, найлепей выяўляе сутнасьць гэтага руху мужчына, які гвалціць жанчыну. Менавіта гвалціць – ня просіць, ня ўлашчвае, а бярэ сам; бярэ жорстка, бязьлітасна і, магчыма, нават без асаблівай асалоды, а толькі таму, што так трэба.

Вось пра гэтае «так трэба» я й думаў, углядаючыся ў расьцярэбленую сечкамі бліскавіцаў хмару й разважаючы, што хаця кожная са ста дваццаці двух навэлаў падвоенага «Дамавікамэрону» мае свайго «пэрсанальнага» героя, але, па сутнасьці, герой тут адзін, і гэта – вылэцканая ў спэрме і экскрымэнтах магутная жывёліна зь цяглічаў ды хэнці, якая бязьлітасна, жорстка і, калі заўгодна, абыякава сто дваццаць два разы гвалціць адну і тую самую жанчыну (нават калі паводле сюжэту й ня гвалціць і не жанчыну...) толькі таму, што так трэба, што гэтага пэрманэнтнага гвалту патрабуе нешта больш значнае й магутнае і за Дабро Плятона, і за Любоў Хрыста...

***

Чалавек – гэта толькі дадатак да свайго чэлеса. Чэлес (у стане эрэкцыі) – тая дамінанта, якая вызначае каардынаты ўласна чалавека й арганізуе яго ў пэўную сытуацыю, у пэўную падзею быцьця.

Пра сваю ролю як дадатка да чэлеса чалавек даведаўся даўно, аднак гэтае веданьне яму настолькі было недаспадобы, што ён яго ня толькі затабуяваў, але на гэтае табу яшчэ панаскідаў безьліч адмысловых мітаў і самых розных прыгожых словаў (кшталту «эрас», «любоў», «каханьне» і да т. п.) ды іншых вытанчаных прыдумак, каб толькі ніхто й ніколі не даведаўся праўды. А калі ў гэтым цьвілым рызьзі й спа-

а потым – нічога. Толькі па горла свабоды.
І ўпэўненасьць, што я ў ёй прамыю вочы
першы і, можа, апошні раз.
Трапляючы з камэры ў камэру, уяўляў я
свае сьляды ў гэтай лопнутай будучыні,
дзе я спадзяваўся рассыпаць гульнёвыя косьці
ўласнай няздатнасьці.
Упісаны ў пэрспэктыву прыроды,
валодаў я падарункам,
які быў варты
трыюмфальнага вяртаньня выгнаньніка.
Райскім, дальбог, падарункам
за пякельнае паніжэньне.

***

Падрыхтуйся: табе будзе нялёгка.
Нягоднікі заўсёды пазнаюць адзін аднаго –
па адсутнасьці ценю на цэрах.
Як можна ў гэта ня верыць?
Яны маюць перавагу ў росьце, жалезную
лёгіку
маюць,
яны, як дубцы, якія бесьперастанку, адзін за
адным,
вымаюць з вады.
Нягоднікі – твая супрацьлегласьць. Яны
пішуць
свае законы на позвах
пра волю маёмасьці.
Іх шмат, яны падтрымліваюць адно аднаго.
Яны спрашчаюць жыцьцё.

**Ален Ланс**

НА НЯМЕЦКІ ЛАД

*Пры ўмове, што вулічны рух
перацяты ня будзе,
пры ўмове, што шэсьце не апануе прастору
гандлёвых шляхоў,
пры ўмове, што дэманстранты ня ўзьдзенуць
ні масак, за якімі мажліва схавацца,
ні заплечнікаў, у якіх закарціць схаваць
зброю,
пры ўмове, што надпісы і транспаранты
ня будуць разыходзіцца з духам канстытуцыі–
дазваляецца праводзіць дэманстрацыі,
паколькі мы ў краіне свабоды й галоснасьці,
аднак дзеля большай бясьпекі
некалькі бронемашынаў загадзя
будуць на кожным участку важным
сачыць за парадкам волевыяўленьня
нашых суграмадзянаў.*

**П'ер Тыльман**

***

Я стаміўся жабраком уставаць штораніцы
і цягнуцца па вуліцы хмарным днём,
я стаміўся змагацца зь нікчэмным жыцьцём,
я стаміўся ў пустэльні штоночы спаць,
я стаміўся стамляцца, як зьвер,
я злы на ўвесь сьвет цяпер,
я сыты па горла гэтым багном.

ПУСТАТА

Я голы й босы,
лічу страты,
разуты й разьдзеты,
з пустымі рукамі,
з пустой галавой,
ўвесь у ранах і язвах,
цемра перад вачыма,
больш нічога ня бачу,
людзей больш няма,
людзі пайшлі па хатах,
але зьніклі будынкі;
лёгка крытыкаваць камфорт і шэрасьць
жыцьця-быцьця,
пустое,
больш нічога няма,
пясок, пыл і смог,
у горле пяршыць,
называйце гэта забруджваньнем асяродзьдзя,
тупасьцю й атлусьценьнем,
называйце гэта сьвінствам
нашага бяздарнага жыцьця –
гэта ўжо ня мае значэньня.
Я зноў узяў у рукі пяро,
я зноў вычухаў свае скаргі,
я прадоўжыў стары раманс,
я быў паэтам, потым адклаў пяро
і ўжо паэтам ня быў,
я не ўваходжу цяпер ні ў якія шэрагі;
калі б я мог зразумець, чаму
жанчына бярэ дзіця на рукі
і ўпускае яго на зямлю,
юнак выходзіць на сонца
й заходзіцца кашлем –
называйце гэта супадзеньнем,
называйце як хочаце,
ува мне адна пустата,
я бачу пустыя сны, жыву з пустымі
вантробамі,
цалую з пустой душою,
але я ведаю ўсё, што трэба гаварыць,
каб здавацца жывым,
я ведаю цану любові і імгненьням шчасьця,
умею гуляць, як хлопчык;
я ведаю, што трэба гаварыць,
каб мець выгляд жывога,
але я ўздрыгваю кожны раз,
калі міма праносіцца хлопец на матацыкле,
і не магу адвесьці вачэй ад дзяўчынкі,
што скача праз матузок вераўчаны і
заліваецца сьмехам,
я памятаю штохвіліны
пра таго, хто кінуты ў турму,
хто выправіўся ў шлях,
хто завяршае жыцьцё суіцыдам...

**П'ер Дэлла Фай**

УЖО

Прэч з падмосткаў! Я патрабую адмовы,
адрачэньня й адвагі.
Ужо ты ня ўбачыш ні багацьця, ні славы.
Барбары ў госьці завіталі да нас.
Ніхто не заўважыў, што яны ўжо даўно – тут.
Пасьмяемся з прыдуркаў. Яны ўсё яшчэ
зь нецярпеньнем чакаюць, што вось-вось
прыземляцца робаты з Марсу!
Урадуйся! Ужо закапалі Паэзію, яе
надмагільле – карыкатура.
Нават у чалавека ўжо праваліўся нос
ад смуроду вялікіх сталіц.
Нашэсьце барбараў – гэта ня дзікія,
лютыя зграі.
Гэта з гнойнай клаакі высочваецца смурод.
Вось і неба ўжо ванітуе.
Яно таксама. І ўжо.

14 ЛІПЕНЯ 1998 ГОДУ Славамір Адамовіч запрашае да ўдзелу ў арт-акцыі «ПАЭЗІЯ І РЭВАЛЮЦЫЯ». У Менску, у 18.00 каля помніка Янку Купалу, што насупраць цырку.

Ад несамотных нашых радкоў няхай папясе душа Рэвалюцыі, каб у падчарэўі сталічных двароў скінуць гвалтоўны плод канстытуцыі!



# кнігі Адама Глёбуса «Дамавікамэрон»

рахнелым ламаччы нехта наважваўся поркацца, каб пацікавіцца, што там спадысподу, то адразу ўсчыняўся несусьветны гвалт: ня руш сьвятыні! І так было да таго часу, пакуль не знайшоўся чалавек, абыякавы да ляманту. Звалі таго чалавека Зыгмунд Фройд. «Гэтыя любоўныя інстынкты называюцца ў псыхааналізе a potiori й па сутнасьці зьяўляюцца сэксуальнымі памкненьнямі. Большая частка інтэлігенцыі ўспрыняла гэтае найменьне як абразу й адплаціла за гэта тым, што папракнула псыхааналіз у пансэксуалізьме. Хто лічыць, што сэксуальнасьць утрымлівае ў сабе нешта абразьлівае і прыніжальнае для чалавечай прыроды, хай ужывае больш шляхетныя назовы: эрас і эротыка. Я мог бы сам гэта зрабіць ад самага пачатку й тады пазьбег бы шматлікіх абвінавачаньняў. Аднак я не хацеў гэтага, бо па магчымасьці ўнікаў патураньня ўласнай слабасьці. Нельга наперад ведаць, куды завядзе гэты шлях: сьпярша саступаюць у дачыненні да словаў, а затым паступова і ў дачыненні да сутнасьці. Я ня бачу якой-небудзь заслугі ў тым, каб саромецца сэксуальнасьці: грэцкае слова «эрас», якое павінна зьмякчаць сорам, урэшце, ня што іншае, як пераклад слова «каханьне»; і напрыканцы, «хто мае цярпеньне чакаць, таму няма патрэбы ўлагоджваць».

Магчыма, некаму падасца, што гэтая вялікая цытата тут не зусім да месца, але мне яна вельмі патрэбная й пэўна я нават ня здолею скарыстацца ўсім яе патэнцыялам, каб больш выразна выказаць нешта для мяне істотнае ў гаворцы з нагоды «Дамавікамэронаў» Адама Глёбуса.

Каб напісаць «Дамавікамэрон», трэба не саромецца ляманту й быць абыякавым да гвалту абражаных. Гэта па-першае. Па-другое: у абсалютнай большасьці навэлаў Глёбус, гэтаксама як і Фройд, мог бы «зьмякчыць» нейкія словы, іншыя памяняць на больш «прыгожыя» ці абысьціся эўфэмізмамі, а лішнюю брутальнасьць сытуацыяў загнаць у падтэкст, у сугестыю, укласьці ў шматзначныя паўзы, урэшце, абмінуць, як абмінае «гэта» ўся беларуская літаратура спакон веку, і тады мы мелі б два зборнікі «звычайных» навэлаў. Але Адам Глёбус не пайшоў гэтым шляхам, хаця пэўна ж зусім не таму, што ён, як і Фройд, прагнуў нічым не прыхарошанай ісьціны (якая там «ісьціна» ў літаратуры). Інтэнцыі да гранічнай сэксуалізацыі «звычайных» навэлаў трэба шукаць у нечым іншым. У чым? Сам аўтар кажа, што яму хацелася, каб у беларускай літаратуры была хоць адна кніга, якую трэба хаваць ад дзяцей. (Дарэчы, амаль усё, што піша Адам Глёбус, яму ад некага даводзіцца хаваць: ад мамы –»Толькі не гавары маёй маме», ад суседзяў і сваякоў –»Койданава», ад дзяцей – «Дамавікамэрон»; гэты пералік я мог бы значна пашырыць, але тады ён вымагаў бы больш разгорнутых тлумачэньняў.)

Тое, што хаваюць – даўжэй захоўваецца. Толькі трэба мець цярпеньне чакаць (яшчэ раз нагадаем Фройда: «... хто мае цярпеньне чакаць, таму няма патрэбы ўлагоджваць». Дзеці вырастуць у дарослых, і ім абавязкова закарціць паглядзець, што ад іх хавалі бацькі. Паглядзяць і схаваюць ад сваіх дзяцей, каб тыя ў сваю чаргу некалі зрабілі тое самае... І так бясконца... Вось ён, літаратурны «пэрпэтуум мобіле».

Магчыма, эфэкт кнігі на ўсе часы – гэта пабочны эфэкт, які ад пачатку не прадугледжваўся аўтарам, прынамсі – сьвядома. Але атрымалася, што атрымалася. Цяпер нават каб Адам Глёбус сам захацеў схаваць «Дамавікамэроны» назаўсёды й ад усіх, гэта ўжо будзе немагчыма. Мэханізм «вечнага» рухавіка пачаў дзейнічаць...

***

А яшчэ Адам Глёбус сьцьвярджае, што «Дамавікамэроны» – гэта анталёгія сучаснага гарадзкога фальклёру, дзе аўтар выступае адно ў ролі зьбіральніка.

Адам Глёбус фальклярыст – гэта выглядае спаважна й шляхетна. Толькі я ніколі не даваў веры дэклярацыям літаратараў. Падобна, што і ў нашым выпадку Адам Глёбус альбо містыфікуе нас, альбо проста падманвае, – магчыма, разам з намі й самога сябе. Я ўжо не кажу пра тое, што ладная частка тэкстаў – гэта «звычайныя» навэлы, якія маглі быць уключаныя ў любы іншы зборнік (і можа найменш прыдатнае ім месца ў «Дамавікамэронах»). Але й фармальна як бы фальклёрныя паданьні ў пераважнай сваёй большасьці выдуманыя аўтарам. Адам Глёбус сам і праектнае бюро, і канвэер па вытворчасьці брутальнага гарадзкога фальклёру. Некалькі лякальных сюжэтаў і герояў вуснапаэтычнай творчасьці, якія беларуская вёска прыхапіла з сабой, калі пераехала ў горад, Адам Глёбус разгарнуў у шырокую квазі-фальклёрную панараму, дзе месьціцца мноства герояў, кожны зь якіх ёсьць альбо чарговы аўтарскі варыянт традыцыйнага вобразу, альбо ўвогуле «новатворам». Хаця зусім верагодна, што некаторыя зь ягоных герояў спакваля пераселяцца са старонак «Дамавікамэрону» ў гарадзкія сутарэньні й зажывуць там самастойным жыцьцём.

Але не адно мадэрнізацыяй пачварнага сьвету адметны праект Адама Глёбуса. Ад традыцыйных легендаў і паданьняў (між іншым, у аўтэнтыцы часам таксама дастаткова брутальных) і іх літаратурных вэрсіфікацыяў (кшталту «Шляхціца Завальні») квазіфальклярыстыку Адама Глёбуса гранічна адцяняе яе цялеснасьць. Традыцыйныя здані й прывіды былі істотамі пераважна бясплоцевымі й таму ў большай меры тоесьніліся з імпатэнтна-інфэрнальным, а не з сэксуальна-жыцьцядайным сьветам. Ня так у Адама Глёбуса, яго здані й прывіды – гэта кавалкі магутнай плоці сэксуальнай машыны, якая зьдзяйсьняе сэксуальную волю быцьця зь нейкай нават гіпэртрафаванай прагай, як быццам яны, героі ірэальнасьці, спрабуюць кампэнсаваць тое, што татальна страчвае герой сучаснай рэальнасьці – жывёльную прагу волі да панаваньня над жыцьцём.

***

Адам Глёбус увогуле па прыродзе свайго пісьма не эратычны (жаночы, сьціплы, акварэльны, дыялягічны, пасіўны...), а сэксуальны (мужчынскі, халодны, графічны, маналягічны, агрэсіўны...) пісьменьнік. У «Дамавікамэронах» гэта бачна найбольш выразна.

Мужчына эратычны настолькі, наколькі эротыка дапамагае яму зьдзейсьніцца сэксуальна. Толькі герой Адама Глёбуса амаль ня мае патрэбы ў эратычным, паколькі ён мужчына ў абсалютным значэньні (нават калі яго герой і не мужчына й сэксуальна не заангажаваны...). Эратычныя гульні ён пакідае сэксуальным недамеркам, а сам зьдзяйсьняе сваю хэнць адкрыта, адразу й напоўніцу, бо воля да жыцьця й панаваньня ня мае патрэбы хавацца й ня можа чакаць.

Як сьведчаньне гэтаму, варта прывесьці той факт, што пераважная большасьць навэлаў «Дамавікамэронаў» арганізуецца голым сэксуальным актам, нахабна вызваленым з-пад эратычнага покрыва таямнічасьці (так вызваляецца з-пад кажуха рухавік на дэманстратыўным стэндзе).

Вызначыўшы ў героі за сутнасьць яго агрэсіўную сэксуальнасьць, Адам Глёбус вярнуў у кантэкст беларускай літаратуры мужчыну (а можа дакладней было б сказаць, што ён стварыў прэцэдэнт мужчыны ў беларускай літаратуры, бо ці быў увогуле ў нашай вечна румзаючай паэзіі й прозе мужчына?). І гэта неістотна, у чым (кім) ён пэрсаналізуецца: у зданях, пачварах ці досыць прыстойных эстэтах ды інтэлектуалах (між іншым, у Адама Глёбуса нават «сьмерць – мужчына»).

Падобна, што гэтая падзея нас ня надта ўсьцешыла. За апошнія стагодзьдзі мы настолькі прызвычаіліся абыходзіцца без мужчыны, так налаўчыліся замяняць ягоную адсутнасьць нейкім рамантычным сымулякрам, што гэты эгаістычна-жорсткі, прагматычна-бязьлітасны, сэксуальна-нахабны тып нас добра-такі напалохаў, бо мы калі й чакалі прышэсьця ў Беларусь Мужчыны, то пэўна ж ён мроіўся нам зусім іншым.

Беларускі мужчына мусіў быць большым прывідам за сам прывід, нечым накшталт ружовай аблачыны ў нагавіцах ад францускага куцюр'е, але зь беларускім лэйблам на худым азадку...

***

А можа, мы «Дамавікамэроны» не ад дзяцей хаваем, а ад саміх сябе, бо баімся даведацца, што ня толькі сьмерць, а і жыцьцё – мужчына. І гэты мужчына-жыцьцё зусім не падобны на тыя здані й прывіды, сярод якіх нам так утульна было нэндзіцца жыцьцём і да якіх так соладка цяпер сыходзіць у невараць. Сыходзіць усім разам, усёй Беларусяй...

Пярун нарэшце прыгнаў хмару да майго гаўбца, але й тут, ужо ля самай зямлі, ён не стамляючыся раз-пораз успорваў яе цела бліскавіцамі маланак... Пачынаўся дождж. Я зачыніў дзьверы на гаўбец і пайшоў пісаць пасьляслоўе да «Дамавікамэронаў».

# БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Валю Радзіеўскую — сардэчную кабету й шчырую беларуску-ліцьвінку віншуем. Антось. Вікця

Шукаю новых знаёмых па электронным ліставаньні на беларускай мове. Тэмы: Каханьне і Воля, etc. Сяржук. E-mail: twoserge@usa.net

Віншую ўсіх сяброў Кальварыйскай Рады МФ з Купальлем. Aut vincere, aut mori!

Віншуем Сержука Шмялёва з днём нараджэньня. Жадаем шчасьця і посьпехаў у барацьбе. МФ «Кальварыя»

Віншую Сяржука Шмялёва з днём нараджэньня! Няхай зьдзейсьняцца ўсе твае мары! (Налівай!) Твой сябра — Паўлюк

Гітарыст (22 гады) шукае музыкаў для стварэньня рок-гурта. Тэл.: 249-04-19. Міша

Маневіл Пацэвіч! З днём нараджэньня! «Усе мы разам ляцім да зор...» Веры. Надзеі. Каханьня. Рамонак

Кампутар 286 — Pentium, мадэрнізацыя. Тэл.: 237-56-12

NRM — мы дапаможам! Рэканструюем стрыжку; робім парыкі на заказ; дапаможам зрабіць «сэканд-хэнд» з асабістых рэчаў. Кваліфікавана парвем джынсы. Асаблівая просьба зьвярнуцца Лявону Вольскаму («прычоску каронай не прыкрыеш»), у якасьці аплаты прысылаць Ляўкова па пошце. Таня і Даша з вуліцы «на лініі фронту»

Прадаю маркі БНР: сэрыю з 4 марак, якая прысьвечаная 40-м угодкам Слуцкага збройнага чыну, кошт 75000 руб. і сэрыю з 2 марак да 450-х угодкаў друку ў Беларусі, кошт 45000 руб. Алесь Сабаленка, п/с 268, 220131, Менск

Дачушка Яначка, віншую з днём нараджэньня. Табе ўжо сем годзікаў і ты зрабілася вялікаю дзяўчынкаю. Тата Вова

Набуду за добрыя грошы «Гульню шкляных пэрлаў» ў перакладзе В.Сёмухі. 211800, Глыбокае, вул. Леніна, 107-34

Набуду альбо з удзячнасьцю вазьму пачытаць кнігу Шыраева «Русь Белая. Русь Черная и Литва в картах». Тэл.: 274-86-43. Анатоль, з 19 гадзін па будзёных днях

Запрашаем патрыётаў да згуртаваньня. МГАТ «Ліцьвіны», а/с 124, 246012, Гомель

Запрашаем прыхільнікаў манархіі. Ліцьвіны, згуртуемся дзеля сапраўднага адраджэньня! МНАТ «Licviny», a/s 1246 246012, Homiel

Шукаем адрасы манархічных выданьняў, літаратуру, якая прапагандуе манархічны лад. а/с 124, 246012, Гомель

Тата! Віншую цябе з пасьпяховай здачай летняй сэсіі і днём народзінаў! Янка

Віталь! Віншую з днём нараджэньня! Зычу посьпехаў, выкананьня ўсіх тваіх мараў. Брат Андрэй

Шукаю дзеля знаёмства прыхільніцу музыкі й ідэалёгіі нарвэжца Varg'a Vikernes'a. Тэл.: 250-40-62. Аляксей

Спосабы: нарошчваньня цягліцаў без «хіміі» і трэнажораў, павелічэньня росту да 8 см і грудзей на 1-2 памеры бяз «хіміі»; як кінуць піць і паліць. Капэрта са зв/а + купон б/а. А/с 147, 246012, Гомель-12

Здыму пакой. Тэл.: 271-23-63

Маю на продаж больш за 80 найменьняў запісаў беларускіх гуртоў, бардаў; значкі, плякаты; кампакт-дыскі: «Песьнярок», Крыві» — «Вір-Чувір», «Камелот»; відэакасэты: «Рок па вакацыях», «Рок-каранацыя» і інш. 220085, Менск а/с 5.

Гарадзенскі гурт «Deviation» шукае памяшканьне для рэпэтыцыяў. Тэл.: 0152-313046

*Рыхтуецца выданьне альбому Міхася Раманюка*

# «Беларускія народныя крыжы»

Міхась Раманюк



Беларускія народныя крыжы

Новая ілюстраваная манаграфія Міхася Раманюка была падрыхтаваная аўтарам яшчэ пры жыцьці. За 25 гадоў вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі Міхась Раманюк сабраў мноства зьвестак пра непаўторныя асаблівасьці беларускага пахавальна-памінальнага абраду, зрабіў тысячы ўнікальных фотаздымкаў надмагільных і абрадавых беларускіх крыжоў і магілаў, сабраў вусныя сьведчаньні старых людзей. На падставе гэтых дакумантаў зробленая поўная сыстэматызацыя й клясыфікацыя ўсіх формаў і функцыяў крыжоў, месцаў іх устаноўкі па ўсёй Беларусі. Аналягаў гэткага выданьня няма ў нашых суседзяў, а ў Беларусі й ня будзе, бо носьбіты аўтэнтычнае традыцыі адыходзяць у нябыт, а большасьць прадстаўленых помнікаў страчана незваротна... Альбом зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24x30 см. Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто зацікаўлены ў пашырэньні традыцыйнае беларускае культуры, з просьбай паспрыяць выданьню кнігі. Бяз Вашае дапамогі выданьне будзе немагчымае.

Адрас для імянных чэкаў і пошты: *Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.*

## Historical dictionaty of Belarus

(Гістарычны слоўнік Беларусі)

У амэрыканскім выдавецтве Scarecrow Press выйшаў «Гістарычны слоўнік Беларусі», апрацаваны др. Янкам Запруднікам. Кніга мае разьдзелы: гістарычная храналёгія (ад пачатку да нашых дзён); уводны артыкул – агляд гісторыі Беларусі; слоўнікавая частка (больш за 400 артыкулаў і біяграфічных даведак); бібліяграфія (у тым ліку і асабліва англамоўная); дадатак «Валадары Беларусі» (ад Рагвалода да Лукашэнкі). У кнізе дзьве карты: на адной пададзеныя галоўныя гарады, другая паказвае стратэгічнае палажэньне Беларусі ва Ўсходняй Эўропе.

Кніга Запрудніка выйшла ў сэрыі «Эўрапейскія гістарычныя слоўнікі» (#28). Такога роду даведніцкую літаратуру набываюць шмат якія бібліятэкі. На сёньняшні дзень – гэта адзінае англамоўнае выданьне, зь якога можна пачэрпнуць інфармацыю пра гістарычную й сучасную Беларусь. У кнізе зьмешчаныя даведкі пра гістарычных асобаў беларускай гісторыі й бягучай палітыкі, палітычныя партыі; артыкулы пра археалёгію, плямёны, галоўныя гарады, рэкі, эканоміку, асьвету, гістарыяграфію, дэмаграфію, мову, культуру, літаратуру, мастацтва, рэлігію, нацыянальную ідэю, беларускую эміграцыю, рэфэрэндумы, парлямэнт, правы чалавека й г.д.

У слоўніку пададзены два беларускія альфабэты: кірылічны й лацінічны. Усюды ў кнізе ўжываецца беларускі лацінічны альфабэт. Слоўнік можа быць дапаможнікам для тых, хто слаба азнаёмлены зь беларускай лацінкай.

Кніга напісана папулярным стылем. Яна будзе карысная ў сем'ях, у якіх школьнікі, дзеці або ўнукі амэрыканцаў, канадцаў, брытанцаў і аўстралійцаў беларускага паходжаньня, цікавяцца краем сваіх продкаў. «Гістарычны слоўнік Беларусі» можа быць таксама карысны для тых, хто вывучае ангельскую мову й хоча карыстацца ёю ў інфармацыі пра Беларусь.

Кошт кнігі – 55 даляраў. Яе можна выпісаць з выдавецтва:

*Scarecrow Press 4720 Boston Way Lanham, MD 20706 (800) 462-6420*

# беларускі гістарычны агляд

– пакуль адзіны навуковы пэрыёдык Беларусі па гісторыі. Заснаваны ў 1994 годзе, ён зь першага нумару імкнецца працаваць на разьвіцьцё айчыннай гістарыяграфіі – публікуе найноўшыя дасьледаваньні, перакладзеныя ў беларускую мову працы найбольш аўтарытэтных заходніх вучоных, рэфэраты і агляды літаратуры, якія знаёмяць беларускага чытача з дасягненьнямі і тэндэнцыямі гістарычнай навукі сьвету. Часапіс ведаюць ня толькі ў Беларусі. Яго атрымлівае больш за 50 самых буйных бібліятэк Эўропы й Амэрыкі. Станоўчыя рэцэнзіі й водгукі на БГА друкаваліся ў замежнай пэрыёдыцы – у часапісах «Вопросы истории», «Гензэа», «Zapiski Historyczne», «Studia Historyczne», «Lituano-Slavica Poznaniensia», «Przegl(d Wschodni» і інш. Аднак сярод беларусаў гэтае выданьне застаецца малавядомым.

Вясною б.г. выйшаў чарговы нумар БГА (Том 4 (1997) Сшыткі 6-7, 318 с.), у якім, сярод іншага, артыкулы «У пошуках Сярэднявечча» (Г. Сагановіч), «Краёвасьць у беларускай і літоўскай гісторыі» (А. Смалянчук), «Палякі-беларусы: узаемныя стэрэатыпы» (Р. Радзік), «Вайна 1912 году і Беларусь: вызваленьне ці акупацыя?» (К. Маль). У рубрыцы перакладаў чытач знойдзе мэтадалягічныя тэксты Эдварда Кара і Лорэнса Стоўна. Аглядны артыкул Губэрта Лашкевіча «Беларусь і беларусы ў польскіх падручніках па гісторыі» адкрывае новую рубрыку «Вачыма суседзяў». У «Архіваліях» – працяг успамінаў Францішка Кушаля «Спробы арганізацыі Беларускага Войска пры нямецкай акупацыі Беларусі». Амаль палову часапіса адведзена пад рэцэнзаваньне новай літаратуры, важную інфармацыю з навуковага жыцьця.

Зацікаўленыя могуць набыць часапіс у рэдакцыі - непасрэдна або праз пошту.

BHA, vul. Skaryny 1, 220072 Miensk



## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Дзеружынскі А. Вернасьць: Вершы: Для ст. шк. веку / Прадм. М.Яфімавай. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 271 с. —(Школьная бібліятэка). — Наклад 24700 ас. ISBN 985-02-0129-0

Зарэцкі М. Сьцежкі-дарожкі: Раман: Для ст. шк. веку / Прадмова М.Мушынскага. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 351 с. — (Школьная бібліятэка). — Наклад 22500 ас. ISBN 985-02-0093-6

Культура беларускага замежжа. Кн.3. / Пад рэд. А.Сабалеўскага; Склад. і прадмова А.Сабалеўскага. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 192 с. — Наклад 800 ас. ISBN 985-08-023

# Беларускія музычныя навінкі

1. Крама. Што дапаможа нам. – Ковчег, 1998.
2. KRIWI. Vir-Чувір. – RADIO-mix, 1998.




«Наша Ніва» незалежная газэта заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Аддзел інфармацыі Андрэй Лапцёнак. Макет Віктар Корзун. Адрас для допісаў 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2780. 8 палос фарматам А2 нумар падпісаны ў друк 23.20, 28.06.1998. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N 3853

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г. выдадзеная Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газеты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12